Анатоль СЫС

# Лён

## Выбраныя творы

Паэзія, артыкулы, інтэрв'ю

Мінск
«Кнігазбор»
2006

УДК 821.161.3-8
ББК 84 (4 Беи)
С 95

Укладанне і прадмова
Міхася Скоблы

**Сыс А.**

**С 95** Лён: выбраныя творы / Анатоль Сыс. Мінск: Кнігазбор, 2006. – 436 с.

ISBN 985-6824-35-4.

Кніга «Лён» — найбольш поўнае выданне літаратурнай спадчыны выдатнага беларускага паэта Анатоля Сыса (1959–2005). Яго паэзія не пакідае чытача абыякавым, яна нясе ў сабе і эстэтычнае пачуццё, і неўтаймоўны тэмперамент, і нічым не абмежаваную спавядальнасць. У аднатомавік апрача хрэстаматыйных вершаў увайшлі і невядомыя творы, а таксама артыкулы і інтэрв'ю, якія істотна дапаўняюць воблік паэта.

**УДК 821.161.3-8**
**ББК 84 (4 Беи)**



ISBN 985-6824-35-4

# СЭРЦАГРАМЫ СЫСА

На рэчыцкім Палессі, у Гарошкаве над Дняпром, у роднай паэтавай хаце, на пабеленай печы — барэльеф сэрца. Там, дзе звычайна вымуроўваюцца адмысловыя пячуркі для запалак-сернікаў ці лучыны. Дзе звыкла цешаць вока промні-каснікі сонечнай цыбулі. Дзе дбайная гаспадыня наперад накажа муляру прыладзіць драцяны гаплік, на якім зручна прасушыць вопратку.

А тут — сэрца. Як абраз любові, які моўчкі пераглядаўся з маляваным абразом, што на покуці. Пад гэтымі позіркамі і гадаваўся Анатоль-Толік, сын Ціхана Сыса. Са старой пабеленай печы мураванае Сэрца глядзела на русявага хлапчука. Маці Божая — з покуці.

Ці не таму пазней у Сысавых вершах слова СЭРЦА станецца сэнсавай і частотнай дамінантай. У гэтым, зрыхтаваным праз год пасля смерці паэта «Выбраным», у сугучных варыяцыях яно сустракаецца больш за сотню разоў. І ў іншых паэтаў найперш вабілі Сыса радкі, у якіх хай сабе жураўлінае, хай сабе вышыванае кратамі, а білася неўтаймоўнае і палымянае сэрца.

«Каб былі грудзі на завесах, дык бы сэрца паказаў». Калі б не ведаў, што прыгаданая прыказка запісаная ў пачатку мінулага стагоддзя на Лагойшчыне, падумаў бы, што памяць паслужліва падсунула яшчэ адзін радок Сыса — настолькі гэта ягонае. Сэрца сваё ён адкрываў для ўсіх. Прычым адкрываў насцеж,

не надта рупячыся пра ахоўныя засланкі і завесы, што мусілі ўсё ж засцерагаць ад празмерных пранікненняў.

Сысава паэзія апякае, як расплаўленая магма. Схаладнелыя пачуцці і словы ў паэтавым сэрцы дасягалі градусу кіпення — не, не стоградусавага ўзвару, а плаўлення жалезнай магмы! Каб затым у варатку натхнення гартаваліся і насычаліся моцай на вечнае жыццё вершы. Яны — своеасаблівыя сэрцаграмы паэта, па чыёй крывяноснай сістэме замест лейкацытаў і эрытрацытаў шугалі тысячавольтавыя шаравыя маланкі. «Я сам, як маланка», — вызначаў свой стан паэт у хвіліны творчага гарэння.

Нездарма свой першы зборнік Анатоль назваў «Агменем». А паэме пра «радаводнае дрэва беларусаў», змешчанай у тым зборніку, даў імя «Агонь-птушка». Нязгасны агонь палымнеў на Сысавым паэтычным ахвярніку. Агню паэт давяраўся і, не баючыся апёкаў, размаўляў з ім «вусны ў вусны». Бо агонь — самая чыстая зямная стыхія.

Ці працяглае яно — ачышчальнае сумоўе з агнём? Кажучы папросту, ці мае паэзія, апрача якаснага, яшчэ і колькаснае вымярэнне? Максім Багдановіч — аўтар аднаго, але неўміручага «Вянка». Паўлюк Багрым «выкаваў» усяго два творы: верш на паперы «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» і верш у метале — жырандолю. Камусьці — мала. З гледзішча вечнасці — дастаткова.

З гледзішча вечнасці Анатоль Сыс пакінуў больш чым дастаткова. Асабліва калі ўлічыць, што сваім паэтычным крэсівам ён выкрасаў іскры маланкападобныя, прызначаныя не для распальвання труту, а для запальвання сэрцаў.

Калі вальналюбны Пегас і зможа хадзіць пад дугой, дык толькі пад вольтавай. На жаль, яна вельмі небяспечная для самога вершніка — можна згарэць на паўдарозе.

«Я яшчэ не попел і не прысак!» У гэтым воклічы паэтавым і надзея, што не пагасне запеплены сэрцам зыркі агмень, і разу-

менне, што ўвесьчасна знаходзіцца пад напружаннем немагчыма і небяспечна.

Не, не праходзіць бясследна здабыванне паэтычнага агню. Дарагой цаной даводзіцца плаціць творцу за кожную здабытую іскрынку. Не толькі бяссоннем, спаленымі нервамі, але і жыццём. І гэты спаконвечны спосаб Праметэя, на жаль, не мае альтэрнатывы.

Таму не спяшайцеся папракаць творцу за працяглае маўчанне. Яно — ратавальнае, хоць адначасова і пакутнае. Аркадзь Куляшоў перад «Новай кнігай» (1964) маўчаў восем гадоў. Янка Купала — цэлых шаснаццаць, напісаўшы ў 1926-м развітальнае: «Я адплаціў народу, чым моц мая магла». І хто ведае, да чаго б дамаўчаўся...

Не творачы — паэту жыць невыносна. Дні без вершаў — як абязводжаны пясок у пустэльні, высыхаюць, выпетрываюць і пазбаўляюцца сэнсу. Калі Бог запраграмаваў паэта на малітоўнае Слова, на высокае гучанне, то хто праграмуе яго на маўчанне? А магчыма, маўчанне — проста замепнік вершаванаму пустаслоўю? Тады і яно — ад Бога.

Бо паэт — Божая жалейка, у якую не мае права дзьмуць нячысцік. Права не мае, але карціць яму, часам, падкрасціся і выдзьмуць з тае жалейкі яе спеўную мілагучную душу. Толькі жалейка, настроеная Богам, мусіць і гучаць па-боску. Суладна і гарманічна, адпаведна з Божымі задумамі.

Анатоль Сыс у апошнія гады маўчаў, але не дазволіў заплямiць гербоўнік свайго паэтычнага гонару. Не даў нячысціку зрабіць у жалейцы дадатковую адтуліну — дзеля фальшывай ноты.

Філосаф Мікалай Бярдзяеў пісаў, што сэнс творчасці — у сустрэчным руху да Бога, у супрацоўніцтве з Ім. Паэзія Сыса і ёсць трапяткім сустрэчным рухам, хоць сваю палову дарогі паэт адолець не спяшаўся. А чаго спяшацца, калі ў абодвух у запасе вечнасць...

З другога боку, праз вершы паэт выбаўляецца ад болю, які назапашваецца ў ім. Назбірваецца крытычная маса, а сродку для анестэзіі няма і няма... Боль выходзіць — разам з церневым вершам. І адбываецца катарсіснае ачышчэнне. Для паэта, літаратуры, нацыі.

Па балючасці Сысава паэзія ў сучаснай айчыннай літаратуры не мае сабе роўных. Кроў, Крыж, Сляза, Атрута, Агонь (Агмень), Вярыгі — выспавядальная, болевая лексіка Сыса. Вобразы ягоныя (асабліва ў вершах апошніх гадоў, што мелі скласці так і не выдадзеную кнігу «Ягамосць») жахаюць: «А над светам белы чэрап поўні», «Беларусь мая — мая магіла»... У адным з Анатолевых аўтографаў слова «Беларусь» напісанае як «Бедарусь». Выпадковасць? Звычайная апіска? Ці — паказальная?

Як паэт-пасіянарый, Анатоль Сыс спрабаваў весці за сабой народ. Не атрымлівалася... Сябры следам ішлі, паплечнікі ішлі, «Тутэйшыя» ішлі, а народ чухаў патыліцу. Зноў жа, як у Купалы: «Па колькі нам дасі чырвонцаў, калі мы пойдзем за табой?». Канфлікт паэта з народам — з'ява ў Беларусі амаль традыцыйная. Бо адпачатку незразумела: што стаіць за словамі «беларускі народ»? Філосафы над гэтай загадкай век цэлы біліся — не разгадалі. Пісьменнікі ў роднага народа дзве душы ўбачылі — а пэўнасці не было і няма. Паасобку людзі — як на рэнтгенаўскім здымку відныя з усімі сваімі вартасцямі і недахопамі, а ў мільённай сваёй іпастасі ўяўляюць з сябе таямніцу вялікую. І што на душы ў народа — не ведае, напэўна, ніхто.

Думаю, калізія гэтая не аднойчы паглыбляла ў одум і Сыса. І прападала ў яго ахвота «з цэлым народам гутарку весці». Іншая справа — з наведнікамі сталічнага Дома літаратара, ці з роднымі гарошкаўцамі. А пасля спробаў няўдалага сумоўя з народам застаўся верш-прысуд «Дух».

Прыканцы 1980-х гадоў на менскім стадыёне «Дынама» адбываўся адзін з самых шматлюдных мітынгаў, ініцыяваны Бе-

ларускім Народным Фронтам. Слухачоў сабралася тысяч дваццаць, пераважна паслухмяная партыйная наменклатура, што прыйшла на стадыён па казённым абавязку службы. Сыс хадзіў і ажно трымцеў у прадчуванні яднання з народам. Але словы пра адраджэнне груздлі ў пыжыкавых шапках, як у заімшэлым балоце. Не дакрычацца, не дагукацца. І паэт адмовіўся выступаць. Помняцца яго ўмомант патухлыя вочы.

А чытаў Сыс, як і пісаў, — непаўторна. Праз хвіліну-другую ад першых прамоўленых словаў авалодваў аўдыторыяй, як магчарадзей. Адухоўлены твар, бездакорная дыкцыя, вібрацыі голасу — усё супадала і змушала безадрыўна слухаць. Энергетыкай паэт валодаў незвычайнай. Шаравыя маланкі і тут давалі пра сябе знаць.

Незабыўны яшчэ адзін выступ Анатоля Сыса. Увосень 1987 года ў Купалавым скверы сабралася грамада — адзначыць Дзень памяці Дзяды. Спачатку Анатоль электрызаваў слухачоў «Маналогам «Тутэйшага». «І Радзіма твая, паглядзі, — русакосая Янычаршчына», — неслася над анямелым скверам, рэзануючы між абкарнанымі званіцамі касцёла (сённяшняй Катэдры) і спічакамі праваслаўнага сабора. А потым у чуйнай цішыні прагучалі імёны загубленых у 1930-я гады.

Уладзімір Хадыка... Валеры Маракоў... Тодар Кляшторны...

Здавалася, Сыс імёны не прамаўляў, а высякаў, як каменячос, на мармуры.

Міхась Чарот... Алесь Дудар... Цішка Гартны...

Здавалася, Сыс не памінальны спіс чытаў, а рэабілітоўваў усю расстраляную літаратуру, маючы на гэта паўнамоцтвы не ад павярхоўна-вярхоўных судоў, а ад самога Бога.

Анатоль Вольны... Алесь Салагуб... Юлі Таўбін...

Пасля тых Дзядоў узнік «Мартыралог Беларусі» — арганізацыя, якая нямала зрабіла для ўшанавання памяці рэпрэсаваных.

І ў паэзіі Анатоль Сыс любіў зладзіць пераклічку. Любіў адштурхнуцца ад чужога радка — Фэдэрыка Гарсія Лоркі ці Міколы Купрэева. І няма ў гэтым аніякай заганы. Бо ў паэтычным космасе сусветы паэтаў не ізаляваныя адзін ад другога. І межаў там не існуе. Наадварот, іх святло ўзаемаспалучаецца і прырастае суседнімі промнямі.

Ну каго, скажыце, абурае, што ў шэдэўральным «Я помню чудное мгновенье...» радок «гений чистой красоты» належыць не Пушкіну?.. Ці каму не дае спакою той факт, што Шастаковіч у сваёй Пятнаццатай сімфоніі выкарыстаў музычныя фрагменты з Расіні і Вагнера?.. Ці не задумана такое спалучэнне дзесьці на нябёсах і ці не ёсьць яно яшчэ адной спробай дамагчыся найвышэйшай дасканаласці?

Прыемна чытаць вершы ў залах з наладжанай акустыкай. Але гук павінен адбівацца не ад сценаў ці скляпенняў, а ад людскіх душаў. У гэтым сэнсе няма вялікай розніцы, дзе гучыць паэзія — у Чырвоным касцёле ці на Пляцы Бангалёр, адведзеным менскімі ўладамі пад «масавыя мерапрыемствы». Але і душы людскія — сейсмограф ненадзейны. Сёння цябе слухаюць тысячы на плошчы, а заўтра — пяць сяброў на кухні. Найлепшы і самы дасканалы рэзанатар — час, а ён, як вядома, да ўсіх ставіцца з аднолькавай патрабавальнасцю. Змяняецца час, і верш раптоўна пачынае гучаць і рэзанаваць на новы лад.

Летась на міжнародным паэтычным фестывалі «Pobocza—2005», які ладзіцца на захадзе Польшчы, у размове з сербскім паэтам Даянам Мацічам я працытаваў Сысавы радкі пра тое, як у Дняпры «тры русалкі, славянкі тры янычаравых мыюць коней». Працытаваў і адчуў, як раптоўна наструніўся сябра серб — два паэтычных светы судакрануліся балючай для абодвух метафарай.

Дык дзе ж месца паэта ў гэтым далёка не ідэальным свеце? У высокай і зацішнай вежы ці, наадварот, на змагарных барыкадах?

Месца паэта — за пісьмовым сталом. А ўсе астатнія дарогі, дзе б яны ні пралягалі, — толькі падступы да таго стала і тых імгненняў пакутлівага шчасця, якія даводзіцца за ім перажыць.

Паэзія жыве ў паэтавай душы на ўзроўні інстынкту. Таму немагчыма забараніць нараджэнне радка. Ён прыходзіць — і ўсё. На выспах Акіяніі вядуцца птушкі, якія вымошчваюць свае гнёзды каменьчыкамі, а потым расфарбоўваюць іх сокам са сваіх дзюбак. І дзейства гэтае не што іншае, як інстынктыўны мастацкі акт. Птушкі-мастакі круглы год дыхаюць вільготным марскім брызам, а таму не ведаюць, што такое сухмень і смага. Беларускія паэты ведаюць.

Кастрычнік 1989 года. У Доме літаратара праходзіць вечарына трыццацігадовага Анатоля Сыса. Выступоўцы сядзяць на сцэне ў даволі шматлюдным прэзыдыуме. Пакуль паэт у белым патрыцыянскім убранні заваражвае прыціхлую залу, я са збанка на століку наліваю ў шклянку падазрона чырвонае пітво. П'ю — сапраўды віно. «Жыць без паэзіі? Гэта ж пагібель! Жыць без віна? Гэта ж смерць удвайне.» А хто ж пажадае паэту падвойнай пагібелі...

Адзін з сямі мудрацоў антычнасці Анахарсіс яшчэ дзве з паловай тысячы гадоў таму даводзіў сваім бахусалюбным сучаснікам: «Любая вінаградная лаза дае тры гронкі — асалоды, п'янноты і мярзоты». Але як вызначыць межы паміж гэтымі трыма станамі — старажытны мысляр не патлумачыў.

Анатоль Сыс жыў з адчуваннем даранай яму ад нараджэння свабоды. Паэзія яго была свабоднай, і сам ён аніякіх вярыгаў на сабе не цярпеў. «Ні грошай, ні славы — я волі хачу.» Як гэта рэдка ў жыцці бывае: вызначыць для сябе credo і да апошніх дзён трымацца яго. Сыс трымаўся. Большага бяссрэбраніка, чым ён, і ўявіць складана. Жыў у сваёй аднапакаёўцы, жывіўся чым Бог паслаў. Раздаваў сябрам і знаёмым кнігі, рэчы, падараваныя яму мастакамі карціны. З адным толькі партрэтам

Максіма Багдановіча не разлучаўся. Мабыць, змог бы жыць і ў пячоры пустэльніка і вершы на сценах пісаць. Ёсць жа наскальны жывапіс, чаму наскальнай паэзіі быць не можа...

У паэзіі Анатоля Сыса шмат фантасмагарычнага. У рэальным жыцці ён таксама нярэдка дазваляў сабе розныя містыфікацыі. І ў свой апошні шлях выправіўся, выкарыстаўшы незвычайны антураж. Калі цела паэта выносілі з Дома літаратара, у небе расцвіталі гронкі салютаў. Чуліся ўзмоцненыя дынамікамі воклічы «Ура!» На календары было 9 траўня; Менск чарговы раз святкаваў Дзень Перамогі.

Падобнае дзейства адбылося 115 гадоў таму ў Парыжы. Калі з царквы святога Тамаша Аквінскага выносілі ў труне Гіёма Апалінэра, французская сталіца святкавала замірэнне з Нямеччынай. Тады натоўп таксама гарланіў «Ура!»

Сыс і тут не ўтрымаўся, каб не зладзіць своеасаблівую пераклічку. Апошнюю. З паэтам, якога любіў, які называў бутлі з шампанскім найлепшай у свеце артылерыяй. Продкі якога, Кастравіцкія, былі беларусамі.

Шырокавядомы матыў у беларускіх народных песнях: хлопец гіне на вайне, а яго конь сам-адзін, без вершніка, прыбягае дадому.

Можа, і Сысаў паэтычны Расінант, самотны, вярнуўся ў Гарошкаў, блукае па зарослым быльнягом старажытным Гарадзішчы.

«Ой, сівы конь стаіць...»

Сівы крылаты конь, што хадзіў пад вольтавай дугой.

*Міхась СКОБЛА*

* * *

— З чаго пачаць?.. Пачну з Радзімы.
Так абавязаны пачаць.
— Але ў яе ты не адзіны,
навошта пра любоў крычаць?

— Няхай, няхай я паўтаруся
ў любові тысячу разоў,
затое шчыра ў ёй клянуся,
без фальшу, без падробных слоў.

— Што ж, пачынай.
Сам выбраў долю...
й нядоля знойдзецца сама.
Перад табою поле бою —
тут не адзін паэт сканаў.

## ХВОРЫ ХЛОПЧЫК З ЦАЦКАЙ

Хворы хлопчык з цацкай лёд на шыбе ліжа,
да шчакі прымерзла сіняя сляза.
Гэткі ціхі хлопчык, гэткі хлопчык рыжы,
быццам я ці брат мой дваццаць год назад.

Чаму хмурны, хлопчык? Чаму сумны, хлопчык?
Рана табе думу асвятляць слязой.
Адвядзі на цацку, калі ласка, вочы —
лёд расце на шыбе, востры, як лязо.

## ХЛОПЧЫК З ПАЦЕРКАМІ

Гуляе з пацеркамі хлопчык,
а пацеркаў на нітцы пяць.
Парвецца нітачка аднойчы,
маністы долу паляцяць.

Адну здзяўбе паджары певень,
чатыры згубяцца ў мурог,
а бедны хлопчык на каленях
параніць руку аб нарог.

## ПАСТУШОК

Хлопчык пасвіць коз на касмадроме,
быццам лес — высокая трава,
у траве той хлопчык — чыста гномік,
дзьмухаўцом пакрыта галава.

Светлы мой, бялюткі ты мой хлопчык,
не страсай дадолу дзьмухаўцоў,
запарушыш сіненькія вочкі,
хто ж загоніць козачак дамоў?

* * *

Не выракалася жыта валошкаў,
не выракалася поле бяроз,
маці з абруса змятала крошкі,
помнячы мой небагаты хрост.

— Помні ж і ты смак вады святое, —
часта казала мне
і рукой
слёзы хавала — нібы былое —
слёзы свяцей ад вады святой.

* * *

Мой дзед
спаць укладваў сваю галаву сівую
на Біблію,
бабуля — на сноп жытнёвы,
бацька — на ложа вінтоўкі,

а маці маю я ніколі не бачыў, каб спала, —
па пёрку, па два
ўсё збірае мне пух на падушку.

## СЕЙБІТ

Ходзіць кругам усявышні сейбіт,
поўню з сонцам за сабой вядзе,
лёс зямны адбіты ў зорным небе,
як аблічча сейбіта ў вадзе.

Лёс зямны адбіты ў зорным небе:
будзе дождж, і засуха, і град,
толькі сейбіт у сялянскім зрэб'і
рассявае жыта сярод ляд,

толькі сейбіт у сялянскім зрэб'і
поўню з сонцам водзіць за сабой,
век ад веку ён зямлёй не грэбуе,
век ад веку ён жыве зямлёй.

* * *

Дарога полем — да маці.
Дарога лугам — да бацькі.
Дарога рэчкай — да любай.
Але
і полем, і лугам, і рэчкай
іду заўжды да Радзімы.

## ГАЛОДНЫ ГОД

Бацька мой у год галодны
каласкі збіраў на полі.
Так цяпер збіраю словы
мовы любай, мовы роднай.

Беспадстаўныя папрокі:
быццам мы не галадалі,
быццам нам жывецца лёгка —
поле нават не аралі...

Так скажу:
ару я мову.
І бывае, ў непагоду
стынуць вусны, мёрзнуць словы,
я з хатолкай — год галодны.

І ад хутара да вёскі
мову родную жабрую,
за вяснянкі праўлю косы,
за былічкі ладжу збрую.

І ад хутара да вёскі,
і ад Пінска аж пад Шклоў

кос палескіх пагалоскі
з непаўторным звонкім «о».

Ажываю, калі вырай
пад нябёсамі курлыча,
гэта ён радзіму кліча:
Кры-чаў, Кры-чаў, Кры-чаў, Кры-чаў...

Ажываю, калі сосны
каля Рэчыцы спяваюць,
быццам маёй маці кросны
чаўнаком прашылі памяць.

Ажываю...
Ажывае
на Палессі тура ўздых,
там цячэ вада жывая —
мова прашчураў маіх.

Піць яе — не наталіцца
пад пуцінай млечнай:
лета — золак — шчамяліца...
маці — мова — вечнасць...

## АДНОЙЧЫ ПАМІЖ БЕРЛІНАМ І ВАРШАВАЮ

Зямля — мудрая калоссямі,
прыгожая кветкамі,
моцная дрэвамі — родная зямля.

Аднойчы паміж Берлінам і Варшаваю
я трывожна задумаўся:
а якая яна мною?
Яе поле я яшчэ не ралліў,
яе лугі я амаль не касіў,
і лес яе ўзгадавалі без мяне.

Было мне такое сненне:
дзве маці дзялілі слёзы па сыну,
што на чужыне ў жаўнерах.
Дзве маці ў аднаго сына...
І былі яны такія родныя —
мая маці Марыя
і мая маці Радзіма.
Слязінкі іх цёплыя
і песні іх сумныя
мне птушкі прынеслі ў дзюбах
аднойчы...
Аднойчы паміж Берлінам і Варшаваю
я трывожна задумаўся...

## СОН

Прымроіла мяне маці,
прачнулася без пары,
святло запаліла ў хаце,
прайшла па пустым двары,

а потым прымроіў бацька,
прачнуўся, дастаў з гары
драўляныя мае цацкі,
лато, лемантар стары.

І я недзе ў тлумным Мінску,
аблудны ваш сын, не спаў,
над сненнем сваім стаяў,
нібы над пустой калыскай,
а ў сэрцы, як нож, — жарства,
а ў зрэнках — бацькоў вярста.

## СТАРАСЦЬ

Мірна пасвяць мудрыя кітайцы
песнямі валоў сваіх рахманых.

Птахі пахнуць белаю акацыяй,
песні пахнуць белымі туманамі.

* * *

Гэты свет — для размену манет:
не адкрыўшы таемнасці слова,
кожны дзень памірае паэт,
кожны дзень нараджаецца новы.

Вось і я эстафету прыму —
залатое пяро Агонь-птушкі,
але
што наспяваю яму?
Я ж у песні — не пан, толькі служка.

Марна ўсё. Як калінавы цвет
знішчыць свет, і багоў, і смяротных,
не пакінуўшы ў космасе след
ад мяне і зямелькі гаротнай.

## СТО КРОКАЎ ДА СВІТАННЯ

Сівое неба — коні ў яблыках,
да світання сто крокаў.
На чорныя, цёплыя грудзі зябліва
зярнятамі падаюць зоркі.

Сто зорак — сто крокаў.
Раса на мяжы світання...
барвовае сонца... конскае вока...
тайна.

Брыдуць крумкачы баразной. Як людзі
віновыя птушкі.
Уніз па полі ралля заблудзіць —
каса з падушкі.

## СОХНЕ ТРЫСНЁГ МАЁЙ ПАМЯЦІ

Сохне трыснёг маёй памяці.
Быццам не жыў, не кахаў.
Быццам не зоркі пад раніцу —
я
  у мінулым знікаў.

Кожны свой дзень назязюлены
бачу наперад, але
памяць пабіў нехта кулямі,
памяці мне не стае.

Не.
Не баліць майму целу,
сэрцу найболей баліць —
быццам штодзень пад прыцэлам,
прыкрай няпомнасцю жыць.

## ЖАНЧЫНА

— Паміж намі агонь. Калі ты кахаеш — ідзі да мяне.
І тады, нават знявечаную, буду кахаць цябе яшчэ
мацней, чым да полымя.

— Ты — садыст, мой мілы.
— Так, але ў мяне ёсць апраўданне: я закаханы.
— У такім разе — тваё апраўданне ў агні.
Ідзі да мяне, мой мілы.

І я згарэў. Затое апраўдаўся, мая любая.

## ЗАБОЙСТВА Ў НЬЮ-ЁРКУ

Далоні ў крыві, мая Ёко, японская жрыца.
Жанчыны на вуліцах плакалі, як па тваім.
О, гэтая зорка з пуцінай над прорвай у жыце...[1]
На веях Амерыкі слёзы пашкодзілі грым.

«Лятучая мыш, незвычайная пеўчая птушка»
Евангеллем ад сябе асвятляла натоўп пусты.
Нямы музыкант на аматарскіх кінастужках
Адзін-адзінюткі абраннікам кулі застыў.

Нью-Ёрк быў заўсёды тваім улюбёным домам...

---

[1] Забойца не збіраўся ўцякаць. Ён спакойна запхнуў рэвальвер у кішэню нагавіцаў, дастаў з другой кішэні кніжку «Над прорвай у жыце» Сэлінджэра і ціха апусціўся ў чытанне.

* * *

Аеравыя крылы,
крынічная бруя
пульсуе, быццам жыла
забітага каня.

А ў небе нейкі вырай,
угледзеўшы ваду,
ажыў —
і вецер крылы,
як ветразі, надзьмуў.

Спытаюся у птушак,
як сядуць на аер:
ці маюць яны душы,
бы чалавек ці звер?

Няўжо ім не ўсё роўна:
крынічны гэта край,
пустэльны альбо горны,
пякельны альбо рай...

Аеравыя крылы,
крынічная бруя...
Птушыная айчына,
належу ёй і я.

## СЛОВЫ

Неба сыпала словы,
і пакуль да людзей
гэты дождж адмысловы
далятаў — ён радзеў,

заставаліся тыя,
з якіх моцы ўзялі
дзеці бацюхны Кія,
дзеці Крыўі-зямлі.

Тыя словы, як знічы,
як уздыхі сурмы,
боскім голасам клічуць
самых верных з гурмы,

тыя словы, як вочы,
скажуць больш, чым паэт.
Той, хто чуў іх, не збочыць,
не ўцячэ ў іншасвет

ад лясоў верасовых,
ад часовых нягод,
ад бацькоўскай высновы:
верай моцны народ!

## ЧАЛАВЕК, ЯКІ ПАДТРЫМЛІВАЕ АГМЕНЬ

Чалавек, які падтрымлівае агмень,
чалавек, які беражэ каханне,
чалавек, які моліцца хлебу,
прыйдзі да мяне,
прыгнечанага каменным горадам,
разбітага няўдачамі і паўсядзённай мітуснёй,
раздражнёнага бюракратамі і крывадушнікамі.
Я не буду дамагацца тваёй дабрадзейнасці,
я не буду дапытвацца,
        як падтрымліваюць агмень,
        берагуць каханне,
        моляцца хлебу.
Проста пасядзі са мной,
мне будзе дастаткова тваёй маўклівай прысутнасці,
і калі ты пакінеш мой дом —
ты не пакінеш мяне.

* * *

Каб сагрэць каханую,
пілігрым спаліў свой посах,
які толькі адзін ведаў
дарогу да роднага краю,
вандроўны музыка — скрыпку,
якая помніла яшчэ прадзедавыя песні,
рыбак — вёслы
на пустэльным востраве,
якія не раз ратавалі яго
ў самыя жорсткія штормы.

Ці змагу я спаліць свае вершы,
каб агнём іх сагрэць
дарагога мне чалавека?

## ВЯЧЭРА ПЕРАД КУПАЛЛЕМ

Вячэра перад Купаллем…
Мне чуецца, як звіняць
Пашкевічанкі каралі,
на нітцы іх сорак пяць.

Наўмыснасць ці супадзенне:
гэты журботны лік…
Ставілі на калені
паўстанцаў амаль жывых.

Сканалі, ды ўсё ж не сталі,
помнілі, як Кастусь
ступіў на смяротныя шалі
з думаю пра Беларусь.

— Ты з намі, ты з намі, браце! —
мне чуецца, як крычаць
няскораныя паўстанцы
з ратугамі на плячах.

* * *

*Ахвярую Віктару Івашкевічу*

...І мяне натхняе воля,
быццам птушку вецер з поля,
а без ветру ёй не жыць
і над полем не кружыць.

А цябе натхняе зброя.
«Зброя, — кажаш, — гэта воля!
А без волі нам не жыць
і Радзіме не служыць».

## КОЛЬКІ

Колькі нашай крыві
рэкі сплавілі ў моры?..
Колькі нашага поту
увабралі разоры?..

Колькі нашага шчасця
ліхадзеі раскралі?..
Колькі нашых каханак
паланянкамі сталі?..

Колькі нашай любові
не спазнала Радзіма?..
Колькі вояў-сыноў
не счакала радзіна?..

Колькі, колькі, дык колькі ж
сваё крэўнае траціць?
За дзяцей, каб адплакаць —
не стае слёз у маці.

Колькі, колькі, дык колькі ж
адмаўляць сабе ў праве
шанаваць сваё месца
на чырвонае лаве?

Колькі, колькі, дык колькі ж
азірацца на сонца?
Як аслепнем дашчэнту —
гэтак жыць нам бясконца.

* * *

Якое б жыта ні ўрадзіла,
але калі яно расло
пад песні жаўрукоў радзімы, —
мілей не знойдзеш каласоў.

Адзіны дотык іх гаючы
заменіць сотні мудрых кніг.
О лан, вятрыскамі агучаны,
мой верш жытамі ўскалыхні!

А калі доля быць паэтам,
дык мерай спраў маіх ці слоў
мне будзе не цнатлівасць кветак,
а важкасць спелых каласоў.

* * *

Часта пытаюцца:
як вершы пішуць?
А як жыццё жывуць.
Вось Тэатр Лоркі:
правым вокам ён плача слязу радасці,
левым вокам ён плача слязу гора,
і, зліваючыся,
яны нараджаюць вечную пакутніцу —
паэзію.

## КАЛЯ ТВАЙГО ПАРОГА

Вясёлка над Белай Руссю —
гэта мая мара,
ляцяць пад вясёлку гусі,
нібы пад вянец, па парах.

Туманы над Белай Руссю —
гэта мая самота,
да белай зямлі тулюся,
аб ёй мой найпершы клопат.

Завеі над Белай Руссю —
гэта мае пакуты,
ды я ўсё адно, як бусел,
да гэтай зямлі прыкуты.

Грымоты над Белай Руссю —
гэта мае трывогі
па песнях знябытых гусляў
каля твайго парога.

## ТРЫПЦІХ УТУЛЬНАГА ВОГНІШЧА

### Самотны

У агню — чалавека прысмак.
Здрадай і вернасцю вечны.
Нікчэмны гарачы прысак.
А мне — гэта Шлях Млечны.

Прастуджаная ваўчыца
і тая
агні цікуе.
З агнём да расы прамаўчыце,
зязюля пакуль закукуе.

Пра долю раскажуць рысы,
калі прыпаліш ад свечак.
Зыбаты гарачы прысак.
А мне — гэта Шлях Чалавечы.

Засцігну агонь аднойчы.
Ці знойдуць мне месца людзі?

Цямнюткай і вогкай ноччу
ваўчыца цяжарная блудзіць.

## І высеклі вінаграднікі

І вы
секлі
вінаграднікі,
клалі
вогнішчы
сярод поля,
душы
грэлі
безаглядныя.

Вы не прыйдзеце сюды болей.

Падаў снег,
як падлёткі з гнёздаў.
На грудах згарэў вінаградар.
Дымам горкім апошні роздум:
саджанцы пад градам.

## Асацыяцыя з начнымі матылькамі

На дне свечкі, на зыходзе ночы
з веямі абпаленымі вочы.
Чалавек быў дзіўны і бяссонны:
не падносьце свечак да іконы...

## МАНАЛОГ ЗМІЦЕРА ЖЫЛУНОВІЧА

Як пазашлюбны плод,
свае хаваю думы:
адвеку мой народ
нібы пад ветрам дзюны.

А вецер дзьме і дзьме,
то ўсходні, то заходні,
за ім не разглядзець
ні сонца, ні паходні.

А вецер дзьме і дзьме,
то чорны, то чырвоны,
прывучвае людзей
да грошай, да пагонаў...

Як пазашлюбны плод,
свае хаваю думы:
чаму ж ты, мой народ,
падатлівы, як гума?

* * *

Дарога ў жыцці і ў жыце.
Выток дзе яе? Дзе канец?
Парвецца жытнёвы вянец,
калоссі, хоць вы памяніце
адвечным, пакутным агнём —
Купалам мяне зашапчыце,
засну пад яго курганом.

## МУЗЫКАМ ФАЛЬКЛОРНА-ЭТНАГРАФІЧНАГА ГУРТУ «СВЯТА»

Не! Не звёўся, не сышоў
з Беларусі дух народны,
грай музыкаў-святароў —
як вятры з сівой Гародні,

як нябесны гул званіц
над нямымі курганамі,
не, народны дух не знік
нават з продкамі, ён з намі.

Грайце ж, хлопцы-святары,
адраджайце свята ў людзях,
бомы хай, як снегіры,
звонам прашчураў абудзяць.

Адгукнуцца курганы,
акрыяюць песні ў вуснах,
хлопцы, ну, калі не вы,
хто ж адродзіць беларусаў?

Пілігрым з чужых краін?
Ці залётных птахаў вырай?

Але гэты край не іх,
таму й песні іх няшчыры,

хаця гуслі на грудзях
да Купалавых падобны, —
спеў жа танней за мядзяк,
крывадушны і падробны.

Развянчайце гэты фальш,
няхай будзе чыстым свята,
як Дняпро крынічны наш,
як святло палескіх хатаў.

## СЕРАБРЫСТЫЯ ЗБАНЫ

*Ахвярую*
*Сымону Свістуновічу*

Серабрыстыя збаны,
міскі серабрыстыя
не спалілі тры вайны —
сілы тры нячыстыя.

Гартаваныя агнём,
перунамі хрышчаны,
закаціліся пад лён,
мо таму й не знішчаны.

Закаціліся пад мост,
мёду ў рот набралі
і чакалі, каб у хрост
на сталы падалі:

ешчэ старажытны мёд
з місак серабрыстых,
мёду, пэўна, дзвесце год,
міскам, можа, й трыста.

Гэта добрыя дзяды
з Вячкавых стагоддзяў
мёд даслалі — ад бяды
ў нашым радаводзе.

Акрыяў каб беларус,
памачыўшы ў мёдзе
зачасаны белы вус
па ганацкай модзе.

* * *

Вочы — суклон,
сэрца — ўзыход,
так і жыву паміж дзвюма сонцамі.
Якое даражэй?
А вы спытайце ў маці пра ўлюбёнага сына...

Нават ноччу:
прыгледжуся — чырвона,
прыслухаюся — чырвона,
сонца набрузае барваю,
сэрца — крывёю.

Як ручаі лясныя,
вены
выведуць мяне да людзей.
О якая дзянніца шчырая!
І я п'ю,
каб аддаць,
бо самы галоўны закон прыроды —
донарства —

кроў шэпча.

## ПРОДКІ, ВЫКЛІКАЮ ВАС

*Кнігам археолага*
*Міхася Чарняўскага*

Продкі шэпчуцца ў капцах...
Разумею словы! —
прыпадаю да вянца
іх глінянай мовы,

а ў гаршках гарыць агонь...
Цэлы свет — бажніца.
Яскі асвятляюць скронь
продкавай дзянніцай.

Духі!
Чую, бачу вас!
Веру ў ваша сонца.
Веру ў замагільны час,
светлы і бясконцы.

І пакуль гарыць агмень —
дотуль цёпла сэрцу.
І не страшна ў судны дзень
целу майму ўмерці.

# АЛАІЗА

*Паэма*

## I

*А маці гэта мая і кажа да бацькі:*
*«Чалавечку, пастаўма і мы крыж...*
*Мо і нас Бог укрые ад хмары».*
*Праз колькі тыдняў я і нарадзілася.*

1876
год папярхнуўся крыжам:
жыві, нялюдская птушка,
з таўром у грудзях,
што выжывеш
ў каменнях, а не ў падушках.

Жыві.
Пра сябе не думай —
для маці пакінь кудзелю.
Снапы-хваравекі ў клуні
чакаюць сваёй нядзелі.

З лясоў прыляцяць зязюлі
і разрабуюць калоссе.

Прыснюся праз дзень матулі
не я — шчаслівейшы хтосьці

з Радзімай: буслы, як перлы,
далоні — у сто дарог...
і ў вышытым строі белым
самы спакроўны Бог.

А крыж аўдавеў улоннем.
Я ведаю, што распяцце.
Гэта — калі коні
галопам прайшлі па маці,

а маці ў снапах ляжала,
а маці мяне нараджала
з Радзімай: буслы без гнёздаў
і ў вуснах спрадвечны роздум.

II

*Праз крыж твой і мукі...*

За вёскай дзядоў магіла,
пад крыжам зямля змарнела,
а мой забуяў калінай,
я шчокамі зачырванела.

Сяброўкам глядзець прыгожа,
а мне гэты жар балючы,
начамі, здаецца, ложак
ляціць
у маячню
з кручы.

Скажы мне, сівое сонца,
мне жыць толькі да паўнеба?
Гіль на калінавай гронцы
зернем з рукі грэбуе.

Не азірайцеся, людзі,
гэта цвітуць радзімкі,
маці за доньку студзіць
зязюльчыныя слязінкі.

Гэта — усё павер'і.
Буду і я шчаслівай.
Коні нат губяць пер'і,
птушкі нат сеюць грывы.

Буду і я шчаслівай.
Ёсць і ў нядолі шчасце.
Трыестаўскія алівы
злыбеды мае засцяць.

Вечназялёны бераг
ды кроўнай валошкі ў жыце,
па Беларусі верад,
як птушку,
з рукі карміце.

Па Беларусі скруха —
вечная мая мука.

III

*...як кароўкі пасвіла на пожні,*
*маці-сухотніца калыхала малога*
*брата-сухотніка пад снапамі жыта.*

1

Белая шчырасць кароў.
Нямоглыя грудзі матулі.

Я — немаўля: кроў...
хтосьці да сэрца туліць.

Неба:
пастух плыве,
за небасхілам кароўкі.

«Лізанька!» — хтось заве...
вуснамі хоць — у броўкі...

Неба? —
блакіт вачэй.
Першы харэй мой: ма-ма!
я
м
б
па шчацэ цячэ:
сля-за
каляная.

2

Жаўранчыхі крычаць,
іхняе жыта зжалі.

Жаўранкі маўчаць,
як зерня ў рот набралі:

чый гэта анёл,
голас такі гарачы?
Чыё гэта птушанё
па-беларуску плача?

IV

*Зіма ў нас крэпкая.*
*Паўмястэчка згарэла на Сёмуху.*

### Замова ад пажару

Вёска Пешчыны
Богам не спешчаная
спала на Сёмуху
да пеўня сёмага
а восьмы
ў падстрэшша
самы чырванейшы
самы перуанскі
з апярэннем панскім
крылом правым махнуў
вецер з поля падзьмуў
махнуў левым крылом
занялося ўсё агнём
а на нашай страсе
бусел яйкі нясе
а на нашай печы
хворае малеча
а я доньку нараджала
не для жару і пажару
а для пекна слонейка

для мядочку ў слоіку
жары певень адвярніся
ў чорным моры акуніся
ў чорным полі прападзі
пустазеллем узыдзі
каб цябе да Сёмухі
выкасілі конюхі
белым
сінім
і чырвоным
самым
згаладалым коням
згінь

V

*О мамачка, чуе твая душа справядліва, як калісьці чула, калі я была смяртэльна галодная і ты мне зашывала ў цвікель сарочкі, каб пасланць праз людзей, што ішлі ў Кальвару.*

1

Прыйдуць л ю д з і з радзімы к о л е р у
поля чорнага, радна белага,
і з павек, нібы перлы з берага,
слёзы скоцяцца цяжкаспелыя.

Эх ты, скруха мая без'языкая.
Дождж па мне, як па ссохлым жыце.
Пілігрым ч о р н а — б е л ы клікае:
«Алаізія, багалікая!..»

Я пазнала цябе, садоўнік,
пахне голас настоем з руж:
«Як камень, на магіле помнік,
я пасею табе цярноўнік».

Мне не трэба няродных кветак,
мне б — вяргіню бялей за снег,
каб плыла нада мной, як ветах,
каб я маме была прыкметнай.

Я збяднела без родных твараў,
пілігрымы, хто ваш народ?

2

Паляўнічыя над Кальварай
з птушкай зблыталі Ікара.

Рана ў небе слязіцца воскам —
пра мяне старажытны міф?
Аж паўнеба да роднай вёскі,
на шляху паляўнічых войска.

VI

Задрамалі ў палёце крылы,
цемра лашчыцца чорным плюшам.
Не прызнала зямля свой вырай —
ноччу княжыч здаецца птушкай.

А прачнуліся ў чужым небе...
далягляд, як сіло, трывожны.

Птушка белая ў чорным зрэб'і
крыллем білася ў свет парожні.

Дзьмухаўцамі ўміралі поўні,
толькі голас стагнаў пра выйсце:
«Ну хоць хтосьці ж вяртанне помніць
да Радзімы спрадвечных ісцін?»

Там цвітуць лугі ў пастаралях,
там чакаюць нас дзве жанчыны:
маці ў сумных сваіх каралях
і Айчына.

VII

З воч блакітных блакітныя слёзы...
акварэлі цвітуць сінічкавыя...
ім вастрэй за любыя лёзы
ложкі...

П с і х і я т р ы ч н а я:

...лекі лекі лекі лекі
вінаваты чысты снег
вінава-Ты-Я
калекі
што радзіліся на свет
слепнуць кроплі слёз трывожных
інь на шпрыцах
сіні інь
погляд цяжкі і варожы
у багінь

шарлатаны і машэкі
твары змучаны вязьмом
запалёныя павекі
ў зрэнках месіка бяльмо

верыць ім мяне навучыць
незвычайны пах вяргінь
немінучасцю гаючы
хрысціянскі стогн
амінь

існасць іншая ізгояў
недапеты чужы гімн
вочы скрадзеныя ў Гоі
у Ісуса німб...

Лекі лекі лекі лекі
Інь на шпрыцах сіні інь
Шарлатаны і машэкі
Незвычайны пах вяргінь
Існасць іншая ізгояў
Я-я-а-а...

VIII

*Хацела б быць зярном пшаніцы...*

Я сасніла за лесам поле,
за асінавым сінім лесам.
Мне не бачыць яго ніколі —
мне яго адчуваць балесна.

Недаспала ў раллі насенне —
углядаюцца ў поле гумны.
Прыручыла зямля карэнні
дум маіх і калоссяў сумных:

дзе пачатак гаротнай нівы?
Дзе вытокі майго народу?
Нам, шчаслівым і нешчаслівым,
гэта самы балючы роздум.

Чую:
«Снег ваш не паўнацэнны...
Кроў не донарская у венах...»
Кроў маю
мой народ ацэніць,
самы добры і самы генны.

Поле спеліць вянец жытнёвы,
акрыяюць нямыя вусны,
нібы людзі, збяруцца
словы,
нібы рэкі,
успомняць вусце.

IX

*...ой, рэчкі павысахлі...*

Брыдуць маравы павуцінныя,
як звяры, рыбы рыскаюць.
Рысі ў сініх лясах асінавых.

Жменя слёз — за дзве жмені жыта.
Вочы ў крыўды прыручаныя.
Ну які ў мяне там пажытак?
Толькі думы ды сны гаючыя.

### Сон-трыпціх

Д з я ў ч ы н к а

У збанах заблудзіла рэха:
ма-а-ма-а-а! —
нейкім чужым здалося.
Прарастае ў дрымучых стрэхах
прадзедавае калоссе.

Хаты ў гнёздах, нібы ў каронах.
Зімавала у людзей бусліха.
Снег быў вечным ёй і салёным,
снег акроплены быў брусніцамі.
Што ні дрэва — балючы вобраз,
што ні зорка — сляза з вачэй,
поле шчырасцю апячэ...

Прарастае з-пад сэрца колас.

У маленстве, бы ў першым снезе...
Басаногі дзіцячы след.
Быццам скончыўся белы свет
за ваколічным кустам бэзу.

Быццам скончылася сонца,
разадранае крумкачамі.

Колькі людзі яму крычалі...
Колькі птушкі ўслед крычалі...

Быццам скончыўся белы вырай
за ваколічным кустам бэзу...
Ці то воблачка ў небе счэзла?

Д з я ў ч ы н а

Банадысь мне прыгожы музыкай,
смык над скрыпкай, як над вышываннем,
нас уводзіць сцяжына вузенькая
да папарацевых палянаў.

Поўня ў кронах
ці сава аднавокая
ацярушыла на нас гукі,
напалохана рэха войкнула,
затаіліся чуйна рукі.

Вусны п'ючыя
                    і вочы п'ючыя,
росы і агні купальскія...

Гады ля сцяжын паўзучыя —
вядзьмарчыныя парасткі.

Не грыміце, мае маністы,
як бурштын на сасне, замрыце,
як падранак у спелым жыце...
не грыміце, мае маністы.

...А далей
зарасла сцяжына
ноччу цёмнаю
і ажынай...

— Банады-ы-сь!

Ж а н ч ы н а

Ахрысцілі шлях пілігрымавым.
Наўзбоч сосны —
бы посахі змораныя.

Брыду я
за тыфознымі зімамі,
за чмурымі гайворанамі.

Цень нябелы ў снегападу.
Але чорны цень гайворана
быццам камень
у поле падае —
пацеры недагавораныя.

Развярэджаныя метафары:
ногі збітыя бальшакамі,
глухнуць студні,
і стогнуць амфары
стомленымі быкамі, —
як зямля,
да сябе прыслухаюся.

«Алаіза», —
з мужчынскіх вуснаў —

гэта сэрца чужое стукаецца,
гэта гукі нялюбых гусляў.
Каля весніц паплачуць вочы.
Праўда: ранне мудрэй за вечар.
Напамінкам трывожнай ночы
непатушаныя свечкі.

X

Я замёрзну ў калядных сцюжах,
на Вялікдзень растане снег,
сплыве ў рэкі мой плач і смех,
як сплываюць Купалля ружы.

За асінавым сінім лесам
маці стане ў хаціне смутна.
Толькі будуць скрыпець завесы,
як марозы скрыпелі ў лютым.

На ўсю хату адзін мужчына,
учарнелы, як беларус,
пахне вуснамі і вакцынай,
цудам выратаваны Ісус…
……………………………………
Па абразе сляза, як памяць,
за сівыя дажджы глыбей.
Па мне крывічы свечкі паляць,
па мне смутак чужых людзей.

І ўсё ж шчасце — нарадзіцца,
каб паганскай сваёй радзімы
прыдарожным крыжам маліцца,
яе людзям нелюдзімым.

## Эпілог

Сніць карстага сястру ў сасонніку.
І табе за доляй сненне:
ураслі ў твой край паломнікі
сэрцамі і каленямі.

Ці то снег, ці попел: жменя —
сэрца сцёрта амулетам.
Ураслі мае калені
ў Цётчынае лета.

Пеўні праглядзелі вочы:
выбежыш з пажару
і да роднай вёскі збочыш,
да нязбытнай мары.

А па пожні сэрцу колка.
Адпачыць прысела.
На няскошаным пагорку
жыта ацалела.

*1982, Гарошкаў — Легніца, Польшча*

# АГОНЬ-ПТУШКА
*Паэма*

Усе мы браты —
галіны аднаго дрэва...

*Уолтэр Лоўнфелс*
*(амерыканскі паэт і публіцыст)*

## Уступ

1

Радаводнае дрэва беларусаў
сталі зямлёй яго ссечаныя галіны
канец вайны
вясна
журботныя буслы на паўдарозе з выраю —

а там
на палёх больш стрэляных гільзаў
чым каласкоў
там людзі і дрэвы пакутуюць смагай
але ні адна птушка не вярнулася
і як у чалавека: МАМА
у выраю вырвалася: РАДЗІМА

кажуць гадоў пяць пасля вайны
буслы гняздзіліся
на голай зямлі.

2

Вясна
тысяча дзевяцьсот дзевяноста дзевяты год
пачатак вайны
скажы ім
о святая птушка з абвугленымі крыламі:
я не хачу загінуць на вайне
я — зялёная галінка
радаводнага дрэва беларусаў
і каб жывіць яго
я стану
бясспрэчна
я стану зямлёй
і без твае дапамогі Самуэл Коэн
але няхай
гэта будзе светла і мірна

забараню плакаць дзецям
я вярнуся.

3

Вясна
дзве тысячы дзевяцьсот дзевяноста дзевяты год

я — зялёны лісцік
магутнага радаводнага дрэва зямлянаў:

блакітныя вочы
русыя валасы
цёмная скура

і завуць мяне ў гонар майго пра-пра... дзеда
Хрыстафорам
ён адкрыў Амерыку
на жаль Зямлю я ведаю
як свае далоні
і таму адкрываю мовы
якімі жывы
ўвесь наш радавод
о якая гэта асалода! —

літары іспанскага лемантара
ажываюць
як вінаградныя лозы
самыя лепшыя гукі і фарбы Іспаніі
ў мове Іспаніі
паслухайце
гэта дзяўчына цалуе Габрыэля ў вусны
нібы першы раз у жыцці віно смакуе
паслухайце
гэта смыляць запясці ў збіральніц вінаграду

о якая гэта асалода! —

калі абуджаецца ўва мне
мова скандынаваў
мяккая і белая
як поўсць белых мядзведзіц
таямнічая
як паўночнае ззянне
павольная

як жанчына цяжарная
а КАЛЕВАЛА — слова якое!
нібы сэрца варухнулася
КАЛЕВАЛА
гэта ранкамі туманнымі
яблыні адтайваюць

маці мне расказвала
што яшчэ мая бабуля
спявала фантастычныя песні
грэцкіх рыбакоў
а я праз сон шаптаў
дзіўныя
невядомыя нават ёй
словы.

4

Але вясной
2999 года
мне ўспамінаецца канец якойсьці вайны

быццам бусел з абпаленымі крыламі
я стаю на папялішчы
а можа гэта
не я?
можа гэта фантазія?
тады чаму праз тысячы гадоў
гараць мае рукі?
чаму ў горле перасеў горкі камяк?

зноў заплюшчваю вочы
і...

паўз мяне ідуць
змучаныя
жылаватыя людзі
такія ж блакітнавокія
як я
некаторых я ведаю нават пайменна

вось Кастусь Міхайлавіч
мой настаўнік
плача на пажарышчы спаленай школы
— Добры дзень Кастусь Міхайлавіч
гэта я
ваш вучань Толік
памятаеце
Вы вучылі пісаць мяне вершы?
— А-а... Толік... памятаю
вось тут была твая парта
сядай
разам паплачам

я сеў
але не заплакаў
усе слёзы выплакаў
яшчэ на галавешках сваёй хаты

— Ведаеш Толік
школа... чорт з ёй
пабудуем новую
згарэў ВЯНОК Багдановіча

і я так заплакаў
быццам сам згарэў разам са школай
быццам разам са школай
згарэў мой любімы настаўнік

ВЯНОК Багдановіча
каму апякла вочы яго зорка Венера?
каго пакрыўдзіў ягоны Страцім-лебедзь?
перад кім правінілася яго Вераніка?
што за нелюдзь адважыўся біць
ягоных вагітных мадоннаў
кутымі ботамі ў жывот?
што за люты звер растаптаў
сінія васількі яго слуцкіх паясоў?
што за барбар аддаў агню
выпакутаваную мову яго Бацькаўшчыны?
хіба ён збіраў яе па слову
ў палескіх рымах і белавежскіх пушчах?
хіба ён бараніў і хаваў яе
ў песнях і казках
ад хіжых ворагаў?

буслянка — вянок роднай хаце
і буслы былі самымі дарагімі
крылатымі кветкамі
было спаморыцца ад гароўлі маці
сядзе на межавіне і залюбуецца
шчаслівая
што буслы выбралі яе хату
а калі адляталі — плакала
як па дзецях

ВЯНОК Багдановіча — вянок Беларусі
ёсць такая Агонь-птушка
з попелу ўваскрасае
я ведаю
я дакладна ведаю
гэта птушка
нашага лёсу

узнімуцца з попелу вёскі
узнімуцца з попелу людзі
уваскрэсне з попелу паэзія Максіма
мы — беларусы
асенены крылом гэтай цудадзейнай птушкі
а не было б бяды і ліхалецця
хто ведае
ці выжылі б мы
ці выжыла б наша мова?

потым
пазней
зразумею
кім была Агонь-птушка...

## Устаўны раздзел

1

Жыццё пражыць — не поле перайсці
загадала мне загадку маці
і заснула на бульбяным полі
і першы раз у жыцці
яе зморшчыны разанулі мяне
і па вачах
і па сэрцы
і па вершах
і першы раз у жыцці
я задумаўся
не бесклапотным ямбам
а сівым верлібрам

мацi прачнулася i сказала:
пакiнь плуг брату
i адпусцiла аднаго
па шчасце i гора
жыццё пражыць — не поле перайсцi
скажу i я сваiм дзецям
i засну
а прысніцца мне Агонь-птушка
i зноў
як у маленстве
разануць мяне яе зморшчыны
i па вачах
i па сэрцы
i па вершах
i не дай Бог мне прачнуцца
калi не будзе каму даручыць
плуг
i нялёгкае бярэмя верлiбра.

...2

Ёсць ПЕСНЯ ПЕСНЯЎ
ВЯНОК Багдановiча — ВЯНОК ВЯНКОЎ
так напiсаў не я
так сказала жанчына
яна ўсё жыццё пляла вянкi

сонца адмярае Час
жвiр адмярае Час
зерне адмярае Час
заўтра скажуць:
тут узвышалiся егiпецкiя пiрамiды

а тут працякала Амазонка
заўтра скажуць:
гэтая цвіль раней была
блакітнымі танцоркамі Дэга

але жыло-жыве-выжыве Слова.

3

Вясна
2999 год
я — зялёны лісцік
магутнага радаводнага дрэва зямлянаў:
блакітныя вочы
русыя валасы
цёмная скура —
угадваю сябе ў тым малым пагарэльцу

— Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі, —
шэпчуць ягоныя вусны

— Над хвалямі сінеючага Ніла, —
адгукваюцца мае

— Ўжо колькі тысяч год стаіць магіла:
Ў гаршку насення жменю там знайшлі.
Хоць зернейкі засохшымі былі,
Усё ж такі жыццёвая іх сіла
Збудзілася і буйна ўскаласіла
Парой вясенняй збожжа на раллі...
б'ецца наша сэрца
але як я ні намагаўся

больш нічога не мог успомніць
акрамя гнёздаў на голай зямлі
аднак запомніў самае дарагое

санет
на роднай мове Толіка-пагарэльца.

## Эпілог

За тысячу гадоў
тысячу разоў
абляцеў вырай вакол Зямлі
тысячу разоў
ён пралятаў над маёй галавою
і тысячу разоў
я ганарліва параўноўваў яго
з райскімі птахамі
нашага лесу і лугу
а сёння
мы з усіх сілаў
з усіх крылаў
рынуліся адзін да аднаго
аказваецца
тысячу гадоў былі знаёмымі
тысячу гадоў былі блізкімі
тысячу гадоў былі крэўнымі
на світанні яны адляцелі

не плачце мае блакітныя вочы
беражыце сляды іх абвугленых крылаў.

* * *

і словы мае — вярыгі мае
і семем было мне Слова
і той хто пасеяў яго — гавеў
і кленчыў у храме мовы

## НЕАПАЛЕНАЯ КУПІНА[1]

Калі я быў малы, дык часта думаў, чаму ў мяне маці такая старая і непрыгожая, а аднойчы адважыўся запытацца пра яе шнары на твары, якія глыбока ў душы любіў, якія тысячы разоў цалаваў.

— Ох, сынок мой! Гэта ж здарыўся пажар, і я яшчэ з адной жанчынай абгарэлі крэпка. Жанчына тая памерла. І ў мяне былі абпаленыя і рукі, і грудзі, і твар... І была я цяжарная табою, сынок мой, і ўсе казалі, гэта я даведалася потым, што ці я памру, ці дзіця народзіцца мёртвым. Аж нарадзіла я цябе, сынок мой, жывенькага, толькі на твары была чырвоная плямінка. Я думала, след ад пажару, аж аклямаўся ты трохі, і яна знікла, сынок мой. А была я прыгожая да пажару. Ды хіба ў непрыгожай маці мог нарадзіцца такі сынок мой?..

Як святарны абраз,
людзі вынеслі маці з пажару,
бы вужаку, маланку аддзёрлі
ад белых грудзей,
каб суцішыць пакуты —
паклалі пад цёмную хмару

[1]Так называўся абраз, які насілі вакол пажару старыя людзі і гаварылі замовы, каб ён патух.

і, каб смагу спатоліць,
размову вялі аб вадзе,
а яшчэ гаварылі: Пярун выбірае шчаслівых.
Маці верыла людзям на шчасце, цяжарная мной,
і шаптала замову: калюжыны — гадам вашывым,
полю жытняму — дождджык,
а рэчка — крывінцы маёй...

Бы вужака, маланка смактала у полымя грудзі
і плявала адрыжкі на самых прыгожых жанчын,

Неапаленай Купіне — маці — маліліся людзі,
і пачуў я ва ўлонні: з пакуты народзіцца
Сын...

Неапаленай Купіне — маці — малюся адзінай,
я ўсмактаў з малаком і любоў, і праклёны яе:
хто плюе на жанчыну —
той нелюдзь плюе на Радзіму,
хто гандлюе святыняй — той маці сваю прадае.

## ПАЦЕРКІ

Гэтыя драўляныя пацеркі з шыі маёй бабулі
насампраўдзе бурштынавыя. Штоночы яны
падкочваюцца да маёй галавы
і самотным голасам
пытаюцца пра сваю гаспадыню.

Адчуваю, як мяне пранізваюць бурштынавыя
промні, і я, зачараваны, узіраюся ў іх мэту,
а там немаўлячы беларусік у прыполе
сівой бабулі гуляе бурштынавымі маністкамі.
— А ў перапёлкі галоўка баліць... —
замест калыханкі спявае яму бабуля.
— А ў перапёлкі ручкі баляць...
Хлапчанё засынае і ўсё жыццё
задумваецца пра гаротніцу-перапёлку.

...Гэтыя драўляныя пацеркі насампраўдзе
бурштынавыя. Іх згубіла перапёлка,
калі нагнулася расы папіць...

* * *

Поле поле ў німбах сланечнікаў сланечнікаў
жоўты жоўты вецер пчолаў лашчыць лашчыць
страшна страшна страшна вее вее вее
жоўтым жоўтым жоўтым ветрам ветрам
ветрам ходзіць ходзіць ходзіць полем вечнасць
вечнасць пчолы пчолы пчолы джаляць маці
маці ў вочы вочы вочы
па шчоках сцякаюць слёзы слёзы слёзы
слёзы слёзы слёзы слёзы слёзы слёзы слёзы
слёзы слёзы

* * *

Радзіма пачынаецца з жанчыны.
Я гэта адчуваў, а ўразумець
яшчэ не мог — дзіцём шчапаў лучыну,
каб хворую матулю адагрэць,

і разам з ёй да позняе гадзіны
мы слухалі трывожна крыгалом,
не ведаў я, што грэў тады Радзіму
і не падманным, а жывым агнём.

## ДЗЕД ПЕРАД СМЕРЦЮ

Ён свае ногі дажыў...
*Са слоў майго бацькі*

Ён свае ногі дажыў,
сляды, як сліну ваўчыцы,
скаўталі снягі, лаўжы —
маўчыце пра гэта, ваўчыцы.

Маўчыце, як пахне ён,
не рушце зубамі полы —
матуля трапала лён,
каб справіць чугай да Міколы.

Забудзьце, як пахне ён,
карстагі — яшчэ карыты,
прысніце, ваўчыцы, сон,
што вы на зіму ўсю сыты.

Не слухайце поўсцю лес,
ён вам цераз поле не чутны,
ён толькі што з крушвіцы злез,
такі барадаты і цудны.

Масніцы на сто сукоў
скрыпяць пад яго нагамі,

кашара на трох быкоў —
бярыце, ваўкі, быкамі,

пакіньце яго сляды —
чаўны пагудастых кроснаў.

Кажух, як алень руды,
маячыць у шчыльных соснах.

За лесам па пояс снег,
за лесам поле памёрла.
Ваўчыцы галоднай смех
у гурбах захрас па горла.

А ён, як у сенакос,
свой клін адбрыдаў калісьці,
над снегам нагу занёс,
над полем наспех памаліўся.

Дарога у белы свет —
уцёкі ад шэрай ваўчыцы,
што носам у цёплы след,
бы лапамі ў куст чарнічны.

Вось поле б змагці наўпрост
да пчол у глухіх калодах.
Там пахне не кнотам воск,
а мёдам.

## РАЙ

Самыя вясёлыя і галасістыя салаўі —
на вясковых могілках. Напэўна, таму,
што і днююць, і начуюць не ў гнёздах,
а ў душах маіх спрахлых дзядоў.
Яны ж, як сведчыць тутэйшы народ,
былі самымі жыццярадаснымі і жартаўлівымі
людзьмі на Палессі.

І бярозы тут самыя белыя...
Такія белыя, што ўначы здаюцца
прывідамі. Дзяды і нават божышчы
маіх дзядоў, як тварамі, так і думамі,
былі такімі ж светлымі.

І толькі жвір на вясковых могілках
калючы і цяжкі, калі прыходзіцца кідаць
свае тры жмені наўслед нябожчыку,
як самыя важныя словы, якія не паспеў
сказаць яму яшчэ учора.

Жыве старэнькая бабулька каля самых могілак.
Яна іх называе не інакш як раем
і ўсё часцей і часцей думае пра яго.
«Чаму?» — неяк запытаўся ў яе.
«Таму што ў пекле ўжо нажылася».

* * *

Бацька так і не ссівеў,
хоць гадоў было парадкам,
у смузе, як у сяйве,
на клады пралегла кладка.

Кладка, хісткая яна,
толькі целу ўжо не мулка,
калдыбалася труна
на плячох сыноў і ўнукаў.

Быццам пчолаў яго мёд,
быццам жвір яго магілы —
рушыў русы радавод —
за труной ішоў пахіла.

Бацька так і не ссівеў,
бацька так і не нажыўся,
у смузе, як у сяйве,
сын яму ўлюбёны сніўся.

* * *

Пад бярозаю косці,
а ў кроне гняздо птушка мосціць,
тут вячыста — надзіва — здаецца:
я сам тут ляжу —
на вясковым пагосце
збаўляюцца людзі ад злосці,
ён, як гай запаветны, здзіўляе спакоем душу.

* * *

Мой радавод вёў летапіс свой плугам,
і, як радком чырвоным, баразной
мядзяны конь ішоў адвечным кругам
пад Князем-Сонцам, Поўняю-Княжной.

На мокрай грыве крумкачы драмалі
ды прагнулі гарачае крыві,
і ваўкалакі з лесу цікавалі,
каб баразну мядзяны конь скрывіў.

Былі сухмені, і былі залевы,
і стрэхі хат, як прывіды, плылі,
тагды алені, журавы і дрэвы
да астравоў мой радавод вялі.

Патоп спадаў, і вецер, як пергамент,
сушыў палі і ажыўляў лугі,
птушыны шлях — начных нябёс атрамант —
шукаў барознаў новыя кругі.

## НІЗКА АБАРАНКАЎ

*Быль, якая здарылася са мною*

Павесіў на шыю нізку абаранкаў, бацьку купіў катанкі
і пешкам цераз усю Беларусь іду да Айчыны.
Пад Ваўкавыскам у пагудастай баравіне
сустрэў бабульку, зарослую вехатнікам і вужоўцам,
з цяжарнаю ваўчыцай пад лядачым крысом.
— Хто гэта выў? — пытаю палажніцу.
— Мы, — сказала ваўчыца і пяшчотна злізала
самасейку-слязу з бабульчынай шчакі.
— Пэўна, галодныя. Калі апошні раз сілкаваліся?
— На пахаванні Вячкавым, — адказала ізноў ваўчыца.
Шкада дрымучую бабульку, шкада цяжарную ваўчыцу,
анёж шкада і нізкі абаранкаў, што нясу матулі.
Але зняў яе з шыі і паклаў каля жывога чэрава.
— Як назавеш дзіцёнка?
— Імя яму дасць народ наш.
— А дзе ён, народ ваш воўчы?
— Паснуў па бярлогах ды логвах.
— Ну, бывайце! І мне вельмі трэба паспець
да сваёй Айчыны.

Ці доўга ішоў, ці мала, але на паўдарозе сустрэў
босую падчарку, яна, прытуліўшыся да заблуднай
цялушкі, грэла маленькае цельца. Прыйшлося і яе
абуць у катанкі, што купіў бацьку.

А вось і Айчына, а каля яе рыпучых весніцаў
стуленыя бацька з маці, як тыя два птахі
пад кастрычніцкімі зябамі.
— Матуля, нёс я табе на шыі нізку абаранкаў —
не данёс.
— Бацька, нёс я табе цераз плячо катанкі — не данёс.
Колькі было веставых крыжоў на шляху,
столькі сустрэў пакутнікаў. А вы ж самыя
ўсё жыццё мяне вучылі: не абміні гаротніка.

## БЛУДНЫ СЫН

1

Маці крыжыкам вышывае,
не адвесці ад рук вачэй,
нітка — кроў на радно жывая
з пальца ўколатага цячэ.

У зашыйку заціхлі мышы,
а на спіцах стары павук
павуцінкаю ружу вышыў,
падсачыўшы узор у рук.

На каленях ручнік чырвоны,
быццам самы каханы сын,
пахнуць жаўранкамі і лёнам
яго белыя валасы.

Маці крыжыкам вышывае,
павуцінку павук пляце,
маці песню мышам спявае
пра дарослых сваіх дзяцей.

2

Мама,
вышый мяне на падушцы сваёй[1],
памякчэюць грачыныя пер'і,
я прыснюся табе — еду зноўку дамоў,
да зямлі адтуліўшы бязвер'е.

Блудны сын, блудны сын —
разам з сэрцам маім
лямантуюць на рэйках колы.
Блудны сын, блудны сын, блудны сын —
словы, быццам куслівыя пчолы.

Мама, мама, што мне парабіці з сабой,
калі позна дадому прыеду,
калі ў хату зайду — анямелы сабор —
без вяснянак, без ляскання бердаў?

Ты спявай, ты спявай,
ты свяці, ты свяці,
рассцялі ручнікі, як сцяжыны,
можа, здарыцца так, я заблудну ў жыцці,
тагды выйду па іх да Айчыны.

---

[1] З верша Федэрыка Гарсія Лоркі.

## БРУКАВАНКА

Мне было ўсё адно, куды ехаць, абы пазбавіцца
ад гэтага горада. І раптам скончыўся асфальт, і пачалася
брукаванка. І я ўспомніў, які быў шчаслівы, калі
ў дзяцінстве браў мяне з сабою бацька і мы прасёлкавай
дарогай выязджалі на брукаваны шлях і скіроўвалі
мядзянага каня ў горад...
...І раптам скончыўся асфальт і пачалася брукаванка.
Сівая і стомленая, як калісьці бацькаў Орлік у канцы
дарогі. І я ўспомніў, што ў мяне яшчэ ёсць родная хата,
а ў ёй адна, як зязюля, маці. І я ўспомніў, што калі
з прасёлкавай дарогі павярнуць на брукаваны шлях —
стаяць могілкі, а пасярод іх, як свечка,
белаю бярозай свеціцца бацькава магіла.

## БРАТЫ

Расце раса!
Так расце добры сон,
так расце радасць дзіцяці,
так расце таемнасць поўні.

Расце раса!
Так расце мая душа.
Адвяду вочы:
добры сон забываецца,
дзіця пахмурнее,
а поўня прасвечваецца,
як парожняя шклянка.

Расце раса... —
па інерцыі вышэптваюць мае вочы,
аслепленыя ранішнім сонцам.
Адтуляюся.
І сустракаю радасны братаў позірк:
расце сонца!

Брат, уражаны сонцам,
з акна, як шалёны, выскаквае ў канюшыну...

...І гіне раса...

## МАРА ПРА СЫНА

Над белай як снег ракою
воблакаў астравы

дайце цяжарнай спакою
быццам цяжарныя Вы

і сына яна народзіць
асвенціць вадой з ракі

князь-рыба ў Дунаі ходзіць
каб вырас і сын такі!

* * *

Гэта памятае толькі маці,
як вясной я любіў крыгаход,
калі зайцы, нібы паяцы,
каля рэчкі збіралі народ.

Было смеху і слёз дзіцячых,
калі заяц ішоў пад лёд
ці па крыгах скакаў, як мячык,
не зважаючы на народ.
..............................................
Гэта ведае толькі маці,
як засцігнуў мяне крыгаход,
як і зайцам зрабіў, і паяцам
і для здзеку сабраў народ.

## РАДЗІМА

Я — зямля, на якой не растуць дрэвы.
Я — дрэва, на якое не садзяцца птахі.
Я — птах, якога не сочаць нават паляўнічыя.
Я — паляўнічы, у якога вечна галодныя сабакі.
Я — сабака, якога не баяцца злодзеі.
Я — злодзей, якога не гоняць ад вогнішча.
Я — вогнішча, якое не сцеражэцца леяў.
Я — лея, якой не шкада вандроўнікаў.
Я — вандроўнік, якому ўсё адно, куды вядзе дарога.
Я — дарога, якая не сніць ройсты.
Я — ройста, на якой валацуга бязмысны.
Я — валацуга, які страціў радзіму.
Я — радзіма...
Я — радзіма? Паляўнічы, сабака, бадзяга, злодзей...

* * *

Трэснуў лёд, быццам трэснула жыла.
Я спыніўся. Угледзеўся ў дно —
плынь падлёдная варушыла
на тапельніцы кос радно.

І глядзелі мне рыбы ў вочы,
бы русалкі, і ўспомніў я,
як кароткай купальскай ноччу
тут зайшлася душа мая.

* * *

Як па зорках, па расе
твой апошні шлях праляжа,
памірай, а жыта сей.
Рунь пра сейбіта раскажа.

* * *

Без мяне будуць жаць
і губляць з пераспелых калоссяў
залатыя зярняты
на Белую нашу зямлю,

птушкі іх падбяруць
як падзяку за жніўныя песні,
хто ў крыле, а хто ў дзюбе
у гнёзды свае прынясуць.

Без мяне прарастуць
у зямлю жаўруковыя гнёзды,
і, шануючы звычай,
іх жнеі сярпом абмінуць.

* * *

І ў ручаёх жыве стыхія,
яна ідзе з глыбінь зямлі,
і нават камяні цяжкія
стыхіяй пояць карані.

Аднойчы ручаі падмыюць
сухія, змрочныя лясы,
ад жаху пугачы завыюць,
калі засвецяць верасы.

І адратуе свет стыхія:
вадою, ветрам і агнём,
дубовыя гаі сухія
праніжа трохмячовы Гром.

## АПАКАЛІПСІС

Плывуць
вужы
на санцапёкі,
лятуць буслы на астравы,
жыццё — хай зорка то ці вока —
заўсёды з прожылкам крыві
Іюды, птушкі, чалавека,
зямной, таму святой крыві,
злаєлоўем мёртвых воч кранi,
і кроў праступіць праз павекі.

Плывуць вужы да глюг чырвоных,
ляцяць буслы да хітрых ліс,
і нат за мной з зялёнай кроны
цікуе чалавек ці рысь.

А я? —
напэўна, паляўнічы,
на бельмах — прожылкі крыві,
мае хтосьці дні сурочыць-злічыць,
і я лічу чыесьці дні.

І нават калі я заплачу,
адчай, бы сэрца, загрызу —
не чыстую слязу, —
убачу
з крывавым прожылкам слязу.

## КОЛА

Кожны дзень мяне пераязджае кола.
Прадбачу, але не прыкмячаю
аніколі
ягонага набліжэння.
І толькі потым чую, як аддаляецца грукат
у той бок, куды я спяшаю.
Ані здагнаць яго, ані ўбачыць.
Ну і д'ябал з табою, кола!

А яно заходзіць па новым крузе
і зноў знянацку,
яшчэ глыбей уганяе мяне ў глебу дый кажа:
і д'ябал са мною, і Бог са мною...
Ух, як мне становіцца вусцішна —
гэта ж і я іду па крузе і калісьці ж
яго замкну. І няма моцы збочыць,
і няма мужнасці супыніцца,
ад гэтага такая злосць на сябе разбірае...
Не-е! На гэты раз я ўхаплю цябе за абады!
Адважна падымаю галаву, але...
скрозь паўз дарогу папераджальныя знакі:
НЕ СУНЬ РУКІ Ў СПІЦЫ!

Ну, д'яблава кола!
А яно паспела зайсці па новым крузе
і яшчэ глыбей увагнала мяне ў глебу:
я і д'яблава, я і Богава...

* * *

Я дарэшты ў тваёй уладзе
што хочаш рабі з маім брыдкім целам
і распуснай душой —
хочаш любі
а хочаш забі

я сцярплю
таму што мая пакутная любоў
мацней за самы жахлівы боль

не страшна — калі вырываюць пазногці
страшна — калі д'яблавымі пазногцямі
па душы
няхай нават бруднай
але ж яна невінаватая

вінаватае цела
я дарэшты ў тваёй уладзе
ды толькі аб адным прашу цябе
НЕ! ЗАКЛІНАЮ ЦЯБЕ! Лепш забі
здзекліва
высакародна — неістотна
толькі не здрадзь
бо тады я ніколі не вярнуся ў гэты свет
а я ж так яго люблю...

## У ШКЛЯНЫМ САРКАФАЗЕ

У шкляным саркафазе паміж падвойнымі вокнамі да апошняй пылінкі свайго праху заснуў матылёк. Шыбы, што стаяць знадворку, адлюстроўваюць ягоны сон. Я гляджуся ў іх, як у чароўнае люстэрка. Яны ртутнымі шляхамі дажджынак прадказваюць маё жыццё. І маёй цікаўнасці няма мяжы: ані моцы, ані нават жадання — узяць на далонь, як вугалёк, матылька і адхукаць ад сну. Чыя нада мной воля? — гэта іншае пытанне. І ўсё ж мне падабаецца жыць у шкляным саркафазе.

## ПЕРАД ЦЫГАНСКІМ ДАЖДЖОМ

Не з Дняпра, гэта з воч рыбакоў
вырастае вясёлка,
вось-вось-вось перакуліцца
воблак з цыганскім дажджом,
быццам з дробнаю рыбай кульнецца кашолка,
і луска заіскрыцца пад сонцам жывым серабром,

як маністы на нітку,
на промні наніжуцца кроплі,
Перуновы вятрыска абудзіць сурму за Дняпром,
сурмачовае гранне палоніць, як боскія крокі,
валацужлівы воблак
за сонца сплыве, як паром.

## У ЧАРОЦЕ ПТУШКА НАЧАВАЛА

*З народнага*

У чароце птушка начавала,
ой-лю,
пад галоўку скрылечка падклала,
ой-лю.

А як ночку мне заначаваці,
не пускае ў хату мяне маці,

а чарот на возеры вяночкам,
ночка, ахрысці майго сыночка,

а ў грудзёх разбітае сардэнька,
ночка, дзе мой любы казачэнька?

У чароце птушка начавала,
ой-лю,
пад галоўку скрылечка падклала,
ой-лю.

А як ночку мне заначаваці,
не пускае ў хату мяне маці.

## НАТХНЕННЕ

Узгалоўем да ўсходу сонца рэкі спяць —
такая велічная традыцыя.
Спяць жа ў муз у нагох паэты —
захавальнікі рыцарства.

А паўз рэкі крадуцца лісіцы рыжыя —
ноч мулкая дзённымі вобразамі,
нат калі на мяне віно пральецца —
па інерцыі паэзіі гнеў мой вобразны.

Хто закусвае там вальдшнепамі,
кроў і ружы ў вершах не адмываюцца,
вы хоць ведаеце, як балюча снегу,
калі сняжынкі на гарачых губах плавяцца?

А ты прабач, у мяне закаханая,
не да слёз мне тваіх каляровых,
я сягоння на крыжы паэзіі,
бы крывёю, сыходжу словамі.

## ПАЭТ

*Ахвярую Алегу Бембелю*

На памежжы чужыны з Айчынай
па начох ходзіць сумны паэт,
ён запаленымі вачыма,
як агнём, апякае свет.

А камусьці са спрат здаецца:
блудзіць зорка па-над мяжой,
быццам ёй не хапае месца
і нябёс на зямлі сваёй.

Хто пакрыўдзіў цябе, паэце?
Хто прымусіў цябе блудзіць —
Бог ці дэман у гэтым свеце?
Што ты хочаш душы здабыць?

І за што ты марнуеш цела?
Можа, досыць з цябе ахвяр?
Сядзь, даверся паперы белай,
і надзея асветліць твар.

Сядзь, пакайся за раны целу,

яно ж братам тваёй душы.
Ці жадала яно, ці ж хацела,
каб ты з гэтай пакутай жыў? —
на памежжы чужыны з Айчынай...

...крок яшчэ — і няма мяжы...

## СУД ПТУШАК

Калі сэрца дзяўбуць крумкачы,
гнеў сочыцца. Не да болю.
Крылы чорныя, быццам мячы,
паласуюць няшчадна долю.

Калі сэрца дзяўбуць буслы,
крыўда сочыцца. Прыкра слухаць
пір крывавы пад галасы
высакародных птушак.

Значыць, ёсць за табой віна,
калі птушка такая судзіць.
Павініся. Не праклінай —
птушкі літасцівыя, як людзі.

## ВОЎК

Куды ні пайду, і ў полі, і ў лесе, і ў лаўжох
за вёскаю цікуе за мной воўк. Мы звыкліся
і палюбілі адзін аднаго нянавісцю. А мая
стрэльба ахоўвала нас.
Аднойчы ў лесе заблукала маё дзяцінства,
і толькі апоўначы я адшукаў яго і прывёў
да бацькавай хаты. І да самай хаты воўк
нюхаў нашы сляды і прыйшоў па іх да
стрэльбы, якую я наўмысна пакінуў на двары.
Вялікім дурнем трэ было быць, каб не ўбачыць,
што яна сапсаваная і прыдатная хіба што ў кавенькі.
Яна і была мне кавенькай.
Воўк пайшоў прэч.
Прыйшоў ранак, прайшоў дзень, прайшла ноч...
Ён пайшоў прэч — ні гуку, ні духу.
Прайшоў год.
І здарылася мне гора. І завыў я.
І стрэліла сапсаваная стрэльба.

## МАНАЛОГ РАССТРЫГІ

Якія цяжкія, гнятлівыя радкі,
нібы іх напісаў паэт-расстрыга,
тут нават кропкі, бы ў дрыгве грудкі,
працяжнікі, нібы на рэчцы крыгі.

Прабач, паэт, прабач ты мне, расстрыга,
але я не магу цябе чытаць —
да берага скакаць па слізкіх крыгах,
бо ўжо стаміўся ісціну шукаць,

бо разумею, што плыву на крызе
і што, падчас праводзінаў маіх,
мой грэх адпусціць чалавек у рызе,
які калісьці і мяне расстрыг.

* * *

Пайду туды, адкуль прыйшоў.
Па-за зямлёю, па-за часам.
Я тут нічога не знайшоў,
хаця сваю і выпіў чашу.

Ды лепш бы раздзяліў яе,
няхай са злоснікам ці з сябрам, —
камусьці ж жыткі не стае
і дачасова сушыць зябры?

Але у чым мая віна?
Віна майго наканавання?
Жыццё — вялікая мана.
І толькі смерць яе пазнанне.

* * *

Хто натхніць мяне на смерць?
Я такой не маю волі.
Маю толькі болі.
Болі — каб пасціцца і гавець.

З гор сыйдзі, як з купалоў,
Дух у вобразе старога,
праз пакуты дай мне Бога,
дай мне Богавую кроў.

Не жыву — хаджу, што сцень,
брыдкі і чужы паветру,
хаця выйшаў колісь з ветру,
выйшаў і азмрочыў дзень.

Ты
натхніш мяне на смерць,
чалавек, цяжарны Богам,
праз цябе мая дарога,
моцы дай яе здалець.

## ЧАЦВЁРТЫ ЦВІК

Калі чацвёрты цвік загналі ў цела,
мае пакуты крыж сабе забраў,
і на каменне, што ў мяне ляцела,
я воч не меў, таму не паглядаў,
бо я пакінуў цела.

* * *

спаўзаючы з церня
кроў смокча слёзы

уп'юся ў яго вачамі — Бог
вуснамі — чалавек

насустрач нашы любові
як два сонцы
імкнуцца ў поўдзень

урэшце звяла нас
вузкая сцяжына ў жыцце
ён дастаў з душы хлеб
я — з цела — віно
ён прыгубіў
я асушыў кубак
і паплылі вянцы
цярновыя
жытнёвыя
васільковыя
хто ты мне?
бацька брат сын?

ізноў хачу упіцца ў яго вуснамі
а Юда ўва мне шэпча:
упіся ў яго зубамі

## О НЕБА

Купалы расколюцца расколюцца і званы
о Неба сіняе блакітнае чырвонае чорнае
а ўсё лепей
ты не медзь не золата не бел-камень камень
ён і ёсць
о Неба
а словы пра цябе мае цялесныя цялесныя
яка птушкі ў табе губляюцца губляюцца
яка птушкі губляюцца мае словы
цялесныя нягодныя
яка стрэлы ў твае вочы
яка стрэлы стрэлы стрэлы
з вуснаў што храм ад зямлі зямлі
да крыжа крыжа
да птушынага памёту памёту
на златкупале цалавалі цалавалі
не любячы любячы не верачы верачы
малітвы не кажучы нат не ведаючы
о Неба
абрыдлі мне храмы абразы рызы абразы і рызы
вазьмі мяне агнём ветрам вадою
яка птушку яка дрэва яка хочаш
а праваляцца храмы і людзі ў храмах
і жывёлы вакол іх

на сытных пашах пашах і лясы
                    вакол іх і звяры ў лясох
кішачых лясох кішачых і ўсе рэкі рэкі пад горы
выцякуць выцякуць і зямля
                    ад смагі парэпаецца
рэпаецца яка фрэскі пра жывот чалавечы
о Неба
як расказаць разгадаць твае знакі апошнія

* * *

Берасцянае неба, роднае.
Мір астральны мой — ад цябе,
бо зямное, нібы падлёднае,
да паветра палонку б'е.

Галавою.

А трэба б сэрцам
растапіць безнадзейны лёд,
а інакш у паняверцы
урасце ў яго ўвесь народ.

Зашклянеюць і кроў, і вены,
мозг раструшчыцца, быццам шкло,
ад яго ледзяной гангрэны
патыхне чалавечым тлом.

Берасцянае неба. Выратуй!
Ачышчальным агнём сваім
спапялі чалавекавырадкаў,
размяці іхны прах і дым.

## КАПЦЫ

На дне агню танцуюць саламандры,
блукае прывідамі шэры дым
па небе,
як алень па чорных лядах,
між зоркамі губляючы сляды.

Надыдзе дзень. Паснуць агні і зоркі,
любоў аддаўшы людзям і зямлі,
павырастуць з палёў капцы-пагоркі,
балючыя, нібыта мазалі.

Як людзі ўмерлі, не сказаўшы штосьці,
так і яны дзірваннем зараслі,
і толькі птахі ды звяры — іх госці
у час чырвонай золкавай расы.

Араты прыйдзе, кіне рупным вокам,
адчуўшы сум і боль нямых капцоў,
зямлю ўзарэ і шчыра, і глыбока,
збудзіўшы жрыц паганскіх і жрацоў.

Іх ноч засцігне разам за бяседай
пра гэты час і пра тутэйшы люд,
і ў белым жрэц прамовіць:
— А я ведаў...
Забылі нас і занядбалі тут.

* * *

— Самыя жывыя багі — багі дзядоў,
багі сыноў і ўнукаў такія ж смяротныя,
як і іх творцы.
— Я ёсць і сын і ўнук.
Значыць, мае багі смяротныя?..
— Але.
— Аднак жа і ў дзядоў былі бацькі, дзяды
і нават прадзеды...
— ...Бацькі, дзяды і прадзеды тваіх дзядоў
былі багамі.
— Значыць, людзей зусім не было?
І хто ж ім тады пакланяўся?
— Птушкі, звяры, дрэвы...
— Няпраўда!
— Праўда.
Ты ўглядзіся ў сябе... Бачыш?..
— ...дрэва...

## СМЕРЦЬ

*Паводле навелаў Яраслава Пархуты*

...Калі ж развіднеецца ледзь
і неба месячнае згіне —
там птушка белая, як смерць,
свой цень на жытку маю кіне,

там птушка белая як снег,
і цень яе, як снег, халодны,
і спеў яе, як крык галодны,
і плач яе, як д'яблаў смех,
і кліча, кліча мяне ў вырай,
і я ўжо чую ў вышыні
не д'яблаў смех, а голас ліры...
і слабнуць, слабнуць карані,
і праразаюць плечы крылы,
ні болю, ні пакут,
ні страху,
я толькі папрашу жывых:
на смерць не трэба апранахаў —
яны сіло для крыл маіх.

## СМАГА

Цячэ з-пад каменя вада
таемна,
сцішана,
упарта,
а ў полі смягнуць
гавяда,
ралля,
гайворан
і араты,
нібыта з самых першых дзён
ралля не ведала расінкі,
і Евін лён — дарэмны плён —
вышэй зямлі,
ніжэй былінкі.

Гэй, узніміся да нябёс,
гайворан чорны, сябра верны,
знайдзі вады блакітнай вены
і камень, што ў імшары ўрос,

і пабрыдуць табе наўслед
без супачынку,
без пярэрвы
і людзі,

і звяры,
і дрэвы
праз смерць,
праз жвір,
праз час,
праз свет.

* * *

Берасцянымі трубамі ў небе гудуць журавы,
берасцянымі крыламі атуляюць
дзве зорачкі дзённыя,
мая любая, гэна ж мы, паглядзі, гэна ж мы,
а нябёсы блакітныя, быццам азёры прадонныя!

О, як гожа і вечна вядуць карагод журавы,
і паганскія гукі складаюцца
ў песні астральныя.
На тым беразе неба прачнуліся зорныя львы —
гэна ж ты, мая любая,
песні запела купальныя.

## АГОНЬ

У небе знічаванняў трыццаць тры
зліліся
у адзін Агонь адвечны,
наўкол Агню збіраюцца вятры,
іх трыццаць тры,
і кожны мае свечку.

І кожны мае іншым што сказаць
ці памаўчаць — маўчанне зразумеюць.
Іх трыццаць тры,
і свечкі іх гараць,
і душы каля вогнішча гавеюць.

## БЕРАГ

Мяне выкінуў акіян
на чырвоны, гарачы бераг
і сказаў: гэты бераг ты
да апошняй тваёй пясчынкі.

І адчуў я: па мне паўзуць
супраць сонца штодня вужакі
і брыдуць ім наўслед звяры,
пыл чырвоны нясуць на поўсці.

Нават птушкі, што ў вышыні
пралятаюць да акіяна,
афарбоўваюцца ў колер мой
да апошняй сваёй пушынкі.

Да апошняй сваёй пылінкі
я належу звярам, вужакам
і далёкім самотным птушкам
на тым беразе акіяна.

Я заўсёды камусь належу —
хоць каханы, хоць ненавідны,
я — за сонцам і супраць сонца,
я — прычына бяды і шчасця.

* * *

Сівыя пчолы,
сівыя птушкі,
сівыя людзі,
я заблудзіў, бадзяга, у ваш лес,
дзе дацвітае пяцiпалы бэз,
каб вашу мудрасць, як раку, прыгубіць.

Сівыя людзі,
сівыя птушкі,
сівыя пчолы,
па вашых пожнях сцелецца смуга,
у вашым небе выраяў туга —
там чутны голас маёй птушкі кволай.

Сівыя людзі,
сівыя пчолы,
сівыя птушкі,
прыйду да вас аднойчы назаўжды,
прыйду праз снег, спякоту і дажджы,
вiном з слязою прошласць памянуўшы.

## ЗМЯІНЫ ЦАР

Мой гаспадар Змяіны Цар,
ты ведаеш, як словы
над вогнішчам купальскіх чар
складаюцца ў замовы.

Мой гаспадар Змяіны Цар,
святлом сваёй кароны
ты кажаш шлях сярод імшар
у храм дуброў зялёных.

Мой гаспадар Змяіны Цар,
ад хіжакоў дубровы
хаваюць дзіўны твой алтар
без абразоў і слоў.

Мой гаспадар Змяіны Цар,
твайго аблічча рысы
да алтара нясём, як дар,
і я, і сёстры рысі.

## ЛЕС

Хутка змрок абцяжарыць
пчаліныя лёгкія скрылцы,
мёдам Лес набрыняе да сутвы нямых каранёў,
але —
Лес не нямы: і ў лісточку,
і ў кволенькай жылцы
мова тчэцца лясная
з мільярдаў лясных галасоў.

Нават самы няздатны
і самы глухі з чалавецтва
зразумее яе
і забудзе, прасветлены ёй,
пра людскую душу,
што спазнала пакуты калецтва,
калі смагу спатоліла брата Іюды душой.

## ПАН ЛЕС

Лес — гэта храм.
У ім акрыяе Хам.
Лес — гэта святарнае месца,
для душаў аблудных меса.

Меў золата, срэбра Крэз,
але калі б ён убачыў
хоць раз
наш
бурштынавы Лес
вышэй ад варагавых мачтаў, —
паблякнула б срэбра яго
і золата б паржавела,
пад ногі б каменнем лягло
і сэнсу б суздром не мела,

бо Лес — гэта больш, чым лес.
Вам ранілі гострым сэрца,
крывавіць, баліць парэз,
і хочацца толькі смерці,

стрывайце, знайдзіце моц
дайсці, дапаўзці да Лесу,

ён з боскай крыві прарос
пакутнікам правіць месу,

ён спыніць жывіцай кроў —
такога не змогуць людзі,
і, быццам прадвесні гром,
у Вас н е м а ў л я прабудзіць.

Жыццё і тым болей смерць
загубяць свой сэнс цялесны —
Пан Лес не дазволіць мецць
пачуццяў, што шкодзяць Лесу,

бо нельга паганіць храм,
бо нельга святое нішчыць,
куды ж тагды прыйдзе Хам
ад хамства душу ачысціць?

## ЧЫРВОНЫ РАДОК

кожны мой золак пачынаецца з сонца
як пергаменты Слова пачыналіся
з чырвонай літары

а паганскія святы
з ахвярнай крыві Богу Сонца

бо спачатку было Сонца
і Сонцам быў Я
і выкрэсіў Я вам Слова
і пачалося яно з крыві Ігара



У піянерскім лагеры «Ліпа». Злева направа: маці паэта Марыя Іванаўна і бацька Ціхан Цярэнцевіч, сястра Валя і сямігадовы Толік. 1964 г.



Сям'я Сысаў: бацька з маці, сёстры Валя і Тамара, наперадзе – Толік. 1966 г.



Толік з сястрой Валяй.
Гарошкаў, 1969 г.



Вучань Бронненскай
сярэдняй школы.

Анатоль з братам Віктарам і суседам Сашам. 1972 г.



Выпускнік школы. 1977 г.



Маці – Марыя Іванаўна Сыс.

Бацька паэта Ціхан Цярэнцевіч Сыс.



З сястрой Тамарай і пляменніцай Сняжанай. Рэчыца, 1982 г.

На сустрэчы з паэтам Уладзімірам Някляевым у Гомельскім дзяржаўным універсітэце. Злева направа: Анатоль Сыс, Алесь Бяляцкі, Уладзімір Някляеў, Эдуард Акулін. 1980 г.

Радавы Анатоль Сыс з вайсковым сябрам. 1983 г.



Злева направа: Алесь Аркуш, Анатоль Сыс, Вольга Куртаніч, Леанід Дранько-Майсюк. 1987 г.



Анатолю Сысу – трыццаць гадоў. Менск, Дом літаратара, 26 кастрычніка 1989 г. Фота А. Клешчука.



З Данутай Бічэль-Загнетавай. 1980-я гг.



Літаратурнае пакаленне. Справа налева: Леанід Галубовіч, Алег Мінкін, Язэп Янушкевіч, Уладзімір Мазго, Міхась Башлакоў, Анатоль Сыс, Сяргей Кавалёў, Алесь Бяляцкі, Віктар Корзун. 1987 г.



Анатоль Сыс перад паседжаннем «Тутэйшых». 1988 г. Фота А. Клешчука.

Багдан Андрусішын (Данчык) і Анатоль Сыс. 1988 г.



## ДУХ

...ды слова не прагняві,
бо слова належыць Духу,
кіньце слова гайні —
і паляціць пацяруха.
Змоўчыць абражаны Дух,
новае слова народзіць,
спыніць натоўпу рух,
каб гаварыць аб народзе.
Зноў прыляціць гайня,
выйдзе з яе плюгавы.
«Дух — гэта, людзі, Я!» —
скажа, а сам з рагамі.
Людзі разявяць рот —
як жа ж, такія словы:
«З намі — увесь народ!
Шлях — да адзінай мовы!»
Людзі закрыюць рот,
кожны сябе спытае:
«Гэта ж і я — народ —
лёс такі прычакаю?»
Людзі закрыюць рот,
людзі апусцяць вочы...
Вось табе і народ,
думаць прывыкнуў моўчкі.

З думай такой і вы:
выжыве Дух-заступнік,
знойдзе для нас правы,
знішчыць пасад наш кутні...
Выжыве — гэна так!
Знойдзе... І вам на тацы
медны падасць пятак:
«Вось вам на хлеб, засранцы!»

## МАРЫЯ

Вечнасць зрывае пялёсткі з ружы...
Сее, нібы насенне,
па сухадолах людскія душы,
па чарназёмах каменні.

Сонца ўрастае ў чужое поле
і вырастае з чужога,
а калі ўзыдзе —
святлом, як соллю,
раны пячэ нябогу.

З болем сваім ён пад дрэва сядзе,
высыпле жвір з сандаляў,
столькі самоты ў яго паглядзе —
колькі блакіту ў далях.

Птушка загледзіцца ў твар нябогі,
скрушна перажагнецца,
ад развярэджаных ног дарога
травамі захінецца.

Па чарназёмах гудуць каменні,
душы — па сухадолах:

стань, небарака, стань на калені,
любіць пакорных доля.

Ён жа намацае лёс кавенькай,
выбрыдзе да жанчыны,
жыта змятае яна ў сявеньку
белым крылом гусіным.

— Светлая! — наймя ёй дасць нябога, —
выгаі мае раны,
светлая, мроя мая й трывога,
золачак мой крамяны.

Светлая вымавіць:
— Я — Марыя, —
з твару змахне змаршчынкі
і бедаку, як душу, раскрые
дзверы сваёй хацінкі.

Зёлак настоіць на першым снезе,
нанач яго напоіць,
скура, як з вужа, з нябогі злезе,
згіне з душы нябогасць.

— Любы мой, — скажа яму Марыя, —
шчасце тваё ў пакутах.
Дзверы адчыніць, бы свет, старыя,
пойдзе на холад люты,

пойдзе, ды сніцца начамі будзе:
з крыжам яго нібыта,
ходзіць па вёсках, па ўбогіх людзях,
Богам самім забытых.

## МАНАЛОГ АДСТУПНІКА

Я трапіў у сіло журбы,
я сам у гэтым вінаваты,
я быў — здаецца, ўчора — быў
на радасць і сяброў багаты.

Заўчасна разарваць сіло
я мог бы, ды баюся болю —
яно да жылаў прырасло,
як роздум мой прырос да столі,

пусты і быццам бы не мой,
як знак сціхотнага вар'яцтва,
і брыдкі па начох, як лой
ці кроў на езуіцкіх пальцах.

Адкуль, адкуль прыйшло яно?
Калі з граху, дык грэх мой — шчасце.
Я сам, я сам прыдбаў яго —
гайворана віновай масці.

* * *

Ён шкадаваў турэмных пацукоў,
карміў з рукі і, нават пасля ката,
даваў лізаць ім на кайданах кроў,
а сам
паглядам пілаваў на вокнах краты.

Ён ненавідзеў гэтых пацукоў,
калі ішоў чарговы раз да ката,
за тое, што лізалі яго кроў
і пільнавалі ад пагляду краты.

Ён ненавідзеў і любіў сяброў,
што прадалі яго за срэбнік кату.
Гаіла сонца прамянямі кроў
і пілавала прамянямі краты.

## ШТУЧНАЯ РАСА

Торф не смокча
штучную расу,
і не п'юць у лузе перапёлкі,
я збяру яе і аднясу
у агонь, бы ржавыя іголкі.

Ды агонь аддасць расу назад,
скажа ўслед: «Я полымя шаную».
І яшчэ наўслед сабе пачую:
«Чалавек, як мог ты? Ты ж мой брат».

І раса мне скуру апячэ.
У агонь атруты больш не кіну,
лепей сам пазбаўлюся вачэй,
але вочы брата не загінуць.

* * *

«Каб ты каменем стаў!»

І я стаў...
                сярод поля.
Ані жыта засеяць, ані пожні ўзараць.
Разам з гневам ва мне скамянела патоля —
ацяжэлых вачэй на людзей не падняць.

І калі б я заплакаў — паўпіваліся б слёзы
скамянелым струпеннем у шчокі мае,
толькі я не заплачу, бо рана ці позна:
«Каб ты здраднікам стаў!» —
хтосьці зноў пракляне.

## ВІЛЬНЯ, 1864 ГОД

### Эшафот на Лукішкаўскім пляцы

Перад смерцю зязюля кувае,
перад смерцю жыцця многа зычыць,
а паходня, як сонца, палае,
ды жыцця, як агню, не пазычыць...

Ты адкуль прыляцела, зязюля?
Можа, гоніць цябе па ўсім свеце,
быццам ястраб, шалёная куля,
быццам коршак, драпежны вецер.

Сціхні ж, сціхні, дурніца-птушка!
Ці не чуеш: гудуць вяругі,
вецер шыбенікаў гушкае
і, як коршак, ірве харугвы.

Памаўчым...
Не збылася воля,
толькі лепшых сяброў забрала
і пакінула сярод поля
кос ды вілаў зламаных джалы.

Памаўчым,
але боль не сцішым —
будуць помніць забойцаў раны.
Слоў і клятваў не трэба лішніх,
шлях да волі навек абраны.

## ПАМЯЦЬ ПРА ЯЦВЯГАЎ

…ані табе мовы,
ані табе сцяга…
памяць пра яцвягаў —
помста за яцвягаў…

Выстудзілі хату…
Памяць адубела…
Бы яцвяг кудлаты —
шэрая кудзеля.

Кашляе крывёю
выстылая хата…
страшна… за спіною
здань — яцвяг кудлаты.

Азірнуся тройчы:
вочы… літасць просяць.
Белы ветах ноччу
зоркі ў небе косіць.

І галосяць знічкі
над пустою хатай…
Ветах — серп крывіцкі —
…кроў… яцвяг кудлаты.
Азірнуся: вочы!

Гэта ж вочы брата!
...Мала зорак ноччу
над маёю хатай.
.................................
І галосяць знічкі,
па жывых галосяць,
гэта люд крывіцкі
чорны ветах косіць.

## МАНАЛОГ СЯРГЕЯ ПАЛУЯНА

Няма вады. Сыйду са смагай.
Прымі мяне, вільготны жвір.
Прысню: са мною кастарагу
варушаць цёмныя глыжы.

Ні ашчаперыцца, ні ўстаць мне,
ні клікнуць сонечны прамень,
я — белы ў чорным, немы Страцім,
цяжкі, як яравы камéнь.

А нада мной сыпун шапоча:
ты ж піць хацеў, дык пі мяне...
І мурашамі лезе ў вочы,
шыпіць, як гадзіна ў гайне.

Даволі, злодзей, я ўжо сыты,
ну як паклікаць мне святло,
ты ж голас, як агонь, засыпаў,
ты ж позірк мой зачмурыў тхлом.

А там, за сненнем, вырай сонцаў
губляе пёрачкі ў Дняпро,
і вочы маміны бясконца
выглядваюць мяне ў акно.

Я наталюся, акрыяю,
адрыну чорныя глыжы
і сам расою запалаю
на руні роднае мяжы.

## ЗВАНЫ

*Ахвярую Алегу Мінкіну*

I

Жыў калісьці на Палессі
майстра адмысловы,
ён ствараў званы, як песні,
ён вучыў іх словам.

І яго званы, бы людзі
крывіцкага роду,
не хавалі медны грудзі
за сваім народам.

Біў пярун па тых званіцах,
што натоўп склікалі,
ды ад лёсу адхрысціцца
людзі не жадалі.

А званы нясьлі па вёсках
ад Дняпра да Буга
словы волі, голас боскі:
Дзіда! Меч! Кальчуга!

II

Куды вядзе мяне дарога?
Каго спытаць пра гэты шлях?
Хіба што званара старога,
ён будзіць нашых продкаў прах,

ён атрасае гучным звонам
расу ў краіне верасоў,
і перад гэтым цуда-громам
капелюхі ляцяць з галоў,

капелюхі ляцяць далоў,
калі званар, як птах магутны,
нібыта крыллем, да званоў
рукамі і душой прыкуты.

Куды вядзе мяне дарога,
я ведаю, каго спытаць,
ісці нямала і нямнога,
ісці — пакуль званы звіняць.

Так, будзе цяжка, пеклам здасца
бальшак да ісцінаў зямных,
здалець яго — такая ж праца,
як з чорнай медзі ліць званы.

## МАНАЛОГ РАМУАЛЬДА ЖАКОЎСКАГА

Рамуальд Жакоўскі — малады беларускі артыст. Пачаў працаваць у трупе Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, якое было створана Ф. Ждановічам пры ўдзеле І. Буйніцкага і У. Фальскага ў 1917 годзе. Выконваў ролю старца ў «Раскіданым гняздзе», стварыў глыбока псіхалагічны вобраз. Пекна дэкламаваў. Пісаў зграбныя, настраёвыя вершы. Дваццацідвухгадовым юнаком 1 студзеня 1919 года скончыў жыццё самагубствам, паўтарыўшы лёс Сяргея Палуяна.

Беспрытульная птушка прыстанку ў аблоках шукае,
на убогай зямлі ёй нябесных вятроў не стае,
спее ў небе маланка, і скроні мае адчуваюць,
як смяротным агнём наліваюцца вены яе.

І аднойчы сябрам я скажу, што ідзе навальніца,
абдыму іх, адзіных, і скронь прытулю да грудзей,
і так блізка ля скроні іх сэрцы жыццём будуць біцца...
Толькі я з навальніцай пайду ў іншы свет ад людзей.

Гэта лёс. Вы не верце, што гэта стыхія,
пэўна ж, трэба камусьці вось так расказаць пра жывых,
каб пачулі глухія, відушчымі сталі сляпыя
дый убачылі — зоркі ўзыходзяць таксама й для іх.

Вось і ўсё — маланка ля скроні шугае.
Перадайце наступніку: хай у народзе сваім
праз стагоддзе зімы, на Свята, мой твар адшукае,
і мы — вочы у вочы, шчаслівыя — стрэнемся з ім!

## МАНАЛОГ УЛАДЗІМІРА ЖЫЛКІ

Дваццаць рэчак — дваццаць стагоддзяў —
шукаюць свайго акіяна,
збіраюць у рэчвы
вякоў разводдзі
ад самых часоў Траяна.

Замест маякоў — берагі ў бажніцах
ды ў зырkіх агнёх Купалля,
і поўня княжною ў ваду глядзіцца
у зорных сваіх каралях.

Ці вечныя зоры?
Ці вечныя рэчкі?
Ці вечныя мае словы?
Сціхотна у свеце.
Бажніцы, як свечкі
у Бога... у Бога ў галовах.

* * *

Злачынцы брыдуць на споведзь,
як коней, вядуць грахі,
між імі нямая повязь —
не вырваць аброць з рукі...

А з вуснаў не вырваць слова.
— Ну што ж вы, прыйшлі маўчаць?
Здыміце хоць шапкі з галоваў,
не бачыце — свечкі гараць!

То вашых ахвяраў душы...
Замрыце! Бо нават рух
святло іх навек патушыць,
і ў цемрыве знікне дух.

Маўчыце! Запозна кленчыць.
...Святы — для святых абраз...
Ідзіце! Ахвяры енчаць —
балюча ім бачыць вас.

* * *

На скрыжаванні сцяжын
воўчых і чалавечых
крывёй набрыняў burштын
і лютасцю сярэднявечча,

і смокчуць бурштын смаўжы,
каўтаюць смаўжоў гадзюкі,
аб косткі каля сцяжын
гайвораны гойстраць дзюбкі.

Адсечаная галава —
пакоціцца долу поўня,
ваўкоў прывядзе сава,
ахрышчаная Ваўкоўняй.

Насустрач з глухіх сцяжын
людзей прывядзе паходня:
драпежных на кроў жанчын,
на славу мужчын галодных.

Патушыць паходню жах,
завыюць ваўкі і людзі,
і ў іхніх шкляных вачах
людскога цяпла не будзе —

на скрыжаванні сцяжын
воўчых і чалавечых
крывёй набрыняў бурштын
і лютасцю сярэднявечча,

і смокчуць бурштын смаўжы,
каб выжыць — гадуюць рогі,
і косткі, нібы нажы,
вандроўнікам раняць ногі.

## КРЫЖАВАЛІ КРУМКАЧА

Крыжавалі крумкача за колер чорны
дый гадалі: а якая ў яго кроў?
— Чорная! — прамовіў кат вучоны.
Чорная, нібы яго крыло.

Крыжавалі лебедзя за колер белы
дый гадалі: а ў яго якая кроў?
І забілі цвік,
і кроў пабегла
барваю на белае крыло.

— Чорная! — ускрыкнуў кат вучоны. —
Гэткіх д'яблаў з крыжа не знімаць!
Чорная! Таму што сам ён чорны,
а за гэта грэх не крыжаваць.

## ТАПТАЛІ ПОЛЕ ВАЛУНЫ

Таптапі поле валуны,
па ім качаліся са смехам,
нібы вялізныя збаны,
нібы гіганцкія гарэхі.

А ў небе галасіў жаўрук,
і ўсім, хто чуў яго хаўтуры,
займала дых, займала дух,
праймала ад душы да скуры.

Быў сіні лён, стаў чорным лён,
як д'яблы, валуны раптапі
і поле, жаўруковы дом,
таптапі, рылі, катавалі.

## БАЖАВОЎК

Можна забіць, і спапяліць,
і прах пусціць на вецер,
а потым людзям абвясціць,
што ён не варты смецця.

Але нябесныя вятры
Ягоны прах па свеце
збяруць, як семя ў макатры,
жывой вадой асвенцяць.

І ўратаваны, з неба Дух
зноў сыдзе чалавекам,
зноў будзе жыць сярод падлюг
ды іх марыянетак.

Ён бажавоўкам праслыве,
прыблудным патарочам,
ніхто яго не праміне,
не плюнуць каб у вочы.

Плююць. Свае і ганакі,
са смехам, без прынукі,
і Духу гэныя пляўкі
страшней за яд гадзюкі.

Ды зганьбаваны сотні раз,
знявечаны натоўпам,
Ён прыйдзе ў самы горшы час
сваім адвечным тропам

да тых, хто выплюнуў душу,
хто ў паднябесных храмах
блюзнерствам замяніў імшу,
а Святароў на Хамаў.

## МАНАЛОГ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

Вяльможны лес. Дубы-машэкі
прыспалі рэха даўніх дзён,
а ў нетрах Велесавы рэкі
збіраюць ручаёвы звон.

Стыхія спіць, і толькі зрэдку
дзевяцісотгадовы зубр,
яцвяжскае загубы сведка,
рыкае ў дзевяць срэбных труб.

Жалобны рэквіем зубрыны
на мой
народ
наводзіць сум...
І каб не ўмерці — ручаіны
жабруюць па лясох расу,
бы я сцяжынаю жабрачай,
а думы — пра адвечны шлях —
там крыўская Пагоня скача,
і німб над ёй, як зорны шлях.

## ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА

Бязродная песня паэтава,
што птах са сляпымі вачыма.
Данута Бічэль-Загнетава —
якая паэтка айчынная!

І родам, і племенем гожая.
Як рэчка — змялелы брод,
хаваеш ад вока варожага
Айчыны сваёй радавод.

З мінулых крывавых стагоддзяў
ляціць за табой страла,
а час, усім злодзеям злодзей,
выскубвае пёры з крыла.

Ды пёры твае не радзеюць,
і словы ад сэрца твае,
як слёзы, як зоркі, ірдзеюць,
як кроплі расы на траве.

Слязою, расою і зоркай
да Бацькаўшчыны далучы,
раллёю і пожняй колкай
аблудных дзяцей лячы.

Вось коціцца кола з дубовых лісцяў
і кліча цябе ў Кушляны,
там здані паўстанняў яшчэ не звяліся,
там мова Мацея ў пашане.

Цвітуць на мурох старажытных зёлкі,
лячы імі люд тутэйшы.
Баляць Беларусі цярновыя зоркі,
паэтам — цярновыя вершы.

Вось коціцца кола з цярновых лісцяў,
каляных, суздром засохлых,
ты ўстала, ты ведаеш:
трэба выйсці
насустрач сваёй Галгофе.

* * *

Калі алені адшукаюць вадапой,
калі мядунцы самых смачных кветак
да сівераў збярэ пчаліны рой,
калі засцігне паляўнічых ніцы ветах —

памрэ ляснічы.

Калі чаляднік выкуе падкову,
і акрыяе ў горане агонь,
як з небыцця адроджаная мова,
калі адчуе цяжкасць срэбра скронь —

памрэ каваль.

Калі прыбой абернецца дакорам
за лаштыр, што шыкоўным пледам стаў,
калі штоночы будзе сніцца мора
і верныя сябры каля кастра —

памрэ рыбак.

Калі памрэ ляснічы,
калі памрэ каваль,
калі памрэ рыбак —

памрэ паэт.

## ЯК ЖЫЎ Я БЕЗ СОЛІ

*Ахвярую Алесю Наўроцкаму*

як жыў я без солі...
сек дровы
параніў палец
а кроў нішчымная

араў поле
да сёмага поту
і пот нішчымны

калі ж ад'язджаў —
цалаваў маці
а вусны як немаўляці

і як жыў я без солі?
Хацеў бы паплакаць
ды вочы не мелі волі

## ЧОРНАЯ ГАДЗЮКА, БЕЛАЯ ЗМЯЯ

*З народнага*

Белая гадзюка —
белая каса,
чорная гадзюка —
чорная раса.

Белая гадзюка,
як дзіцёнак спіць,
чорная гадзюка
хоча укусіць.

Белую гадзюку
зеллем напаю,
чорную гадзюку
варам абалью.

Белую гадзюку
на чырвоны кут,
чорную гадзюку
на ганебны слуп.

Белая гадзюка —
мой бялюткі дзень,
чорная — загіне
за свой чорны цень.

З белаю гадзюкай
буду баляваць,
а па чорнай змейцы
тайна гараваць.

Чорная гадзюка,
твая смерць не я,
цябе загубіла
белая змяя.

## ЯК Я ПРАДАЎ СЯБЕ АГНЮ

Днём і ўночы светліцца мой дом.
Мы з агнём на роўных размаўляем.
Не... Вучуся размаўляць з агнём.
Вусны ў вусны. Апякаюся, бывае.

Часта заглядаюць у вакно
людзі, а начамі д'яблы,
толькі ў хату не ідзе ніхто,
хаця ёсць здранцвелыя ад зябы.

Ён і сон, і хлеб мой, і вада.
Ды аднойчы д'яблы скажуць людзям,
быццам я агню сябе прадаў...
Я аддаў сябе! Хіба ж за гэта судзяць?

## ПОШАСНЫЯ

Гэтыя людзі дыхаюць цяжэй, чым валуны,
адна зямля ведае, як ім цяжка.
Іх мільёны, цэлы народ —
і ўсе яны блізняты,
і толькі выбраныя з іх
ведаюць паталогію хваробы свайго народа,
і толькі яны адныя не могуць звыкнуцца з ёю,
ім дыхаецца цяжэй, чым каму,
таму хрыпяць іх грудзі,
і душыць жахлівы кашаль,
і разам з слінаю яны выхарквають кроў,
наўмысна выхарквають на вуліцах горада,
у крамах і на сваіх працоўных месцах,
у сваёй сям'і і на чужых людзях,
бо ў гэтай крыві крыецца іх хвароба,
бо ў гэтай крыві выратаванне іх народа.

Сябры спачуваюць ім,
употайкі выплёўваючы сваё харкавінне,
абывацелі гідзяцца і ўцякаюць,
як ад пошасных,
але ўсё адно, калі ідзеш па горадзе,
усё часцей і часцей сустракаеш людзей,
якія душацца крывавым кашлем.

І я не магу так болей жыць,
я задыхаюся,
я паміраю,
сеначы ў мяне кроў хлынула ротам
на мае рукапісы, на маіх дзяцей,
цяпер і яны пошасныя...

## ВЯПРУК

Вяпрук пад шатамі дубоў
вадзіў знясіленых сяброў,
на паляўнічых не зважаў,
яго стралялі — ён ляжаў,
галодным быў — карэнне рыў
і думаў: голад паўбяды,
былі і горшыя гады,
пустыя, быццам жалуды.
Вяпрук пад шатамі дубоў,
галодны, думаў пра любоў,
пра тое, што усё жыццё
ён чуў адно — сяброў ныццё:
маўляў, паганы гэты лес,
савіны ды вужыны спрэс.
І каб не ныў яго народ,
ён ікламі ўгрызаўся ў лёд,
запэўніваў, што жалуды
у іхнім лесе не бяды,
што недародкі ёсць паўсюль,
калі ж не каштавалі куль —
ідзіце ў свой прывідны лес,
там сцежкі паляўнічых спрэс,
а я сцяжынаю вужоў
пайду на голас мудрых соў,

галодны, з думай пра любоў,
пайду, знайду Зялёны Дуб
сярод лядзяных, снежных гурб
ды ікламі ўгрызуся ў лёд
і зненавіджу свой народ.

## ПРА ШТО ШЭПЧУЦЦА МУРАШЫ

Шэпчуцца ў траве мурашы.
Ані ветру, ані грому,
і толькі расінкі бліскаюць, як маланкі,
а з параненай травы сочыцца зялёная кроў
на рудых мурашоў, на рудую глебу...
Усё зелянее і... бянтэжыцца,
і толькі цвыркочуць самазадаволеныя конікі:
ну што за дзіўны свет?
І калі ён паразумнее і ўрэшце зразумее,
што самая высакародная кроў — зялёная?
Але ўсё адно ў зялёнай траве
шэпчуцца рудыя мурашы
пра тое, што гэтая трава
і гэтыя агідныя зялёныя конікі
жывяцца рудой глебай.

## ЯБЛЫНЯ

На яе галінах растуць яблыкі, на карэннях камяні. Нават у самыя лютыя маразы, калі ледзь-ледзь б'ецца сэрца, каб не даць дарэшты змерзціся крыві, камяні выцягваюць з яе апошнія жылы. Хтосьці іншы даўно сканаў бы, нат не счакаўшы сваёй першай пладаноснасці, а яна ў незямных пакутах зноў і зноў выходзіць з забыцця зімовай анестэзіі і кожнага разу чакае сваёй вясны, быццам апошняй радасці-спадзяванкі.

Але балючай за ўсё зямлі, як той маці за самае пакутнае дзіцятка.

## ПАЦІР

Знайшлі пацір, слязамі поўны,
ніхто не ведае — чыймі.
Сярэбранае ў срэбным —
поўню
пакутнік нейкі рашчыніў.

Ад зла, спакус, грахоў замову
гугнявіў голас за сцяной...
Знайшлі на дне пацірa слова,
з малітвы выпала яно.

КАХАЮ —
вочы прачыталі,
КАХАЮ —
вусны прашапталі,
КАХАЮ —
душы прастагналі,
КАХАЮ —
людзі закрычалі.

Каго?

Паэт сказаў: Айчыну!
Жаўнер: дзяўчыну!

Хтось: сябе!
І сталі дружна, шчыра, шчыльна,
як на касьбе ці на сяўбе.

А ён канчаўся у знямозе —
ніхто яго не пакахаў,
з пацiра выплюхнулі слёзы,
і налілі праз край віна,

і сталі дружна, шчыра, шчыльна,
як на касьбе ці на сяўбе,
паэт сказаў: п'ем за Айчыну!
І кожны выпіў — за сябе...

* * *

*Ахвярую Анатолю Клешчуку*

Ляцелі ў вырай ветракі,
гублялі клёпку, быццам пёры,
я чуў, як тыя ветракі
ляцелі, думалі пра мора.

Я чуў, бо ўгледзець іх не змог —
гняло мяне цямрэчай неба,
я чуў, а сам, як той мурог,
туліўся думамі да глебы:

куды мне ў вырай, мурашу,
мой дом урос па пахі ў поле,
я неба ў Бога не прашу,
я не прашу птушынай долі,

цяпер мне сумна паглядаць
на ветракі паміж аблокаў
і чуць, як крылы іх рыпяць
і дахі слуцкага барока.

Калі ж такі надыдзе дзень —
па небе сум
адросціць крылы,

і палячу я да людзей
за моры, горы, небасхілы,

няхай сустрэнуцца тагды
мне ветракі сярод пуціны
і скажуць: «Хлопча, нікуды
вядзе дарога ад Айчыны».

## ПАЭТ

Ніхто не мае права жыць з Паэтам,
кахаць, пакутаваць і раўнаваць яго,
не тыя дні, калі б ён дбаў пра гэта,
не той напой, які б ён піў нагбом.

Ніхто не мае права мецъ Паэта,
рабіць яго паяцам пры двары,
таму што гэта... ды таму, што гэта —
народа і паэзіі падрыў.

Ніхто не мае права біць Паэта,
ён нават сам не вольны над сабой,
магчыма, ён адзіны на паўсвета,
а вы за ім нібыта за гарой.

Паэт не мае права быць паэтам
цнатлівае і чыстае красы,
калі ў Айчыне загніваюць рэкі
і засыхаюць на вачох лясы.

## АДВЕЧНЫМ ШЛЯХАМ

*Ахвярую А. Р.*

вырасце трава
і траву адшукае раса

вырасцем мы
і нас адшукаюць слёзы
цярновыя і палыновыя
самотныя і радасныя
цёплыя і сцюдзёныя

і праз слёзы мы ўбачым свет
белы і чорны
зямны і нябесны
шчаслівы і пякельны

але вырасце зноўку раса
і траву адшукае раса

і вырастуць нашы дзеці

## ВУЖАКА

Мае згрызоты збіваюцца ў клубкі як вужакі
і я — уладар гэнага паганага кодлішча —
бы цмок па адной вышмыргваю вужак з клубка
і адпускаю да людзей а тыя не зважаючы
на бяскрыўдныя жоўтыя вушкі прымаюць
іх за гадзюк а мяне за сапраўднага цмока
і ў гэты час я сапраўды пачуваюся цмокам
такой надчалавечай істотай
бо я пад панцырам бо я страшны
і толькі самая звычайная бестурботная
раніца сонцам і святлом змывае з мяне
гадаў бруд і я бягу і шукаю людзей і тлумачу
што вужакі добрыя і разумныя істоткі
і што яны не вінаватыя ў сваім падабенстве
на гадзюк што іх можна пазнаць
па залатой кароне

а людзі разгубленыя ўглядаюцца ў мае вушы
а мне ў адчаі здаецца
што яны ўглядаюцца ў мае рогі
і тады ўсе мае душэўныя болькі
як бяздомныя чорныя галубы каля
цёплага коміна туляцца да адзінага чалавека
які любіць мяне — вужаку з залатой каронай.

## БАЛАДА ПРА ПТАХА

Не ў званы б'юць...
Б'юць званы.
Языкі ім вырвалі.
Птах па-воўчаму завыў,
як вярнуўся з выраю,
як убачыў гэткі здзек
над братамі роднымі,
плакаў, быццам чалавек,
і кружляў над Гродняю.

Нарадзіўся птах і жыў,
раздзяліць каб муку
з тым, хто смягнуў на крыжы,
хто канаў на бруку,

нарадзіўся птах і жыў
неўпрыкмет, як рэха,
на мяжы і на глыжы,
на сялянскіх стрэхах.

Паляўнічы не чапаў
яго светлай песні,
вецер пёры не шчапаў,
аднак і не песціў,

жыў пад кронаю зямлі,
па зямных законах:
што шапталі карані —
паўтарала крона.

Кронаю былі званы,
і аднойчы ў свята
песню загулі яны
пра свой лёс пракляты:

каты, каты, каты, каты, —
нібы ў небе Бог рыдаў,
нібы ў гневе трушчыў краты
той, хто справу не прадаў, —

каты, каты, каты, каты, —
рэхам адгукнуўся птах,
над краінаю аратых
ён лунаў, як волі сцяг.

І прыйшлі-прыбеглі каты,
нацкавалі груганоў,
як сабак,
на песню птаха,
на бунтарны спеў званоў.

І прыйшлі-прыбеглі суддзі,
абвясцілі свой прысуд:
біць, пакуль не трэснуць грудзі,
біць, пакуль не ўкленчыць люд!..
.......................................................

Час мінае, ды не лечыць…
Прытуліся да вякоў —
чуеш? Птахаў голас енчыць…
Бачыш? Чырванее кроў…

## МАНАЛОГ АЛЕСЯ ГАРУНА

Гараць камяні ў маім вогнішчы,
расцвеленыя агнём,
нібы ваўчаняты ў логвішчы
сонечным прамянём.

У твар мне шугае полымя,
ды я ўсё адно бяру
каменні рукамі голымі
і гэткім, як сам, дару.

Бяруць і да сэрцаў туляць:
няхай нас ратуе боль
і вучыць пра бліжніх думаць,
пра тых, хто гібее ў золь,

пра тых, хто прамёрз да костак,
хто шлях да агню згубіў,
хто д'яблу чырвоным хростам
Айчыну сваю пазбыў.

Дай Бог, каб маё каменне
аднойчы іх апякло,
прымусіла ўстаць з каленяў,
пайсці на маё святло.

Я — тут! Я шугаю полымем!
Праз боль я з сябе бяру
каменні рукамі голымі
і гэткім, як сам, дару.

Дай бог, каб маё каменне
Жар-птахам дайсці змагло
да тысячных пакаленняў
і сэрцы іх апякло!

## ЧОРНАЯ БЫЛЬ

Плыў белы дзень — крыло самотнай птушкі
нас ратавала незямным святлом, —
задыхаў дол і прашчуравы душы,
крыві й зямлі вяртаючы цяпло.

Плыў белы прывід даўнімі кладамі
і выглядаў прарокаў скрозь дзірван,
і вёў іх за сабой над гарадамі,
над чорнымі ільдамі ў Белы Храм.

І Белы Храм з'явіўся над ільдамі,
яго не ашчаслівіў боскі перст,
ён не свяціў здалёку купаламі,
а Белы Храм — быў чорны хвойны лес.

Не абразы, а змучаныя твары
крыніцы адбівалі, а Дняпро
цягнуў, як баржы, д'яблавыя хмары —
трымцелі жылы і цяжэла кроў.

Шчымелі крылы у палескіх птушак,
балелі рукі у тутэйшых баб,
і чорным цветам расцвіталі грушы,
атрутным сокам наліваўся сад —

груган накрумкаў ці спрадвечны вораг
мінулым векам не дапіў крыві?
І ўсе гады, зладзюга, нашым горам
сваіх дзяцей выродлівых карміў,

і, прычакаўшы зручнае часіны,
ён запусціў, як гада, ў спячы Храм
нянавісцю ускормленага сына,
такому б пазайздросціў Юда сам.

А белы цень прыспешваў пракакаў,
на гэты раз не верачы жывым, —
там далягляд слязіўся, быццам вока,
а ў Храме вычвараўся сукін сын.

## МАНАЛОГ АПАНАСА ФІЛІПОВІЧА

У гэтай краіне не маю я дому,
вось воблака — сяду і ў свет палячу
над гэтай гаморай, над гэтым садомам,
ні грошай, ні славы — я волі хачу.

У гэтай краіне не маю я долі,
вось посах і торба і сотні дарог.
Па долю пайду. Не вярнуся ніколі.
Няхай мяне судзяць хоць людзі, хоць Бог.

У гэтай краіне не маю я Бога,
ушчэнт разапселі яго святары:
дзе церні павінны насіць — носяць рогі,
які ж тагды Бог, калі служкі звяры?

У гэтай краіне не маю я роду,
забыўся народ мой наймення дзядоў,
і свету не бачыць далей азяроду,
і дзецям не дорыць на шчасце падкоў.

У гэтай краіне не маю я песні,
якая б народнай была і маёй,
якую б сябрына запела ў Бярэсці,
а рэха ўзышло за Дняпром, за Дзвіной...

У гэтай краіне не маю я дому,
вось воблака — сяду і ў свет палячу
над гэтай гаморай, над гэтым садомам,
ні грошай, ні славы — я волі хачу,

бо ў гэтай краіне не маю я волі...

## САБАКА

Сабака ў горы пасівеў,
нікому ў вочы не глядзеў,
нат спачування не шукаў,
бо меў адмеціну: шакал.

І ўсё ж, абпалены таўром,
ён вартаваў забраны дом,
забраны двор, забраны сад,
магілы продкаў ля прысад,

бо ўлезе брудная свіння,
клады разрые сярод дня,
каб потым рохкаць і крычаць:
«А продкі вашыя маўчаць?!

А можа, мову адняло?
Яе ж у вас і не было...»
Ён вартаваў гаротны дом,
ды ўжо не быў гаспадаром,

адно, была яго — душа,
нібы дзяржаўная мяжа
паміж чужынцамі ды ім,
сабакам, да шаленства злым,

а свінні рохкалі наўкол,
лычамі разрывалі дол
і крылі матамі князёў,
што так глыбока пад зямлёй

іх прах хаваюць плывуны
ад Бога, чорта, сатаны...
Бо дзе той Бог, калі свіння,
нібы карыта, сярод дня

труну цягае па кладах
ды топча капытамі прах.
А ўночы прывіды плылі,
яны жылі, яны былі.

І ўночы жудасна хтось выў —
Алесь Гарун сабакам быў.

## ПРАЧЫТАЎШЫ ВЕРШ ПІМЕНА ПАНЧАНКІ «РАЗВІТАННЕ»

Родны мой Пімен Панчанка,
Вы сказалі: настала змярканне?
Вы сказалі на маці мачыха?
Бо настала Вам развітанне?

З яе словам — ужо не родным,
з яе сонцам — ужо халодным,
з яе людам — спрадвек галодным,
нават Богу й таму няўгодным...

Адыходзіце ці зракаецеся?
Ці сухімі слязамі каецеся?
Пад крыжамі Сафіі Полацкай
бюракрат за Вас не памоліцца,

а памоліцца за Вас мачыха,
за сыночка свайго, за Панчанку,
і ў галовах запаліць свечачку.
Можа, ўзімачку, а можа, ўлецечку

скрозь расстанне і скрозь змярканне
на агеньчык паэт прыстане,
скажа: родны мой Пімен Панчанка,
я Вам верыў, ды вера страчана.

І ў галовах патушыць свечачку,
можа, ўзімачку, а можа, ўлецечку
пад крыжамі Сафіі Полацкай
ён за Белую Русь памоліцца,

за наступнікаў і за прадзедаў,
ён памоліцца так, як дадзена,
як вучылі Купала з Коласам —
крэўнай моваю, родным голасам.

Вы жывымі слязамі заплачаце,
за паэтам народ убачыце
скрозь расстанне і скрозь змярканне,
Вам за смерць сваю прыкра стане,

бо пад небам Сафіі Полацкай
на народных паэтаў моляцца.

## МАНАЛОГ «ТУТЭЙШАГА»

*Ахвярую Максіму Танку*

Люцыян, уяві, ты адзін,
ты застаўся адзін на Славяншчыне,
і нікога няма, паглядзі,
і нічога з Купалавай спадчыны,

і забралі жанчыну тваю,
віна налілі ёй атрутнага,
загадалі: адпі за сям'ю,
а да дна — за радзіму акрутную,

і сканала жанчына твая,
і памерла радзіма апошняя,
і паглохлі зязюлі ў гаях,
а ў нябёсы ўсмакталіся коршакі,

захлынуўся крывёю Пярун,
зразумеўшы ў запозненым плачы,
як сваёю крывёю Гарун
і ягоную кроў прадбачыў,

і зліліся ў адну раку
і атрута, і кроў, і слёзы,

і на выспу, як на руку,
селі коршакі, як залозы.

А ў тваім, Люцыян, Дняпры,
што жывіў спакон веку гоні,
тры русалкі, славянкі тры
янычаравых мыюць коней,

а ў тваім, Люцыян, Сажы
на грудзёх з камянём пудовым
твой апошні паэт ляжыць,
бы ў труне — у Сажы лядовым.

Ты адзін, ты адзін, ты адзін,
ты застаўся адзін на Славяншчыне,
і Радзіма твая, паглядзі, —
русакосая Янычаршчына,

а калісьці ты гаварыў,
а калісьці ты нават кляўся:
не патухне Зніч на Гары!
Ён патух. Ты яму пакайся

за ягоны пакутны прах,
за Радзіму сваю нявінную,
янычары яе ў палях
крумкачам ды ваўкам пакінулі,

ты пакайся за свой спакой,
што зубамі не грыз вяроўку,
бо здушыўся і ты на ёй,
ад жывёльнага поту мокры,

кайся, кайся за свой жывот,
не забудзься і пра Купалаў,
бо цяпер ты адзін — народ,
быццам храм на шляху вандалаў.

ДЫ ПАКУЛЬ ТЫ ЯШЧЭ ЖЫВЕШ,
ЗАПАЛІ ПРАД КУПАЛАМ СВЕЧКУ,
ПРАЧЫТАЙ І СПАЛІ МОЙ ВЕРШ,
А ВАНДАЛАМ СКАЖЫ:
Я ВЕЧНЫ!

## УРОДА МАЯ, УРОДАЧКА

Не хавай не хавай не жахайся
за спіною крылаў
прывыкай прывыкай да ўродства мая ўродачка
а ідзі ў луг луг луг там зялёныя
астравы астравы
астравы белыя журавы журавы журавы
а ідзі ў поле поле поле там чорныя
груганы груганы
груганы
а ўсё лепей
яны не задзяўбуць не абплююць не абалгуць
ідзі ідзі ідзі а навучаць лётаць
лётаць лётаць
ідзі ідзі ідзі а людзей пабачыш
з нябёсаў нябёсаў нябёсаў
а скубанеш пёрачка не баліць баліць баліць
а кінеш ім залаценькае ценькае ценькае
а залюбуюцца табою замілуюцца
а паўзбягаюць на горкі горкі горкі
а паўзлазяць на стрэхі стрэхі стрэхі
а з горак пакоцяцца пакоцяцца
галоўка закружыцца
а са стрэхаў скокнуць скокнуць
ножкі вывіхнуць

а ты паплач паплач паплач над бяскрыдлымі
а ты прысядзь прысядзь прысядзь
не на іх двары
а ты прысядзь прысядзь прысядзь
на зялёныя астравы
там з вачэй слёзы выцеруць
з сэрца стрэмкі выцягнуць
белыя журавы журавы журавы.

* * *

*Ахвярую*
*Сержуку Сокалаву-Воюшу*

Вятры маю цалуюць галаву —
мой бюст сябры паставілі на пляцы,
я поглядам вырошчваю траву,
зялёную траву на брукаванцы.

Мне на плячо, калі пануе змрок,
сядае сокал з вечнаю высновай —
што з Беларусі не сыйшоў Прарок,
і што з Прарокам ацалела Слова.

Світанкам прыйдзе лепшы мой сябрук,
а на плячы — з высновай вечнай сокал,
дзе прарасла трава — разбурыць брук
і вызваліць чаканага Прарока.

## РУЖА

Маё жыццё — гняздо з калючых руж.
Не Беларусь, маё жыццё — Радзіма.
О Божа-мазахіст — і я, бы вуж,
дзяру з сябрамі скуру каля Рыма.

Ты ведаеш па імені усіх,
Ты ж сам прызнаў: было спачатку слова,
і мне м а ё ты вымавіў услых
і не габрэйскай, а тутэйшай мовай.

І ружу ружай ты назваў
і даў,
я да крыві скалоў дзіцячы рукі,
не ты,
я сам крыві сваёй жадаў —
твой вучань — вымаўляў з табою гукі
радзіннай кветкі,
цёплай, быццам кроў
Айца, і Сына, і Святога Духа.
О Божа — мазахіст уласных слоў,
глядзі мне ў вочы —
там любоў і скруха.

* * *

Журавы спяваюць паланез і іх
не шкада над беднай Беларуссю

я паэт прыгоннае паэзіі
і такім да смерці застануся

журавам не трэба ў зорнае жніво
з поўняй на гарбе ляцець на паншчыну
колькі б нас пасля Купалы ні жыло —
плюнеш — не паэты — самазванішчына.

* * *

Я зжэр бы свой народ,
бы зерне ў недарод,
і, як віном,
сваёй крывёй запіў бы.
На Захад ды на Ўсход
жыве чужы народ —
скарміў бы іх арлам
свае ваніты,
вярнуўся б да Зямлі,
бы ядам да змяі,
вярнуўся б да адзінае жанчыны,
прамовіў бы: каб нам
не біць паклон арлам —
Айчыне трэба новыя мужчыны!
Таму і зжэр народ,
бы зерне ў недарод,
бо згаладаўся я
без долі й волі.
Растаў Харонаў лёд,
пярэйдзем Сцікс уброд,
зачнем, Айчына, сына ў чыстым полі.

## ВАМ, НА ЛОЖКУ ЗЯМНЫМ...

І калі на радзіме я збяру ўсіх сляпых
каля сініх вачэй, каля сініх вазёраў,
запрашу іх за стол, як законны жаніх,
ды на кут пасаджу сваё гора,
а на твар і на смех напушчу весялосць,
і на вусны — усмешку, як вестку,
запытаю гасцей: ці відушчы хто ёсць,
каб падняў першы тост за нявесту.

Каля сініх вачэй, каля сініх вазёр
той, хто помніў мяне з маладосці,
калі цноту ўначы забіраў я у зор,
падаў з неба, ламаў юны косці,
той, хто помніў мяне, скажа тост,
той, хто самы сляпы ды відушчы.
Стане ціхім мой фэст, як пагост
каля сініх вазёраў у пушчы,

бы ў зялёным бурштыне, застынуць звяры
у лістоце. Бы ў сінім бурштыне,
не ў святочнай кашулі,
а ў змроку вярыг
я знявечанай зоркай застыну.

А зямныя нявесты, калі засынаюць мужы,
страшным шлюбам пабраныя з ноччу,
з-пад падушак пасажных дастануць нажы,
спячым выкалюць сінія вочы.

А я ў змроку вярыг
веру любай сваёй
і стальнога пяра не хаваю,
як законны жаніх,
боскай шлюбнай зарой
сам лязом ёй пад сэрца пыраю.

Вам, на ложку зямным,
не спасцігнуць мой кайф —
вы з крывавалю зоркай не спалі —
разгадайце ж наколку на босых нагах
у Ісуса Хрыста:
«ОНИ ВСТАЛИ!»

* * *

Я п'ю адзін чырвонае віно
і вам налью, а мне крыві наліце,
сваёй крыві — чужой не падманіце,
я п'ю адзін, я кроў не піў даўно.

* * *

У кніжцы маёй безыменнай,
над вершам маім безназоўным,
на белай, як снег, паперы
сузор'е ўзышло з трох зорак —
трынаццатым знакам «Сэрца».

Ды я з той пары самотны,
начамі сачу за небам —
у пыле нямых сузор'яў
там з лукам Стралец блукае.

## ПЕСНЯ ПРА ЖАНУ

*Ахвярую Юрыю Кузняцову*

У расейцаў шаблі касыя,
у расейцаў вочы Батыя,
конскія хвасты за плячыма,
потная кабыла — Айчына.

Не патрап пад шаблі касыя,
не павер у вочы Батыя,
не сядлай жарэбай кабылы —
прывязе да цёмнай магілы.

А ў мяне ж свая ёсць магіла,
а мяне ж яна палюбіла,
палюбіла сынам і мужам,
як жану, я біў яе гужам,
а я біў-пытаўся: ці мала
да мяне з чужынцамі спала?

«Спала з маскалём, спала з ляхам,
ды была пасцеллю мне плаха,
спала з тваім бацькам — ліцвінам,
а цяпер з табой — маім сынам,

паглядзіся ў рэчкі лясныя,
хіба ж маеш вочы Батыя,
хіба ж конскі хвост за плячыма,
паглядзі — з кім спала Айчына,

а ў расейцаў шаблі касыя,
а ў расейцаў вочы Батыя,
конскія хвасты за плячыма,
потная кабыла — Айчына.

Не патрап пад шаблі касыя,
не павер у вочы Батыя,
не сядлай жарэбай кабылы —
прывязе да цёмнай магілы,

а ў цябе ж свая ёсць магіла,
а цябе ж яна палюбіла,
палюбіла сынам і мужам,
як жану, ты біў яе гужам,
а ты біў-пытаўся: ці мала
да цябе з чужынцамі спала.

Спала з маскалём, спала з ляхам,
ды была пасцеллю мне плаха,
спала з тваім бацькам — ліцвінам,
а цяпер з табой — маім сынам,

паглядзі у рэчкі лясныя, —
хіба ж маеш вочы Батыя,
хіба ж конскі хвост за плячыма,
паглядзі — з кім спала Айчына».

## ЭЙ, ЮВЕЛІР

Эй, ювелір!
У кулю пералі маё пяро!
Я кроў здабуду — не люблю атрамант,
сем знічак налічу — сваю душу
прастрэлю неначы, нібы пергамент.

Я не баюся ўласнае крыві —
я стрэлю не ў душу,
я стрэлю ў рану.
Эй, ювелір!
Пергамент не парві,
вазьмі яго ў бярозавую раму
і падпішы маёй крывёй:
«Душа».

## ВЕТАХ

Паміж дажджоў, снягоў,
за белым светам,
у самай гушчы зорак маладых,
век дажываў забыты ўсімі ветах
і для спачыну выбіраў клады.

Ён дзень і ноч, самотны, дбаў пра гэта,
але наўкол былі адны сады
і хоць бы крыж для нейкае прыкметы
альбо зямлі прыгорачак руды
паміж дажджоў, снягоў,
у раі, ў пекле,
але ў зямлі —
нібыта ў грэшнай Тэклі.

* * *

У нябёсах маіх дагараюць агні,
непрытомныя гаснуць ад холада.
Што сабраў я сабе на апошнія дні...
Срэбра веры ці мудрасці золата?

Ці любіў я? Любіў!
Сяброў, маці, віно...
Кляўся Бацькаўшчыне да магілы,
ды ў сузор'я майго,
бы ў калосся ў жніво,
ад пакуты надтрэснулі жылы.

І куды б я ні йшоў —
яно ходзіць за мной,
можа, хмару наклікаць якую?
Каб не бачыць яго над сваёй галавой
хоць тагды, калі з любай балюю.

І таму не пытай, чаму сумны такі,
і любі мяне толькі шчаслівым,
за віном, за сяброўскім сталом гаваркім,
за лістом да матулі — маўклівым,

Бо ў нябёсах маіх дагараюць агні,
непрытомныя гаснуць ад холада,
бо сабраў я сабе на астатнія дні
прагу жыць, а не срэбра й не золата.

## У ЧЫРВОНЫМ КАСЦЁЛЕ

У Чырвоным касцёле,
за вобразам боскага сына,
ёсць таемныя дзверы,
дзе нехта нябачны ўначы
шумна іх расчыняе,
і ў храм уваходзіць жанчына,
і завалы жалезныя лязгаюць, быццам мячы,

і ад іскраў жалезных жанчына запальвае свечкі,
і труну засцілае арнатам літым залатым,
і касцельнае ўбранне зіхціць у нагох
Шляхам Млечным,
быццам шлях перад дзевай
у папскі аблудлівы Рым,

і з труны, бы са склепу,
ў пацірах віно падаецца,
і калі зазірне нецярпліва жанчына ў яго —
яно тварам распусным
распяццю Хрыста усміхнецца
і вачыма ўвап'ецца,
нібыта ў мужчыну свайго,

і заплача віно,
і атруціцца ўласнай слязою,
і на белых грудзёх адаб'ецца крывавым таўром,
валасы расплятуцца —
аблудная іх сівізною,
ногі боскага сына атуліць, нібы серабром.

У Чырвоным касцёле,
за спінамі боскай сябрыны,
ёсць таемныя дзверы,
дзе нехта дрыготкай рукой
золкам іх расчыняе,
і з храма выходзіць Хрысціна,
і да боскай сябрыны вяртаецца боскі спакой.

## СКАРПІЁН

Вакол раю майго
запляліся ў вянок карані
гэта сад мой
прахожы
ты яблык з яго не крані

вакол суму майго
запляліся галіны ў вянок
а над садам
нябёсы
сузор'е ўзяло на замок

вакол лёсу майго
запляліся каса у касу
дзве каханкі мае
я да смерці між іх не засну

## НЕ ХАДЗІЦЕ ЗА МНОЙ

Не хадзіце за мной! Не хадзіце!
Бо я маю рахункі з сабой.
Не кахайце мяне! Не любіце!
Бо каханне для дурняў — сымболь.

Вы мяне цалавалі — плаціце!
За мінутную слабасць маю,
вар'яцейце над прорвай у жыце[1],
вось лязо! Я вам шанец даю.

Не будзіце мяне! Не будзіце!
Не сачыце за мной, калі сплю.
Я у сне — на вайне, як над прорвай у жыце,
ці Хатынь, ці бацькоўскую хату палю.

Вы мяне спакушалі — плаціце!
Але ёй вырак — за шчасце для Вас.
Не хачу быць сымболем! Ідзіце
у царкву, там ёсць файны абраз.

І, хоць трэсніце, ногі цалуйце
хоць Марыі Святой, хоць Хрысту,

---

[1]Радок з рамана Сэлінджэра «Над прорвай у жыце».

не хадзіце за мной! Не хадзіце!
Я ў жыцці, як у шторме ладдзя.
Не судзіце мяне! Не судзіце!
Знаю, што і ў мяне ёсць суддзя...

Але ж я заблуджуся ці згіну,
ну й ... з ім! Згіне д'ябал са мной,
а вас, мілая, кіну ды рыну!
Вось такі я, Радзіма, герой.

Не ганіце мяне! Не ганіце...

* * *

Пад вакном журба збірае мяту,
а расціла
радасць
яе тут.

Калі Бог пашле паэта ў хату —
пасадзіце на чырвоны кут.

З абраза святою павуцінай
павучок, як Дух, чало кране...
За паэтам я зайду ў хаціну —
не пускайце да яго мяне.

## ПЕРАД БОГАМ

Я думаў,
вершы мае відушчыя,
аж пакуль не аслепнуў сам
ад маланкі, самім жа пушчанай,
я гарэў, як бязбожны храм,
сам сабе я ў ім здаўся богам,
адпускаў сам сабе грахі —
грызла ганак, вяла дарога
зноў на д'яблавыя круті,
ад яго я вяртаўся ў поўсці
і калі цалаваў свой крыж,
ён адбіткам жахлівым помсціў,
бы люстэрка ці д'яблаў віж,
і тагды я складаў малітву,
можа, ў соты свой самасуд,
той малітвай, нібыта брытвай,
сашкрабаў у адчаі бруд,
і ў адчаі я рэзаў вочы,
і жахаўся крыві сваёй,
і жагнаўся — набожна, тройчы, —
і агідны жывёльны лой
з гострай брытвы маёй малітвы,
быццам гной, патыхаў маной.

Я пакінуў свой храм смярдзючы,
азірнуўся на купалы,
а святыя ў маіх анучах
неслі кроў маю на сталы,
а я, голы, як здань, бяскроўны,
у чыесьці ступаў сляды,
перад Богам жывёле роўны,
нёс грахі свае на клады,
і глыбела за мной сцяжына,
і ступала ў мае сляды
маці грэшных усіх — Жанчына —
з поўнай чарай жывой вады.

## САМОТНЫ

Маё шчасце недзе заблукала...
Цяжка ўспомніць — ноч была ці дзень, —
як мяне самота адшукала,
падышла, ў чало пацалавала.
Бы жанчыну,
я абняў свой цень.
Цяжка ўспомніць — ноч была ці дзень, —
я адчуў самоты асалоду,
хоць за рэчкай — шчасце,
я — ля броду...
Не пайшоў. Спалохаўся за цень.
А самота ў вочы цалавала,
быццам парушынкі з воч вымала,
ды глядзець за рэчку не давала.

Так спазнаў яшчэ адну жанчыну.

Цяжка ўспомніць — дзень быў альбо ноч, —
цяжка, бо пазбавіўся я воч.
А сябры, прыгожыя каханкі,
позіркі — пякучыя маланкі,
хто з вінам, хто з вершамі,
ішлі,
ды мяне ранейшым не знайшлі...

Я хаваў ад іх сляпыя вочы,
налівалі, і я піў віно,
сам жа, як злачынца,
ўсё адно
я чакаў сваёй самотнай ночы.
Я змярцвеў,
хоць чуў вакол прамовы
пра каханне, адраджэнне, мову,
тосты за Радзіму...
Ўсё адно
за самоту піў сваё віно.

Так спазнаў яшчэ адну Радзіму.

Цяжка ўспомніць — ноч была ці дзень,
бо здушыла горла, як камень,
мне віно,
і верш мой занямеў.
Прыгажуні падстаўлялі вусны,
я ж у лоб нябожчыц цалаваў,
мне яны шапталі: «Парню грустно?..»
«Хлопцу сумна...» — я перакладаў.
А сябры, нібыта на пахмелле,
пакідалі вершыкі свае,
і, напэўна, кожны думаў:
зелле
ад мае самоты мне дае.

І тагды
я ўзняў сляпыя вочы,
каб яны жахнуліся бяльма,
беглі ад яго
у свет,
упрочкі,

бо ў вярыгах ісціны няма.
І тагды
адбіткі сваіх бельмаў
я убачыў і на іх вачох.
«Парням грустно?..»
«Хлопцам сумна вельмі...» —
я хацеў сказаць, але не змог,
бо чакала за спіной самота
і гарлянку раздзіраў камень,
бы жанчыну,
я абняў свой цень,
і прыпаў да зваблівага роту,
і здушыў сваёй крывёй самоту...

Знікла ноч.
Ізноў вярнуўся дзень!

## БЕЛАРУСКІЯ ІКАРЫ

Срэбны прах, балючы прах на скрылцах,
з ранай у патыліцы зямля,
да людзей баіцца апусціцца,
да людзей баіцца апусціцца,
да людзей баіцца апусціцца
курапацкіх ластавак сям'я.

Прывіды пакут зямных — Ікары,
прытуліўшы да грудзей начніц,
зазіраюць ластаўкам у твары,
зазіраюць ластаўкам у твары,
зазіраюць ластаўкам у твары
цемраю прастрэленых вачніц.

Быццам дзве жабрачыя далоні —
неба і зямля, жыццё і скон,
а над Светам белы чэрап поўні,
а над Светам белы чэрап поўні,
а над Светам белы чэрап поўні
куляй звоніць — ноч гучыць, як звон:

«Ёсць Ікары, ёсць і ў вас сталіца,
там Тыран накрыў для вас сталы!..»
А з нябёсаў голас: «Лепш разбіцца...»

А з нябёсаў голас: «Лепш разбіцца...»
А з нябёсаў голас: «Лепш разбіцца
аб бетон Уранавай скалы!»

Срэбны прах, Купалаў прах на скронях,
б'юць падковы ў чэрап, як у звон,
топчуць цела чалавека-коні,
топчуць цела чалавека-коні,
топчуць цела чалавека-коні,
з куляй у патыліцы — Зянон...

## ПЕСНЯ ПРА ЎВАСКРАШЭННЕ ВЕРШНІКА

Дайце яму ўрэшце адпачыць
у цяні харугваў ды штандараў,
дайце, дайце сон яму дажыць,
сон — нібы палон у янычараў.

Ён не спаў тры ночы і тры дні
і цяпер, як зоркі, лічыць кроплі:
у пагоні страчанай крыві,
у палоне — вартавога крокі.

Дайце яму ўрэшце адпачыць,
кат яго даўно адпачывае,
дайце, дайце сон яму дажыць,
сон — як рана у грудзёх жывая.

Ён не спаў тры ночы і тры дні,
пад харугвамі яго прыспалі
кулі-кулі, быццам авадні,
знічкі-знічкі ў Марсавым метале.

Ды не Марс — Ён шоламам свяціў.
Меч — як знак бяссмерця на далоні.
Ён не спаў тры смерці, тры жыцці...

...І ўваскрэснуў вершнікам Пагоні!

* * *

Мой Дняпро тры тысячы гадоў
косці круціць у вірох барвовых,
аж дасюль бруіцца з ранаў кроў
на ягоных змучаных рамёнах,

мрояцца адвечнымі віры
людзям з берагоў і птушкам з неба,
быццам вавілонскія муры
ў плашчаніцах воблачнага зрэб'я.

Нават ноч баіцца зазіраць
у віры —
здаецца, пад карчамі
крывічы прыкутыя ляжаць
да гармат расейскіх ланцугамі,

а на барву змрочнае ракі
узыходзяць чарапы, як поўні,
і на іх, нібы на маякі,
праз вякі
брыдуць з палону коні.

Рэха капытоў майго каня
працінае вір адчаем лютым,
толькі не сустрэну яго я,
ланцугамі да гармат прыкуты.

## ЛАСТАЎКА

Ластаўка,
так даўно ты не лётала,
павуціну крылом не ткала,
правым ля Неглюбкі, левым ля Моталя,
з любым, ластаўка, не балявала

так даўно, так даўно, так даўно,
што аж неба з-за слёз не відно.

Ластаўка,
ты ніколі не бачыла,
дык пабачыш, якая смерць...
Снег з Расейшчыны, дождж з Паляччыны —
будзе целу й душы балець,

ластаўка.

* * *

...і разышлося неба над студняй
і паглядзеўся ў яе тата
і застаўся ягоны адбітак

на асверы кажан не ўтрымаўся
ці кінуўся ў цёмную студню —
самотны кажан
ссівелы кажан
ускормлены татам з рукі

войкнула маці бы яйка ўпусціла
войкнула неба бы зорку ўпусціла
войкнуў тата — сыночка ўпусціў

ды аднойчы зноў асвер зарыпеў
і ў поўні бы з яйка зорка вылузалася

Толік паглядзі — маці шэпча —
што за птушка на асверы гушкаецца...

## МАНАЛОГ КАРУСЯ КАГАНЦА

Нам мова далася крывёю
ды выпаленымі вачыма,
хавалі яе, як зброю,
насілі, як горб за плячыма.
Сяклі яго гострай шашкай,
да костак нагайкай білі
і царскай, і зверху, ляшскай,
ды мы яго ўсё ж любілі,
хоць рос ён ад сініх шнараў,
ад позіркаў воч варожых,
ды мы яго, быццам рану,
хавалі — свой скарб заможны.
І скрозь па шляхох-гасцінцах
вялі гарбуноў закутых
у іншую веру ксціцца,
пад Богам чужым і лютым,
а Бог наш — не ідал з воску,
без племені, без радзімы,
а горб наш — прырос да костак, —
ЁН
БОГ НАШ,
І БОГ АДЗІНЫ.

## У САФІІ КРЫЖ ЧЫРВОНЫ

Ён не змог, таму й не схлусіў
пра наш век вар'яцкі,
і брыдуць па Беларусі
цэрквы, як жабрачкі,
а наперадзе Сафія —
у грудзёх-арганах
сэрца Маці Боскай гіне
у крывавых ранах,
а нам музыкай здаецца
плач яе хаўтурны,
а ў арганах стогне сэрца,
трубы, быццам струны.
Так брыдуць па Беларусі
за Сафіяй сёстры,
ды лятуць з бязвер'я гусі
на крыж
яе гостры.

* * *

Беларусь мая, мая магіла...

І калі вясёлка над труной
вып'е кроў да кроплі з маіх жылаў,
Беларусь, накрый мяне зямлёй.
Не, счакай, яшчэ аддам я вочы
сваёй здані,
каб мая душа
не зблудзіла на чужыну ўночы,
каб між намі не лягла мяжа.

Беларусь мая, мая магіла,
з бел-чырвона-белага радна
ці кашулю мне на смерць пашыла?
Беларусь мая, мая магіла,
ты ж адна ў мяне, як ёсць адна.

## ЗАМОВА АД КУРАПАТ

дзедавы жорны чорны —
матчын парог-абярог
выраслі з маіх ног
стаміўся я ад дарог
Пан Бог іх прайсці не змог
хоць кажуць душу ўбярог
ды крыжам ля Менску злёг

* * *

я
яшчэ
не попел
і не прысак
пакахай мяне
такім як ёсць —
ў боскіх іскрах
і ў шампанскіх пырсках
Ягамосць!

## РЭАБІЛІТАЦЫЯ

*Ахвярую Сяргею Грахоўскаму*

чорныя
чорныя
як з каміноў
сумныя сумныя
як з таго свету
сорак гадоў — без'языкіх званоў —
стогнам вярнулі натхненне паэту

* * *

Распаўзліся маланкі па лесе нябёсным,
быццам ніткі чырвоныя з матчыных кроснаў,
а зямныя вужы паўзлязалі на дрэвы высока —
сёння свята прылёту апошняга іхняга Цмока,
і заціхлі вятрыскі, ў вузлы завязаліся —
Цмок загінуў.
Вужы з вершалінаў на дол пакідаліся.

* * *

Мы — чарада самотных птахаў,
над намі зорныя крыжы,
за намі вісельні ды плахі
ды ўслед шпурнутыя глыжы,
за намі веды валунамі
грымяць этапамі бацькоў,
няма жывой душы за намі,
нат з плах залевы змылі кроў.

Чырвоны Зніч над Белай Вежай.

Ґудзе ў здагадках стольны Менск,
а мы ў нябёсах крэслім межы —
вяртаем Вільню, Пскоў, Смаленск...
Мы — чарада самотных птахаў
у атачэнні груганоў,
Дняпро нясе ад Маці-Плахі
ў чужое мора нашу кроў.

## ЯК ТОЙ САБАКА

Як той сабака,
я шукаю схову —
сканаць у ім,
каб шкельцы гострых слёз
спаўзлі з вачніц,
нібы з асвіных гнёзд,
на вусны
і з крывёй збудзілі мову.

Няхай, хоць перад смерцю,
я пачую —
што
кроў мая раскажа пра мяне?..

Ды гэтай ноччу смерць хай абміне,
і, бы ў труне, я ў схове заначую,
як той сабака...

Я пагібель чую.

## БЕЛАРУСІ

Хто з пяром, хто з паходняй, хто з посахам
свет знайшоў,
а я — з гострым нажом,
о сівая мая, о боская,
згвалтаваная, мая босая,
мая голая пад дажджом.

А ты думала, а ты й думай так,
што твой родны сын не зладзей,
таму й носіць нож, бо рабіць мастак
скрыпкі здатныя для людзей.

О сівая мая, о боская,
хаця сэрца сніць гостры нож,
ад цябе адной не адрокся я —
у нагох тваіх — медны грош,

але прыйдзе ноч дужа зорная,
тваёй спраўджаная слязой,
а мая душа будзе чорная,
небяспечная, як лязо.

Яе ўгледзіш ты,
я цябе прашу,
я па-воўчаму буду выць:
не ідзі ўначы на маю душу,
бо тагды і мне больш не жыць.

## НАСТУПНІКУ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Яго вершы крывіцкія руны
прадказалі, і, быццам вякі,
з паўнаводнай прадоннай ракі
выплываюць паэты ў трунах,
а ў галовах скрозь чорныя дошкі,
церні німбамі прараслі —
значыць, Бог не пайшоў упрочкі
з Белай
крэўнай
яго Русі.

Бог жыве!
Адраджэння прагнуць,
хто пакінуў заўчасна свет,
ад пакутаў нябёсы смягнуць —
гэта знак, што ідзе Паэт.

І свіцяцца скрозь цемру руны,
Ён ідзе,
пакуль вы спіцё,
і на спадчынных гуслях струны
чуюць сэрца Яго біццё.

* * *

Лёс шляхі выбірае,
беражэ ці карае
і на ростанях вабіць,
асабліва жанчын.
Якой хочацца пекла?
Кожнай хочацца раю,
і жанчыны, як пчолы,
ляцяць на язмін,
а язмін адцвітае,
і чарнеюць галіны,
і цяжарныя мараць
аб плоці жывой,
не да плода — да камня
прырасла пупавіна,
дух хаваецца ў целе,
як вечны ізгой.

## ДЗІКІ МЁД

У вайну ў партызанскі год
пад крысом шыняля армейскага
бацька з лесу прынёс дзікі мёд,
ледзь уцёк ад мядзведзя расейскага.

З таго часу, як лесам іду,
дык пільнуюся вока зладзейскага,
скурай чую бяду, як ваду,
за спіною — мядзведзя расейскага.

Дасюль пахне яму дзікі мёд.

Годзь гарэшнікі нашыя лушчыць!

Адкапаю пайду кулямёт,
каб хадзіць смела ў бацькавай пушчы.

* * *

А я помню, як мяне хрысцілі,
як па снезе санкі галасілі,
як папа у госці запрасілі,
пілі-елі, потым елі-пілі,
пра мяне прыгожа гаманілі,
хроснага і хросную спаілі,
адхадную бацюшку налілі,
пад дубовай лавай крыж згубілі,
ні мяне, ні крыжа не знайшлі
і шукаць у белы свет пайшлі.

Бацюшка ў царкве,
а маці ў полі,
тата на Дняпры голас сарваў,
а я ў роднай хаце ціха доле
з крыжам, быццам з цацкаю, гуляў.

* * *

Загубіла мне паэзія жыццё —
палюбіла!
За распусту ды за хмель
моцна біла.

Калі б іншага жана
катавала,
дык, зладзейка, сваю б смерць
прычакала.

Я ж яе, маю жану дарагую,
так люблю,
што па жыцці
ўсё дарую.

Бо не толькі батагом...
мая Міла,
а й за вернасць — мне чалом
яна біла.

Толькі што гэта кажу
ўсё ў мінулым?
Як жыццё, люблю цябе,
як загулы,

што аж брыдка ад любові
гэтай,
і табою, і віном
сагрэтай.

## ЦНАТЛІВЫ КНЯЗЬ

Цнатлівы князь Беларушчыны
па боскай міласці з нябёс —
князь! — з раю ў пекла быў адпушчаны,
які там князь? — жабрак апушчаны,
з'явіўся з раю...
Вянок прынёс —
з валошак сініх —
на магілу
самазабойцы,
гэта ж грэх —
збіраць па крошках жыцця сілу
і... раскалоць, нібы гарэх.

І Ён быў князь, яго хавалі
галодным. Хоць бы хто паклаў
скарынку хлеба. Не паклалі
у дамавіну. Закапалі,
а ты вянок яму паклаў.

Нібы ў ладдзі, — у дамавіне
твой любы Палуян паплыў,
па моры-акіяне сінім
павандраваў — такім і быў.

Туга на сэрцы. Будзе восень.
Валошкі ў жыце ўсё зырчэй.
Зярняты падаюць з калосся,
а слёзы крапаюць з вачэй.

Заплакаў князь, жабрак заплакаў.
Не плач. Бяздзетны і Хрыстос.
Паэзія — сам выбраў — плаха,
а ката з мечам выбраў лёс.

Спяшай! Пакуль твой кат на пласе
пляце удаўку з васількоў.
Паэзія цябе не адраклася.
Ёсць час!
Гарлянкай з ёю хлыне твая кроў,
Цнатлівы Князь Прыўкраснай Беларусі.
.............................................................................
Ужо вятры лагодней сталі дзьмуць.
Вясна на носе. З цёплай Ялты гусі
твой светлы дух на крыллях прынясуць.

* * *

*Ахвярую*
*Анатолю Вярцінскаму*

Тры мазалі ў мяне. Бог тройцу любіць:
на языку, на сэрцы, на руцэ.
Было: тапіўся ў моры і ў рацэ,
але, відаць, язык мяне загубіць.

Віры ў рацэ, а ў моры топяць хвалі —
салёная ці прэсная вада...
Віры і хвалі смелых пакахалі.
Навошта ім паэтава нуда...

Язык — мой вораг. Мову любіць моцна,
аб гальку гукаў, слоў нацёр мазоль.
«Ціпун табе...» —
матуліна прароцтва —
за песні пра бяду, жуду, пра боль.

Як паміж морам і ракой на шчасце,
паміж двух Анатоляў, мама, сядзь.
Вялікі дзякуй,
што вучыла нас не ўкрасці,
па радасці чужой не сумаваць.

Што да бяды, жуды, нуды,
дык — гэта ў вершах.
Хаця… ў паэзіі у кожнага свой слуп.
Я ўсім кажу, што я паэт найпершы,
калі ж папраўдзе: першы жыццялюб!

* * *

Закалышы дзіця маімі вершамі,
самымі апошнімі і самымі першымі,
але самымі добрымі і самымі лепшымі,
закалышы дзіця маімі вершамі.

## ПАЭТ

Паэт — боская птушка,
яго нельга чапаць,
трэба Хрыста чакаць,
трэба Хрысту ногі цалаваць,
вачыма неба араць,
з любай, як з маці, спаць,
калі слёзы ёсць —
жабраку даць, —
вось якая паэт боская птушка,
як пад галавой нябожчыка падушка,
вось якая паэт птушка боская,
як свечка, як з воску я.
Я? я, я, я! —
боская птушка,
мяне нельга чапаць,
мне трэба Хрыста чакаць,
Хрысту ногі цалаваць,
вачыма неба араць,
з маці, як з любай, спаць,
калі слёзы ёсць — жабраку даць,
вось якая паэт боская птушка,
як пад галавой нябожчыка падушка,
вось якая паэт птушка боская,
як свечка, як з воску я.
Я? я, я, я!

## МАЯ ХАТА БЕЗ СЯБРОЎ — НЕ ХАТА

Мая хата без сяброў — не хата,
хоць ты вый ці з вуснаў пусці кроў,
мо паэзія ў самоце вінавата,
што мяне раўнуе да сяброў?

А хоць з птушкай памаўчаць бяссоннай,
ды хоць старац да мяне б забрыў,
не хапае вашых галасоў мне,
вашых рук і вашых воч, сябры.

Мая хата — гэта ваша хата,
асвяцілі мы яе слязьмі,
бо паэзія у гэтым вінавата,
так што ні пры чым зялёны змій.

Вось віно, няхай стаіць, хоць скісне,
дакрануся да яго тагды,
калі рак на Лысай Гары свісне,
няхай кісне, мне такой бяды.

Дзе ж вы, мае родныя паэты?
Дзе ж вы, мае гора-чытачы?
Хоць ты свае бедныя санеты
нямым зоркам у вакно крычы.

## ПЕСНЯ ПРА КАХАННЕ

Не баюся я смерці,
бо хачу вельмі жыць,
няма сілы памерці,
няма моцы зграшыць.

Ёсць любоў — маё цела,
ёсць каханне — душа,
яна ў рай паляцела,
я яе не змушаў.

Мілы Божа, каханы,
як пражыць без пакут?
Не хачу смерці мамы,
з кім тагды буду тут?

З тваім, Божа, каханнем?
Без жанчыны? З табой?
З беларускім паданнем?
З хлебам? З соллю? З вадой?

Бачыш сам: пусты ложак.
Надакучыла мне
спаць з Табой, любы Божа,
у мане, у віне.

Цалаваць Тваe раны,
цалаваць Тваю плоць,
быць паэтам абраным,
жвір у вершах малоць.

Быць мужчынам абраным,
скажы, суджана мне?
Ці на ложку каляным
жыццё марна міне?

Даруй, любы мой Божа,
што вярэджу душу,
што абраў бездарожжа,
як грашу, так пішу.

А папраўдзе: як дзеці,
мае вершы растуць,
няма сілы памерці,
бо яны не даюць,

таму нам не каляны
ложак шлюбны — як пух!
Мой Мужчына каханы,
Айцец, Сын, Святы Дух!

## КАЛІ ЛЮБЛЮ

Калі люблю — я веру і мане,
сказаць па праўдзе:
я займаўся сам падманам.
Маё каханне ўжо не радуе мяне,
нарэшце я хачу таксама быць каханым,

бо засталося дзевяць вершаў мне пражыць
у анталогіі тутэйшых любадзеяў,
каб ведаў: калі сэрца затрымціць,
хто побач, для чаго і дзе я,

няўжо таксама ў небе ёсць жыццё,
каханне ёсць, світанкі і прадвесні?
Мо не дажыў да ісціны? Асцём —
жыццё на небе ў горле маёй песні.

Калі люблю — я веру і мане:
ёсць на нябёсах песні і прадвесні!
Няхай анёл крылом мяне кране,
калі выносіць будуць з гэтых весніц.

А хто не верыць, ведайце: Багрым
пачаў з кажáна, скончыў жаўрукамі.
Мы нават і ў нябёсах не згарым,
Птушыны Шлях намацаем нагамі!

* * *

Паэтам можаш ты не быць,
а беларусам абавязаны,
расейцаў можаш не любіць,
а можаш быць у іх за блазана.

Калі ж паэтам хочаш быць,
у скронь пацалаваным
духам,
дык, Божа, збаў цябе
забыць,
чыя ў вачах Купалы скруха.

* * *

На твары шчацінне, як пожня жытнёвая,
вочы — праталіны мутнай вады...
— Мілы сынок мой, пачні жыццё новае,
грэх блазнаваць у Хрыстовы гады.

— Мама, я рады б —
як пчолы на ліпень,
музы лятуць на хмяльнога мяне.
Жыць без паэзіі? Гэта ж пагібель!
Жыць без віна? Гэта ж смерць удвайне.

Хто ж вінаваты, што аж з нараджэння
з мёдам смакчу я з цябе малако?
Ведаю, сохне паціху карэнне,
хоць і жывеш над Вялікай Ракой.

Ну і няхай музам колкая пожня,
горкія вусны мае, дык няхай.
Мама, такога народзіць не кожная,
мама,
не перажывай!

## ЁСЦЬ ДЗІЦЯТКА

*Ахвярую Ганне Канапельцы*

Ёсць дзіцятка, прыйдзе ў хату, скажа: Толік...
і так гляне — на сон можна не чытаць
Беларускі Праваслаўны Малітоўнік —
у нябесным царстве так не спяць!

Слава Табе, слава Табе, Божа!
За Твой райскі сон дзень пражыву
плённа, мірна, весела, прыгожа —
што пасею, тое і пажну!

Ёсць каханка, прыйдзе ў хату, скажа: Толік,
мо табе не трэба? Падары
Беларускі Праваслаўны Малітоўнік,
бессань мяне мучыць на зары.

Падару сяброўцы Малітоўнік,
яна пойдзе, ночка стане зноў
колкаю і мулкай, як цярноўнік,
боскаю малітвай за любоў.

Слава Табе, слава Табе, Божа!
За бяссонне райскае Тваё
пражыву і гэты дзень прыгожа,
як ніхто і ў ніякіх краёх.

* * *

Памрэш сыты ці галодны,
а якая розніца.
Попел цёплы. Прах халодны —
што з яго народзіцца?

Але я вось нарадзіўся,
маці кажа: з прысаку.
Быццам Бог перахрысціўся
за зямную іскарку.

Дзякуй маці! Дзякуй Бога!
Дзякуй, свет дзівосны!
Дзякуй, хросная — дарога!
Дзякуй, посах — хросны!

* * *

*Р. Б., Л. Г.*

Не існуе распусных кветак,
магу паклясціся чалом.
Люблю падвыпітых паэтак,
яны, бы ў ложку — за сталом.

Віно сам Бог ім з вуснаў дорыць,
з нябёсаў цудны гэты свет!
А Вас нішчымным вершам морыць,
бо без віна — Вы не паэт.

## БУДЗЬМА!

*Ахвярую Галіне Булыцы*
*і Паўлу Гірныку*

Мы не будзем дзяліць мяжы,
і таму хай слупы памежныя
нас ахоўваюць, як крыжы
косці тленныя, душы грэшныя.

Мы не будзем дажджы дзяліць
і масты залатых вясёлак,
бо смяротнаму не перажыць
нават самы кароткі золак.

Мы не будзем дзяліць туман,
нам з яго па адным не выйсці.
Пясняр, Лірнік, Кабзар, Баян —
пупавіны не перагрызці.

Мы не будзем дзяліць палын,
і за долю, як за дзяўчыну,
нам не трэба чужы калым
і жаніх з касымі вачыма.

Мы не будзем дзяліць любоў,
калі ж будзем, дык толькі гора,
яно здарыцца можа, бо
вакол нас і садом, і гамора.

* * *

Надта хочацца ў вырай.
Мая белая лебедзь,
а ці хочаце Вы ў рай?
Мне хацелася б ведаць,
мне хацелася б ведаць,
мне хацелася б верыць,
што Вы хочаце ў вырай,
мая мілая лебедзь.

Хутка восеньскі вецер
прынясе павуціну,
сумны восеньскі вечар
прыйдзе ў Вашу хаціну,
а пад раніцу шэрань —
і не ўбачыць прасвету,
у нябёсах у шэрых
я растану без следу.

Надта хочацца ў вырай,
мая сумная лебедзь,
ляцім! З мірам, як з лірай,
чарада нас прывеціць,

чарада нас прывеціць,
чарада нас прыкмеціць,
мая белая лебедзь,
мая мілая лебедзь.

## СЭРЦА

1

Мне на сэрцы золатам
выпшывалі краты[1],
кроў балюча крапала на маю душу
з голкі дыяментавай аж у тры караты —
вось якое дзіва я ў грудзёх нашу.

А бывае, падаю з усяго размаху,
дык на сэрцы золатам
шэсць крыжоў звіняць
аб зямельку родную, быццам меч аб плаху, —
ні віном, ні лекамі боль той не суняць.

Дзе ўпаду, каб ведаў я,
дык падклаў падушку,
але ж вочы-зоркі сочаць, на бяду,
мабыць, цяжар кратаў
датуль насіць мушу,
пакуль ў магілу-матку не ўпаду.

[1] Радок з верша А. Філіповіча.

Мне на сэрцы золатам
лёс мой вышывалі,
нітак не хапіла на апошні прэнт,
а калі паўмёртвага мяне пакідалі,
уваткнулі ў сэрца голку-дыямент.

Можа, каму трэба залатая нітка,
голка з дыяменту, я вас папрашу,
калі вам няцяжка, калі вам нябрыдка, —
выратуйце сэрца, вызвальце душу!

Гэта ж вельмі проста:
нітку — у клубочак,
голку — у скарбонку,
што ў крыві — дарма,
без віны ды боязі спіце сабе ўночы,
ну а вашым ворагам сніцца хай турма.

З матамі, вар'ятамі,
з сабакамі іклатымі,
ды пад аўтаматамі
з залатымі кратамі
будзе
хай
яна!

2

О, каб сэрца жураўлінае[1]
вашым ворагам даў Бог,
немаўлячае, нявіннае,
каб ад бедаў іх бярог!

Я прагледзеў бы ўсе вочы,
я б сачыў Птушыны Шлях,
ў кожнай зорцы-патарочы
пазнаваў бы жураўля,

маё б сэрца разам білася
з жураўліным праз сто слот,
сто разоў крывёй аблілася б,
каб адолець сто нягод,

наказаў бы братам, сёстрам:
як, знясілены, засну,
вырай каб вялі
па вёрстах
на маю вясну-красну,
па дыханні майго сэрца,
па сцяжынках маіх слёз
з воч, адтаялых азерцаў,
поўных раем да нябёс,

наказаў бы бацьку, маці:
вунь сыходзіць снег з палёў,
каб прыбралі чыста ў хаце,
як пачуюць жураўлёў,

наказаў бы любай жонцы:
як, знясілены, спачну,
каб па жураўліным сонцы
навучыла жыць дачку,
каб па жураўлінай поўні
навучыла сына жыць,
каб дамоў дарогу помніў,
праз клады яна ляжыць,

на кладах магіла таты,
ён калісьці напісаў
верш пра залатыя краты —
на касца найшла каса.

Шануй сэрца жураўлінае,
ідзі босы, як ты ёсць,
чыстай паднябеснай глінаю,
і даруе Ягамосць.

О, каб сэрца жураўлінае…

«У гэтай краіне
не маю я волі...»
Чытае Анатоль Сыс.
Дом літаратара, 1988 г.
Фота А. Клешчука.



Сябры Таварыства
маладых літаратараў
«Тутэйшыя».
Справа налева:
Сяргей Кавалёў,
Вольга Куртаніч,
Андрэй Федарэнка,
Эдуард Акулін,
Анатоль Сыс,
Міхась Скобла.
Іслач, 1989 г.





Удзельнікі семінара маладых літаратараў у Іслачы. Анатоль Сыс – у першым шэрагу крайні справа. 1989 г.

«Столькі самоты
ў яго паглядзе...».
Фота А. Клешчука.
1990 г.



Каля роднай хаты.
Анатоль Сыс, сястра
Тамара, брат Віктар,
маці Марыя Іванаўна,
сястра швагра Людміла.
Гарошкаў, 1999 г.



Каля помніка
Янку Купалу.
Менск, 2000 г.



На менскай вуліцы.
1999 г.

Анатоль любіў дзяцей. Гарошкаў, 1999 г.



З маці ў роднай хаце. 2001 г.

З братам Віктарам і пляменніцай Таццянай. Фота Л. Раманавай.



Анатоль Сыс і Міхась Скобла ў рэдакцыі часопіса «Роднае слова». 1998 г. Фота А. Каляды.

* * *

*Нябожу Сысу Уладзіміру*

Калі краты распілаваць,
атрымаецца шэсць крыжоў.
Калі шэсць начэй не спаць,
а бадзяцца адно з нажом,

рукі выберуць крыж — не нож,
і таму ты не паўтары
святатацтваў маіх, нябож,
каб не каяцца на алтары,

а цяпер ты яшчэ дзіця,
і, як ластаўчына гняздо,
на куце астые куццЯ —
да дзядоў я ўжо не яздок,

шэсць крыжоў на грудзёх звіняць,
як вярыгі ці кайданы, —
лепей краты не пілаваць,
прыраслі да вантроб яны.

## ПАСТУХІ

Пан Бог злосны, тапоршчыць вусы,
штось няладнае ў яго панстве:
ах, нябесныя каласы
долу хіляцца, бы ў паганстве,

а ў самога у барадзе —
не заснуць, так свярбяць зярняты
(дзень іх росціць, а ноч крадзе),
не Пан Бог, а мужык заўзяты.

Ах, рунее як барада!
Во, каб бачыў люд паспаліты!
Што за луг там, за гавяда!
Як звініць залатое жыта!

Там сядзіць на мяжы Пастух,
рыскі рэжа на пугавішчы,
выдае у ім кожны рух
дзеда Пастыра з пінскай Лышчы.

Але смешна так — дзед пасе
адным вокам сваіх рагатак,
а другім, у слязе-расе,
Пана Бога нябесны статак.

Так цікуюць адзін за адным,
адзін з неба, другі з зямелькі
і па буднях, і па выхадных —
Пан Бог з жыта, а дзед з канапелькі.

«Да другога прышэсця ёсць
зіма, лета, вясна і восень,
паміраць неахвота штосьць,
а як прывіднае там калоссе?» —
сам сабе кажа мудра дзед,
яму думаць так ёсць прычына,
бо ў ягонае барадзе
зімаваць будзе рой пчаліны.

* * *

Як расу баравіковую
за спакутаваную душу,
слёзы плачу я ў восень новую,
сумна плачу, не галашу.

У раю ў мяне ёсць сяброўка,
дык і ёй там жыццё не мёд,
па Радзіме баліць галоўка,
бо ў раю тым чужы народ.

Ёсць і ў пекле ў мяне сяброўка,
яна ў пекла сама пайшла —
праз вакно.
Ні слязы, ні слоўка,
што жадала, мо там знайшла?

А ў нас, родныя, восень новая.
Зацяжарала на любоў
наша Раечка Баравіковая,
можа, Бог дасць Купалу зноў.

## ГЛІНА

*Дзякуй, Алесь, што ты ёсць.*

Як іду, дык вянец мае скроні
балюча шкрабе,
а душа ўся ў балячках,
бы вопратка сейбіта ў зернях.
Я памру, землякі, а легенду
пакіньце сабе,
а дакучлівых вошай шукайце
ў пакінутых цернях.

Ёсць прыгожыя словы.
Прыгожых паэтаў няма,
ды вы іх беражыце, як маці
апошняга сына,
але, зрэшты, што зробіш,
я ведаю — будзе вайна,
як адзін з вас сказаў пра жыццё:
усё гліна!

Па ёй птушка прайшла і закрэсліла
руны крылом,
пэўна, нехта шчаслівы з пацехі
параніў анёлка.

Ёсць паэтка у вас,
яе рукі зрасліся з кайлом,
о, як праўду яна вышывала
танюткаю голкай!

Ёсць агідныя словы.
Агідных паэтаў няма.
І таму, як памру, — закапайце
ў палескую гліну,
жыць хачу, землякі, і легенду
аддам задарма,
а за тое, што жыў, —
пасадзіце ў нагах арабіну.

## ПЕСНЯ ПРА СЫНА

Жыццё — камень на баране,
цягну і нешта сею,
а лёс папругай б'е мяне,
я ў полі і згібею.
Мой сын загінуў на вайне,
цягну і скруху сею,
ён згінуў па маёй віне.

Я ж ваяваць не ўмею —
адправіў сына за сябе
апошнім шляхам зрэбным,
а сам застаўся на сяўбе.
Каму мой хлеб патрэбны?

Яго ні людзі не ядуць,
ні коням на патраву,
за сына ўсё мяне клянуць,
што на вайну адправіў.

Жана ёсць. Музаю завуць,
з вайны нямая ходзіць,
і толькі тыя са мной п'юць,
хто сына не народзіць,

бо, кажуць, будзе зноў вайна,
таму сыны навошта,
маўляў, у Сціксе сатана
даўно сцягі палошча.

А Муза змрочная маўчыць,
а салаўі галосяць,
а пад паэта закасіць —
лягчэй чым сена косяць.
............................................................
Мой сын не згінуў на вайне,
шчаслівы той, хто шчыры:
хай Беларусь вайна міне.
За вас!
За сына!
З мірам!

* * *

Зашклёны дзень, як дом зашклёны —
дажджу самотнасць у вакне.
Я стогнам восеньскага грому
даю жыццё на палатне.

Мой гром распяты на маланках:
зліццё прыроды і душы.
Я ў дождж той восеньскі ажыў
і, здзёршы сонныя фіранкі,
акон зняможаных крыжы
на дзень той помны разлажыў.

*1981*

* * *

Восень —
калі лось скідае рогі,
калі рэкі суцішаюць бег,
калі пахнуць верасам дарогі,
калі сонца коціцца са стрэх.

Восень —
калі дождж сячэ туманы,
калі вочы хмарыць небасхіл,
калі сэрца гоіць свае раны,
каб паспець набрацца новых сіл.

*1981*

## ЯМБ ЛАЎРОВЫМ ВЯНКАМ

Лаўровыя вянкі нам не да твару,
мы не прывыклі лаўры пажынаць.
Хіба ў баршчы для лепшага навару,
каб потым ямбы моцныя пісаць.
Лаўровыя вянкі нам не кароны,
яны падушкі нашым чуйным снам,
што, як Дняпра рахманага паромы,
даюць утульнасьць дзюнным берагам.

*1981*

## МУЗЫКА

Гомель ноччу — пасека пад снегам...
Ты адзін не спіш, нібы пчаляр.
Гурбы намяло вышэй ад стрэхаў,
і заплакаў вусцішны раяль

аб каханні, што гарчэй ад мёду,
аб расстанні, што бліжэй за смерць.
Кружацца мяцеліцы мелодый,
клавішы кранаючы ледзь-ледзь.
..........................................................
Гарачы воск аплыў на нотны ліст,
даўно агонь ачахнуў у каміне.
Іграе на раялі Ферэнц Ліст
пра горад сонны ў белым серпанціне.

*1981*

## ГУСОЎСКІ ВЯРТАЕЦЦА НА РАДЗІМУ

Наросхрыст снегапады, як душы беларусаў,
у час аблаў супольных на нёманскіх зуброў.
Заснежаныя вёрсты сівыя коні лічаць —
яны радзіму помняць, яны імчаць дамоў.

Наросхрыст снегапады, як душы беларусаў.
Зіма — канец дарогі з акропаляў да стрэх,
дзе на сталах дубовых радняныя абрусы,
гукае родным — слова, зямля, дзявочы смех...

*1982*

* * *

Вайна —
гэта каскі іржавыя,
узарванае мінаю лета,
акопы, зарослыя травамі,
стогны бацькі ў сне — гэта
вайна.

*1982*

* * *

Прыгожыя людзі і спяць прыгожа.
На белых снягах радна
ты спіш у двухспальным ложку
і сённьня, і скрозь адна.

*1982*

## ЛІПА

Ліпа — белая мядуння —
як мадонна ля плятня!
Яна пчолам — цётка Дуня,
іх найпершая радня.

І калі адлюбіць ліпень
сонца з мёдам на губах, —
пчолы ў жніўеньскіх лугах
не памянуць ліхам ліпу.

*1983*

* * *

Адпачніце, птушкі, у лясах;
хутка вырай вам і павуцінне.
Лістапад вандруе па лясах,
як па стрэхах — па дрымучых спінах.

Адпачніце, птушкі на плячах,
на маіх плячах
перад дарогай...
Лістапад кастрамі не ачах,
мне за вас — шчымлівая трывога.

*1983*

## РУЧАІ НЯХАЙ МЫЮЦЬ ЗОЛАТА

*Сябрам-аднакашнікам*
*Алесю Бяляцкаму і Едрусю Акуліну*

Ручаі
няхай мыюць золата,
а ракавінам скамянелым —
няхай самы бясцэнны жэмчуг.

Калі ж я, нібыта апошні з магіканаў,
буду брысці да Радзімы знябытай,
то не выберу дарогу паўз рэкі
сцюдзёныя,
каб смага не мучыла,
і не выберу дарогу паўз чужыя палі
жытнія,

каб з голаду не памерці,
а пайду наўпрасткі —
пустыняй.
Ручаі кіну тыя з золатам,
кіну ракавіны жамчужныя —
застануся з бацькоўскай моваю.

Толькі вер, што дайду,
Радзіма!

*1983*

## БАЛАДА СІВОГА БУСЛА

У пахаванках і галашэннях
Радзімай і маці апетыя,
салдаты, бы з мёрзлай зямлі насенне,
вярталіся з таго свету.

Ці быў то гарачы грузінскі вечар,
ці наш — з вуркатлівым громам,
дарогай з вайны — вечным Шляхам Млечным —
салдаты ішлі дадому.

Далоні смылелі ад прыкрых мыліц,
натужна рыпелі пратэзы,
а маці чакала — кашулю мыла,
а бацька — на трох хлеб рэзаў.

За ціхай вячэрай, за белым абрусам
слязой частавалі сына.
Сеў на страху пасівелы бусел —
нанова спраўляць радзіны.

*1984*

* * *

Кажуць мне: не жыві ілюзіяй,
мёртвай хваткай жыццё трымай.
Але жыць так жадаю, людзі, я,
як пад небам расце трава.

Так, я чуў, як шапталі ў спіну,
што наіўны з мяне паэт,
што ў жыцці я і ў вершах дзіўны,
бачу толькі ружовым свет.

Папракаюць мяне за дзівоцтвы,
але нават і ў гэты век,
калі шчыры ты — значыць, моцны,
як паэт і як чалавек.

*1984*

## КАХАННЕ, ВЫБЕРЫ МЯНЕ

I

Святлейце, думы і надзеі,
злыбеды прыйдуць і сплывуць,
сваім абраннікам
нядзелі
і вас аднойчы назавуць.
Калі не верылі — паверце,
што ёсць каханне,
прыйдзе час —
як звон, заб'ецца Ваша сэрца,
каханне выбера і Вас.

II

Каханне, выберы мяне!
І нат тады не адвярніся,
калі мой сум закамянеў
у кожным слове, кожнай рысе.
Каханне, падбяры мяне!
Калі смяротна буду ранен,
ты, як сястрыца на вайне,
слязой загоіш мае раны.

Каханне, не пакінь мяне
ні днём, ні вечарам, ні раннем.
Хто ж скажа: «Ісціна ў віне!», —
не верце.
Ісціна ў каханні!

*1986*

## НА КУПАЛАЎ ФЭСТ

Ні адно жыццё не паўторыцца,
не паўторыцца і маё,
дзень апошні мой, нібы горліцу,
ў небе высачыць груганнё.

Мае пёрачкі забярэ сусвет,
маё сэрцайка прыгарне зямля,
на Купалаў фэст ўзыйдзе верас-квет,
гэтым верасам буду я.

І паўторыцца ўсё, паўторыцца,
буду ткаць, як і ткаў, абрус
з апантанай крывіцкай конніцай,
з любым выракам: Беларусь.

* * *

У матулі маёй вочы выцвілі,
слёзы сталі нішчымней вады,
косы зблытаны павуцінкамі,
нібы ў бабіна лета сады.

У матулі маёй дзве дачкі, два сыны,
за наш сон у яе трывога,
яна сочыць па сённяшні дзень з вайны
праз слязу, як праз дождж, дарогу.

У матулі маёй песні сумныя,
хоць усякім жыццё было,
але сонейка-думу думала
у Бацькоўшчыны пад крылом.

У матулі маёй сэрца шчодрае.
Нас аперыла. Пажыві ж
хоць дзянёк для сябе, наша родная,
наша светлая, пажыві.

## ПЛАКАЛА ЖАНЧЫНА

Канец жыцця не так трагічны,
як канец кахання.

*Частэртон*

Жанчына плакала тры ночы,
жанчына плакала тры дні,
і бога пілі яе вочы,
як раб — ваду, кроў — авадні,

жанчына плакала на золку,
жанчына плакала ў сутонь,
і слёзы выплакала... зоркі
цяпер пяклі яе далонь,

жанчына плакала ў трамваі,
жанчына плакала і ў сне,
і вочы скрухаю палалі,
як макі чорныя ў вакне,

жанчына плакала і ў спёку,
жанчына плакала і ў дождж,
і ад сябе самой
далёка
хавала самы гостры нож.

* * *

Я дару мітусні, небыццю і бясчассю
усе вершы, што мог напісаць,
я дару іх віну ды падманнаму шчасцю —
іх нябесныя вобразы абразамі гараць.

Толькі словаў святых
не святыя не скажуць ніколі.
З маёй смерцю згараць
нецалованыя абразы,
і скрозь сон я пачую:
пражыў чалавеча без солі...
І скрозь смерць я вам выцісну
з воч дзве салёных слязы.

## ЖЫЦЦЁ

А мне не трэба шлях, дзе скрозь падковы.
І ў светлы дзень я словы прыгублю,
і ў злыбяду суцешуся высновай:
«Жыццё — бівак.
Ды я яго люблю».

Мяняў я коней, стомленых дарогай,
каханне прыгажунь жыватварыў,
я верыў ім, я верыў ім, як Богу,
і быццам чорту, я не верыў ім.

Быў я ў сябрах, як брыганціна ў чайках,
калі ж у іх скончаліся хлеб-соль —
сваю салдацкую дзяліў між імі пайку,
закон такі — пароўні хлеб і соль.

І мне не трэба шлях, дзе скрозь падковы.
І ў светлы дзень я словы прыгублю,
і ў злыбяду суцешуся высновай:
жыццё — бівак.
Ды я яго люблю!

* * *

Я думаў, пра вайну пісаць не маю права —
мой белы конь не пасвіўся на мінным полі,
мой белы верш не захлынаўся барвай —
я думаў, пра вайну не напішу ніколі.

Ды выспеў дзень, калі асколкі, кулі
скрозь сэрцы дрэў маё дасталі сэрца,
скрозь душы дрэў маю душу кранулі,
нібы па мне прайшла
мяжа жыцця і смерці.

## ДУМКУ ДУМАЛА ПТУШКА ТРОХКРЫЛАЯ

*З народнага*

Думку думала птушка трохкрылая:
дзе мой воран аб крылах трох? —
і сачыла бяссонна вырaі,
бы нястомны птушыны волхв.

Тры вясны — тры ракі да мора.
Пасівела. Аднойчы ў ноч
прыляцеў...
аднакрылы воран.
Тры слязіны з пакорных воч.

* * *

Паэзія — як рэлігія,
паэт — яе вечны Бог,
але, быццам раб, вярыгамі
закуты з плячэй да ног.

## Я ПАПРАСІЎСЯ НАНАЧ, НЕЗНАЁМЫ

*З фальлорнага дзённіка*

Матрац набіты вераснёўскім сенам,
сухім і хрумсткім, як калядны снег.
Драўляны ложак — можа, даваенны —
утульным скрыпам прывясціў мяне.
Я папрасіўся нанач, незнаёмы:
цяпер — студэнт, калісь — касец, пастух,
і хоць адзеў у джынсы мяне Гомель, —
прызналі: свой, сялянскі — за вярсту.
Паілі потым пахкім сырадоем,
настоеным на ліпеньскіх лугах.
І покуль захад дымна не ачах,
я канапасаў слухаў за ракою.
А ноччу зноў мне сніліся паданні,
о, сны мае — Дняпра сівога сплаў.
Па месяцы, як па дарозе саннай,
я кветку шчасця —
папараць шукаў.

* * *

Атуляю даланёй, як свечку,
кволае цяпельца дзьмухаўца,
а ўгары грамы пагрозна крэкчуць,
гойсаюць вятрыскі без канца.

Міг і вечнасць. Дзьмухавец і вецер...
Ды што кветка — нават чалавек,
нібы промні сонца ў гэтым свеце,
нібы ў гэтым свеце хвалі рэк.

## ПОЎНЯ

Жыве над кронай дрэва поўня,
начуе ў кроне дрэва птах,
ўглядаюцца сляпыя корні
ў зямную існасць па начах:

вось птах сапе, як той дзіцёнак,
вось знічка цемру апякла —
нібы з рукі упаў пярсцёнак,
калі забылася рука.

Жыве над кронай дрэва поўня,
святлом уросшы у зямлю —
там, дзе яна пусціла корні,
і я зямную мудрасць п'ю.

## Я СЯБРОЎ ЧАСТАВАЎ СТОГАДОВЫМІ ВІНАМІ

Сто разоў па сябрах бедаваў я самотна,
дождж, як слёзы, сцякаў па расчыненых вокнах.

Я верлібры сябрам прысвячаў сторадковыя,
засяваў іх пяшчотай, нібы поле жытнёвае.

Я сяброў частаваў стогадовымі вінамі,
каб мяне ў злыбяду аднаго не пакінулі.

Ды аднойчы, калі іх прыход адзначалі,
было выпіта ўсё, і віна не падалі,

ды аднойчы, калі, нібы птушкі-калібры,
задрамалі ў палёце мае вершы-верлібры, —

я застаўся адзін. І са мной разам плакаў
мной забыты суздром,
мой любімы сабака.

* * *

Быць паэтам — і фарс, і драма,
жыць з ілюзіяй аб бяссмерці.
Зазірні ў мае вочы, мама,
бачыш,
там два маленькіх сэрцы.

Па іх білі, не раз плявалі,
а было, што чужыя вочы
у палон іх пажадна бралі
бляскам прывідным сярод ночы.

## [НАСЛЕДАВАННЕ N.]

Сям'я сышлася за сталом.
Свяціў над бацькавым чалом
лясны таемны пах жывіцы,
тулілася ад свечкі здань,
і з ручніка,
нібы з гнязда,
ляцелі на плячо сініцы.

А на бялюткае радно
зарой пралілася віно
пад словы тостаў небывалых,
ды ён, на жаль, прыйсці не змог
і сніў заснежаны аблог
ў чужых пясках, у цёмных скалах.

Знадворку галасы плылі
да вокнаў —
як тагды, калі
была матуля маладою...
Мо дваццаць год таму было! —
калі знянацку
на сяло
снягі упалі з калядою.

Лілася песня,
як рака,
завея ўпала з ручніка
ў пяскі,
аж кулі заблукалі!..
І выпіта святло да дна,
і бацька зноў наліў віна,
і рэшту выплюхнуў на скалы.

## ІМПРАВІЗАЦЫЯ

Шаблі ды стрэлы не перастрэлі
бо затупіліся
доўга вяртаўся з кім ні братаўся
ўсе адступіліся
ведаць не ведала спала не спала
вочы расплюшчыла
пташку свінцовую перахапіла
крэмень разлушчыла
з голаду-мору сцежку да двору
голасам вышыла
а з-пад карэння ведзьміна зелле
месяцам выжнула
чорт кучаравы дым вінаградны
мае дзе віцца
што ж яму ў поле — бела ды гола
воўкам дзівіцца
можа няшчасны можа шчаслівы
што ж яму хочацца
мабыць са снегам у рэчку падземную
ціха прасочыцца

* * *

Так жыццё бяздарна пралятае,
кроў цяжкая ў жылах, быццам ртуць.
Ласка каню грыву заплятае,
а мне косы вошы заплятуць.

* * *

Дзяўчына з вачыма колеру піва,
калі я ад смагі канаў,
цыцкай сваёю мяне адпаіла,
паслала пасцель,
перад гэтым памыла,
прылегла са мною,
цнатлівасць згубіла...
Я пальцам яе не кранаў.

* * *

Паэт, бы забойца, начамі не спіць:
а жонка сапраўдная чуе,
як кожная жылка у мужа трымціць.
Прывыкла. З паэтам начуе.

* * *

Я ведаю.
Я ў карты прагуляны
зайздроснымі паэтамі.
Малю,
калі заб'еце — не смакчыце з раны
барвовую паэзію маю.

## ДА ЖЭНІ ЯНІШЧЫЦ

Напішыце верш мне пра каханне
з таго свету, бо душа мая,
быццам ружа на магіле, вяне —
хоць дажджынку, толькі пра каханне
перадайце ў крылах жураўля.

Мабыць, не сапраўдны дар паэта,
калі ён не ўмее пакахаць,
і ў жыцці я, па усіх прыкметах,
хутка згіну, як на небе ветах;
хаця вам на гэта напляваць.

Вось такія вершы пра каханне,
быццам цень той, па зямлі хаджу,
каб знайсці ад немачы адхланне,
сам сабе шукаю даравання —
райскіх птушак на зары буджу!

* * *

*Ахвярую Міколу Цудзіку*

Ну, што ж, мастак, ты заслужыў
сваёй любоўю шчырай
з паэтам каб і піў, і жыў,
натхняў мяне у вырай,

а ў вырай я не палячу,
бо чарада не прыме,
таму што п'ю, нібы смакчу
каровінае вымя.

Сябрук мой, гэта пра цябе,
хоць ты ў бацькі гадзішся,
бы вошы, крошкі ў барадзе, —
касою пагаліся.

*1996*

## СТРАЦІМ-ЛЕБЕДЗЬ

*Маёй першай і апошняй любові —*
*Уладзіміру Някляеву*

Страцім-Лебедзь ляціць
у евангельскім небе Радзімы,
за ўсё трэба плаціць:
і за тое, што ты нелюдзімы,
і за тое, што ты
сам назваўся найлепшым паэтам,
балазе — не святым,
ну, дык дзякуй табе хоць за гэта,
мой каханы паэт,
самы шчыры і самы шчаслівы,
улюбёны у свет,
як жабрак, на людзей не зласлівы.
Бы дзіцятка свой сон,
ты ляпечаш наіўныя вершы,
ды яны мне, як звон
па вясне журавоў самых першых.
А ты, Страцім, адзін
у евангельскім небе Радзімы...
Ты ляці. Не глядзі,
ты ж прывык да азёр у ільдзінах.

* * *

Зорнай ноччу, хай вам верыцца-не верыцца,
паглядзіце ў мае вочы, я — маньяк,
бо наліла мне Вялікая Мядзведзіца
шчэ ў юнацтве сямізорачны каньяк.

За медзвядзянят сваіх Мядзведзіца
раздзярэ Стральцоў, Быкоў, Ільвоў —
так і я, вам верыцца-не верыцца,
раздзяру любога за любоў

да Радзімы, маці, да паэзіі.
За каханне ж птушку не крану —
яно сэрца мне шчэ не вярэдзіла,
з ім не клаўся ў ложак, бы ў труну.

А яго й няма. Шэкспір прыдумаў.
Не кахаю, значыць — не паэт?
Выбачайце, што вам вершык плюнуў.
Farewell! Ariveder! Привет!

## ВЕЧНЫ ЖЫД

«Где стол был яств, там гроб стоит».
Учора ціхенька, пад ранне
памёр паэт мой, Вечны Жыд.
Я не пайду на пахаванне.

І вы не ўздумайце над ім
казаць жалобныя прамовы,
бо і ў труне — ён пілігрым,
яму не трэба вашы словы.

Хто з вас не прытуліў Хрыста?
А потым па зямлі бадзяўся,
шукаў яго — паэтам стаў,
прылюдна ў подласці прызнаўся.

Таму не ўздумайце па ім
гуляць казённыя памінкі,
ён — Вечны Жыд! Ерусалім!
На ім біблейскія пясчынкі.

*1997*

* * *

Адпусціце мяне, Курапаты,
нават з куляю ў галаве,
да дзяцей, да жаны, да хаты.
Як там бацькаўшчына жыве?

Як там сад мой? Абрыдлі сосны,
нават камень не ўлежыць ніц.
Я вярнуся, такі ўжо лёс мой —
плакаць жвірам з пустых вачніц.

Адпусціце мяне да хаты.
Як жа так — прапусціць сяўбу?
Я ж да смертухны быў аратым,
я ж прашуся не на гульбу.

А ў залог вам пакіну кулю,
і — дадому, у Журавы!
Зайду ў двор, абдыму матулю,
пацалую, нібы жывы.

*1998*

* * *

*Ахвярую М. К.*

Хрысціянскае сэрца Беларусі баліць
за лядачае сэрца нябогі Міколы.
Ён мой госць нечаканы.
Здарожыўся, спіць,
як дзіця дарагое,
як месячык кволы.

Я яму прачытаў,
быццам казку, свой верш,
нат Купала яго уважаў
самым лепшым.
Ох, Мікола, Мікола...
А калі ты памрэш,
хто ж мяне па начох
прысынаць будзе вершам?

*1998*

## ПЧАЛІНАЯ МАТКА

Начаваў я ў вуллі
пад крылом у пчалінае маткі,
пчолы казкі гулі,
трутні ноч
казыталі мне пяткі,

а пад раніцу твар
спаласнуўшы пчаліным гавенцам,
дзе мядовы алтар,
перад маткаю стаў на каленцы,

каб дазволіла мне
пад крылом да вясны зімаваці.
Маці ўмёрла ў мяне,
хоць на зімку пабудзь маёй маці.

*2003, Гарошкаў*

## ЭПІТАФІЯ СЯБРУКУ ВАЛОДЗЮ ЦЫБУЛЬСКАМУ

Я чую з неба сум ваш на зямлі,
вы не судзіце свайго сына строга,
мяне анёлы за руку ўзялі
і, як дзіця, вядуць да Пана Бога.

Таму па мне не плачце, мама, многа,
Бо да Хрыста, нібы дамоў, дарога...

* * *

Шрыфтам Брайля на калядным снезе
птушкі вершы пішуць.
А чытаю — рукі змерзлі.
Свае руны мне не вышыць.
Я аслепнуў.
Я аглухнуў.
Птушак не здагнаў — спяшаю,
а вясновы снег пажухнуў.
Часу — тры сняжынкі маю.
А памру — паэт мо прыйдзе,
разгадае сляды птушак.
Ох, ты лёс мой!
Ох, ты злыдзень!
Дзе салома, дзе падушка?
Падаў з печы! Падаў з неба!
Не падклаў мне Бог саломы,
паддурыў скарынкай хлеба
ды баршчом, ад слёз салоным.
Падаў з печы! Падаў з неба!
Бог пусціў мяне па свеце,
торбу даў,
бы горб за плечы.
Так я кану ў сівай Леце,
а сканаю — паэт прыйдзе...

*2005*

## ДНІ ЛЯТУЦЬ...

Аднаму з самых старэйшых сведкаў і актыўных удзельнікаў вызваленчага руху заходнебеларускай «Грамады», мастаку, паэту-песенніку Сяргею Новіку-Пеюну нядаўна споўнілася 80 гадоў. Усё падваконне яго маленькага пакоя застаўлена кветкамі, так што ледзь знайшлося месца нашаму сціпламу талакоўскаму букету бела-чырвоных гладыёлусаў. Красачкі, як пяшчотна іх называе Сяргей Міхайлавіч, яшчэ не паспелі звянуць, і ў сэрцы юбіляра яшчэ жывуць шчырыя віншаванні і пажаданні блізкіх сяброў і зусім незнаёмых людзей. А вось гэтае віншаванне, адно з самых дарагіх — ад Максіма Танка: «Дарагі Сяргей Міхайлавіч! Ад усёй душы віншую Вас са слаўным 60-годдзем. Прыміце самыя сардэчныя пажаданні добрага здароўя, шчасця, поспехаў у творчай працы на радасць Вашых шматлікіх сяброў і чытачоў. На Вашых вачах пачынаўся наш XX век, які Вы сустрэлі з песняй. Будзем спадзявацца, што з песняй, якая ўслаўляе нашу цудоўную Радзіму, сустрэнеце Вы і новы — XXI век. Моцна абдымаю. З любоўю і нарачанскім прывітаннем — Максім Танк. Нарач. 21.VIII. 1986 г.».

Тое, што Сяргей Міхайлавіч сустракаў XX стагоддзе з песняй — зусім не інерцыя паэтычнага мыслення віншаваўцы. Сапраўды, знакамітая, народная — і гэта не перабольшванне — песня «Зорачкі» была самай першай у 60-гадовай паэтычна-песеннай творчасці Новіка-Пеюна.

Гадоў колькі назад, яшчэ будучы студэнтам, я напаткаў яе пад назвай «На чужыне» ў часопісе «Беларусь» за 1946 год з адзнакай: «Песня беларускіх нявольнікаў, прынесеная з нямецкай катаргі. Запісаў Рыгор Шырма ў 1944 г.». Па шматлікіх прычынах аўтара вершаў гэтай песні Рыгор Шырма назваць не мог, але тое, што ў яе ёсць аўтар, дадам — таленавіты аўтар, было відавочным ужо тады. І, уяўляючы сабе яго далейшы лёс у фашысцкай няволі, я са скрухай пашкадаваў, што з-за крыважэрніцы-вайны не адбыўся, згінуў яшчэ адзін Паэт. Але, у рэшце рэшт, пагодзімся з тым, што слова, сапраўднае слова, тым больш, калі яно падхоплена народам, жыве незалежна ад яго творцы. У яго (слова) ёсць пачатак, але няма канца, у яго ёсць пэўны час нараджэння, але няма смерці. Само слова становіцца часам, якім вымяраем усе каштоўнасці гэтага свету, калі скарыстаць навуку — гэта закон дыялектыкі. Аднак у прыродзе ёсць яшчэ і свае непадуладныя пэўнаму асэнсаванню і азначэнню законы, на першы погляд абстрактныя і хісткія, але яны жывуць яшчэ з пракаветнага ўсведамлення розуму розумам і яшчэ далей — першабытнага — душы душой.

Дабро заўсёды перамагае зло — вось адвечная ісціна, праўдзівасць якой кожнае пакаленне выпрабоўвае на сабе. Справядлівасць — адзін з твараў ісціны. Рана ці позна, якія б моцныя і жорсткія асобы не хавалі яе ад людскога вока, якія б абставіны не скажалі яе твару — справядлівасць пераможа. У жыцці Сяргея Новіка Пеюна гэта адбылося пазнавата, але адбылося. Прыйшоў час, і ён зноў набыў права, не прыглушаючы голасу, сваімі песнямі весці сумоўе з народам.

У 1984 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга выбранага — «Заўсёды з песняй». Памятаю, як я ўзрадаваўся і расхваляваўся, калі ў самым першым вершы пазнаў шырмаўскую «народную песню беларускіх нявольнікаў».

...І вось я са сваімі сябрамі ў гасцях у Сяргея Міхайлавіча. І, вядома, першае наша пытанне пра лёс «Зорачак».

— Ведаеце, я нарадзіўся пад музыку. Маці казала — якраз у храме званілі званы, — з гумарам пачынае свой роспавед Сяргей Міхейлавіч, хаця вясёлага ў яго жыцці было мала. Хіба што юнаком ён сапраўды адчуваў сябе шчаслівым, калі ў сваіх родных Лявонавічах, што на Нясвіжчыне, стварыў хор. Народным па сваёй сутнасці, дзякуючы перакананням свайго кіраўніка, ён стаў адразу і па сённяшні дзень нясе гэтае ганаровае званне. Але шчасце працягвалася нядоўга. 1 верасня 1926 года за беларуска-рэвалюцыйны рэпертуар хору і за асабістыя дамаганні адкрыцця беларускай школы Пеюна (так называлі яго ў народзе, а Шырма пры сустрэчах называў Пеюнком) панская ўлада адпраўляе ў першае выгнанне на польскае Памор'е ў гарадок Свеце над Віслай.

Да гэтага часу ў Сяргея была ўжо неблагая музычная падрыхтоўка, якую ён атрымаў у Кацярыны Плішка-Банасевіч, прафесара Віленскай кансерваторыі, а майстэрству скрыпача навучыўся ў Тадэвуша Тадроўскага, таксама віленчука, выкладчыка музыкі. Таму і ў высылцы з'явіліся сябры, з якімі яго паяднала любоў да музыкі, і дзякуючы менавіта ім з'явіліся «Зорачкі».

— Ішоў 1929 год, трэці год маёй высылкі. Шпацыравалі мы аднойчы па Свеце над Віслай. Мы — гэта я, паляк Фелікс Балінскі, сам скрыпач, і ўкраінка Галя Парадкіўна, піяністка. Яны былі закаханыя, таму, вядома, я ніякавата адчуваў сябе сярод іх. А тут яны яшчэ пачалі запрашаць мяне з сабой: пайшлі з намі — і ўсё! Ну, я ім даў зразумець, што трэці — лішні, ды і дадому, маўляў, трэба ісці. А Галя пытаецца:

— А шчо Вы будэтэ робыты вдома?

— Ліст пісаць дахаты.

— А можа, і віршы?

— А можа, і вершы, — падладжваўся я пад яе настрой.

— А про шчо?

Ноч была надзіва зорная. Я паглядзеў на неба і жартам адказаў:

— А хаця б пра зорачкі…

Кватараваў я ў старэнькай бабулькі. Да яе хаты трэба было ісці хвілін пяць. І пакуль я ішоў, мяне ўсё больш і больш паланіла музыка, якую вы зараз ведаеце, як музыку песні «Зорачкі». Адначасова з музыкай прыдумаліся і вершы. Але, напэўна, не ўсе ведаюць, што надрукаваў я іх упершыню пад назвай «На выгнанні» ў заходнебеларускай газеце «Беларуская крыніца». Але калі народ назваў «Зорачкі», дык няхай так і будзе, я не супраць такога рэдактара…

Ну, а які ж быў далейшы лёс «Зорачак»? Пра гэта я ведаў, таму што часта, калі слухаў іх пад гітару ў цудоўным выкананні Багдана Андрусішына, альбо пад патрэскванне вогнішча ў сяброўскім выкананні — заўсёды апавядалі пра песню нават цэлыя легенды. Не абмінуў яе сваёй увагай і Генадзь Іванавіч Цітовіч, народны артыст СССР, заснавальнік Дзяржаўнага народнага хору БССР: «У 1929 годзе ён (Новік-Пяюн) даслаў з выгнання ў родныя Лявонавічы сваю песню з нотамі да яе. Спачатку яе заспявалі ўдзельнікі мясцовага хору. Распаўсюджвалася песня шляхам вуснай перадачы, таму і зведала значныя змены. У 30-я гады песня «На выгнанні» распаўсюджвалася сярод рэвалюцыйнай моладзі, выконвалася ў турмах палітзняволенымі» (з кнігі «Аб беларускім песенным фальклоры», Мн., 1976 г.).

Самотныя, пяшчотныя «Зорачкі». Не маючы ніводнай рэзкай ноты, ніводнага лозунга або закліку, тым не менш гэтая песня стала сапраўднай песняй-барацьбіткай. Гэта яна дапамагала вязням выжыць ва ўсіх «остаўскіх» лагерах у Нямеччыне, гэта пад яе на халодных нарах маці закалыхвалі сваіх дзяцей, гэта яе спявалі на сваіх родных мовах украінцы, палякі, рускія, таджыкі, шчыра верачы, што гэта толькі іхнія «Зорачкі».

Не раз сваю песню ў фашысцкіх засценках спяваў і сам паэт, калі быў вязнем баранавіцкай і слонімскай турмаў, а затым калдычаўскага канцлагера. Менавіта «Зорачкі» ўсё жыццё высвечвалі і высвечваюць у ягонай душы матывы шматлікіх вершаў і песень («Вечар над Шчарай», «Не гудзе зялёная дуброва» і г. д.), магчыма, менш папулярных, але такіх жа сардэчных і выпакутаваных за доўгае і складанае жыццё. А гэтых песень хопіць на добры аўтарскі песеннік. Дык давайце ж яшчэ раз павіншуем Сяргея Міхайлавіча з 80-годдзем і далучымся да пажадання Максіма Танка: сустрэць паэту з песняй XXI стагоддзе!

*1986*

## САБАКА НА ЭСКАЛАТАРЫ

*Развагі над тэкстамі песень самадзейных гуртоў*

Не ведаю, ці падлічваў хто спецыяльна колькасць самадзейных ансамбляў нашай рэспублікі, але тое, што лічба іх даволі ўнушальная, — ні ў каго не выклікае сумнення. Да рок-музыкі, як і да іншых напрамкаў маладзёвай папулярнай музыкі, сёння цікавасць немалая. Хтосьці ад яе ў захапленні, кагосьці яна шакіруе, але абыякавых, відаць, няма, пра што сведчыць шматлікая пошта нашай музычнай старонкі.

Дзякуючы прэсе, Беларускаму тэлебачанню і радыё, у рэспубліцы ўжо добра ведаюць шэраг вакальна-інструментальных ансамбляў самых розных жанравых напрамкаў. Пра некаторыя з іх пісала і наша газета. У тым ліку прыгадвалася і група «Метро», з тэкстамі песень якой мы пазнаёмім вас.

Метро закрыто, погашен свет,
И никого на этой станции давно уж нет,

И только мы с тобой
Глотаем дым дешевых сигарет.
Штаны протерты, в карманах ноль,
И от дороги под землей
В ногах усталых боль,
Но только мы с тобой
Войдем в тоннель,
Сказав ночной пароль,
Метро ночное — для нас,
Для вас — железная дверь,
Но пять копеек не пароль,
Не заслуга, поверь!
Гав! Гав! ( 9 разоў! — А. С.).

Гэта песня пад назвай «Метро». Мяркуючы па супадзенні назваў песні і групы, гэта, мабыць, песня-крэда, песня-афіша «метроўцаў». Вось таму я прывёў палову тэксту з гэтага «музычнага твора». Чаму ў двукоссі — чытач, пэўна, здагадаўся, а калі б яшчэ і паслухаў (калі яшчэ не чуў) гэту «рэч» — усялякія б сумненні адпалі наконт яе мастацкай вартасці. Наяўная песня, як музычны твор, скляпана — іншага слова не падбярэш — не па самых лепшых заходніх і айчынных рок-стандартах. Але, прабачце, гутарка сёння, як мы дамовіліся, выключна пра тэксты песень. У канкрэтным выпадку аўтарам гэтага тэксту (якога не ўдалося высветліць з-за сціпласці «метроўцаў») і яго выканаўцам вельмі хацелася б задаць пытанні: чаму «от дороги под землей в ногах усталых боль»? Чаму «для вас» (трэба меркаваць — для слухачоў) — «железная дверь»? І, нарэшце, чаму ў метро брэша сабака, мяркуючы па голасе — добры бульдог? Адкуль у маладых хлопцаў такі індывідуалізм, гэткая самавыключнасць, самаўпэўненасць у сабе і ў тым, што яны ствараюць? Адказу няма. Аднак, за салодкай мелодыяй у стылі «а ля Антонаў»,

пра што не раз ужо гаварылася раней, хаваецца, а магчыма наўмысна выпірае тая ж прымітыўная, «шэрая паэзія», з яе жаданнем «быць у рэчышчы», нягледзячы на сродкі.

Каб мяне не абвінавацілі ў падтасоўванні фактаў альбо ў суб'ектывізме (маўляў, выбраў самае горшае і адводзіць душу перамываннем костачак у цэлым нядрэннай групы; абы ж каго не стануць некалькі разоў паказваць па тэлебачанні), я зараз прыпынюся на адной з характэрных для «Метро» песень з тых чатырох, якія гучалі ў час іх выступленняў у перадачы «Гасціны двор». (Прабачце, але, карыстаючыся выпадкам, не магу не папракнуць Беларускае тэлебачанне: на маю думку, лепш і больш правільна, улічваючы законы мовы, называць перадачу «Гасцёўняй».)

Але вернемся да «Метро». «Лялька» — вельмі характэрная для метроўцаў песня, тэкст якой напісаў Фелікс Аксёнцаў. З рангу тых, якімі вельмі танна можна «купіць» неразборлівых і даверлівых па сваёй маладосці падлеткаў, з рангу тых, аднастайна-тэмпавым рытмам якіх можна гэтых юнакоў і дзяўчат зрабіць робатамі на танцпляцоўцы:

Ее наряд и заученный взгляд,
И каждый жест, и манер маскарад
Тебя манят и таят в себе яд,
Ее слова мало что говорят,
Она жертва, человек-автомат,
Человек-автомат.

Она блестит, как натертый паркет,
Но это злой и безжизненный свет,
В ее глазах отражения нет,
Ее лицо словно гипсовый слеп,
Ее слуга тот — кто ветреный след,
Тот, кто ветреный след.

Што ні радок, то штамп, што ні страфа, то ўбоства думкі, быццам сапраўды пісаў яе чалавек-аўтамат, хаця выканаўцы яе доўга пераконвалі ў адваротным.

У адзінаццаці тэкстах песень «Метро» я не змог знайсці ні аднаго, няхай сабе кволага парастка паэзіі. Скрозь — халоднасць успрымання свету, творчы разлік і надуманасць. І калі выказацца іх вобразамі (песня «Футбол»), усё падпарадкоўваецца таму, каб любымі сродкамі, «патыліцай» ці «нагой» — не істотна, забіць гол у вароты недасведчанага слухача.

Мне могуць запярэчыць, маўляў, сама традыцыя рока патрабуе таго, каб песні былі даволі простымі, нават спрошчанымі, маўляў, і ў іх, калі захочаш, можна знайсці філасофію штодзённага жыцця, глыбокі сэнс у зарыфмаванай канстатацыі нейкага факта, падзеі, тым больш, пачуцця. Ці не час заўважыць памылковасць такой тэндэнцыі, больш творча і сур'ёзна аднесціся да праблемы? У рэшце рэшт, хіба не дзіўна, чаму рок-музыка і рок-вершы, якія нарадзіліся сіямскімі блізнятамі, так неадэкватна развіліся за свае гады? Да таго ж, і рок музыка розная сама па сабе. У «Мроі» свая, у «Метро» свая, і, тым больш, свая ў «Бонды», якая не без поспеху дамагаецца сінтэзаваць дасягненні лепшых узораў сусветнага рока і нацыянальнага музычнага мастацтва. Музыку іх новай праграмы, пакладзеную выключна на беларускія вершы, мне ўжо не раз даводзілася чуць. Гэта новая і, трэба адзначыць, вышэйшая прыступка ў іх творчых пошуках.

Але нямногім нашым гуртам яшчэ ўдалося ўдала сінтэзаваць беларускія тэксты з сучаснай музыкай. Да таго ж, я свядома сказаў: музыка, пакладзеная на беларускія тэксты, бо «вершы» часам не паварочваецца язык вымавіць. Часам музыка і тэксты тут — гэта тыя родныя браты, адзін з якіх глядзіць на другога знізу ўверх. Прычым, самадзейныя выканаўцы нярэдка робяць гэта наўмысна і нават прынцыпо-

ва, а тлумачаць так: не ўсё адразу — навучымся. Але навучыцца паэзіі немагчыма — гэта ісціна. Мове ж — можна і трэба, бо толькі ўсведамленне сваёй грамадскай патрэбнасці церaз нацыянальнае ў кантэксце сусветнай культуры адчыняе браму ў пазнанне, адчуванне ці хоць дакрананне да сапраўднага мастацтва. Прыклады гэтаму ёсць у нашай музычнай культуры, ды і не толькі ў нашай: польскі «Маанам», венгерская «Амега», маскоўскі ансамбль «Скамарохі» на чале з Градскім і іншыя.

Натуральна, узнікае пытанне: якімі ж павінны быць беларускія рок-тэксты? Перш за ўсё гэта павінна быць не бязмястоўная, бездухоўная калька міжнародных узораў. І паколькі часта назіраецца ўплыў бардаўскай песні на рок-паэзію, то і беларускім музыкантам гэтага напрамку раім звярнуцца да нашых бардаў за вопытам, дзе чэрпаць змястоўнасць, духоўнасць, грамадзянскасць. Чытачы «Чырвонкі» па ранейшых публікацыях ужо знаёмы з маладым беларускім паэтам і бардам Сяргеем Сокалавым-Воюшам, з яго калегам Алесем Камоцкім. Іх песні таксама гучаць па радыё, тэлебачанні. І вось, напрыклад, вершы адной з песень С. Сокалава-Воюша, дзе ён звярнуўся да гістарычнага сюжэта. Яна прысвечана бітве пад Грунвальдам (1410):

Навостраны халодныя клінкі
Яшчэ ад прамінулае начы —
Пагрозліва чакаюць крыжакі,
Пакуль аголім мы свае мячы.

Ну што ж, нясі мяне наперад, верны конь,
Мой верны конь, мой верны конь,
Няхай крывёй гарачаю заліта скронь —
Нясі, мой конь, цераз агонь!

Не трэба азірацца на скаку
На тое, каб не плесціся ў хвасце!

І меч табе укладзены ў руку —
Вярнуцца са шчытом ці на шчыце!
Яшчэ крыху, яшчэ адзін кідок —
І кола атачэння, як пятля,
Няхай яны крычаць, што з імі Бог,
А з намі — Беларуская Зямля!

Хіба не прагучала б такая песня сапраўдным грамадзянскім гімнам у выкананні рок-групы? Бадай што так, бо падобны прыклад ужо нават друкаваўся ў «Чырвонцы» (у музычным выпуску № 78 пад рубрыкай «Песні маладых» мы змясцілі «Гістарычную баладу» барысаўскага гурта «Гелікон»). Дык ці не варта наладзіць творчае супрацоўніцтва з паэтамі, знайсці сярод іх блізкіх сабе па тэматыцы, выяўленчых сродках? Варта! Тым больш, калі насустрач ідуць яны самі: «З вялікай зацікаўленасцю прачытаў артыкул «Рок-клуб: якія перспектывы?». Прапановы вельмі слушныя і вельмі своечасовыя. Упершыню даведаўся аб самадзейным беларускім року ў галіне папулярнай музыкі, — піша ў рэдакцыю «Чырвонай змены» Алесь Аркуш з Жодзіна. — Ведаеце, мы, маладыя беларускія паэты, аб гэтым часта размаўляем. Напрыклад, я з задавальненнем паспрабаваў бы супрацоўнічаць з якой-небудзь беларускай рок-групай. Справа вельмі складаная, але ж і цікавая. Па-першае, гэта значнае пашырэнне аўдыторыі, да якой дакранаецца паэтычнае беларускае слова, асабліва сярод моладзі. Па-другое, неяк сорамна за стан беларускай маладзёвай музыкі. Бо як пагасцюеш у Эстоніі, дык сапраўдная зайздрасць бярэ. І, галоўнае, ёсць каму і ў нас у рэспубліцы пісаць нядрэнныя тэксты. Гэта і Адам Глобус, і Уладзімір Сцяпан, і Святаслаў Макаль, і многія іншыя. Ёсць і цікавыя музыканты. Напэўна, настаў час з большай сур'ёзнасцю, адказнасцю ўзяцца за развіццё маладзёвай папулярнай музыкі ў рэспубліцы».

*1986*

## ЖЫЦЦЁ Ў РАДКУ І Ў МЕТАЛЕ

У гісторыі сусветнай літаратуры ёсць мастакі слова, якія, пакінуўшы пасля сябе адну кнігу, засталіся назаўсёды ў памяці таго народа, які нарадзіў іх і выхаваў. Але я не магу згадаць ні аднаго паэта, які б увекавечыў сваё імя, высветліў, як паходняй, сваю постаць нашчадкам з сутонняў мінуўшчыны ўсяго адным вершам... Аднак у нас, беларусаў, такі паэт ёсць.

Паўлюк Багрым.

На яго радзіме, у Крошынскай сярэдняй школе ва ўрачыстай абстаноўцы, у светлы сонечны дзень быў адкрыты музей народных мастацтваў і рамёстваў, названы ў гонар легендарнага паэта. Так, легендарнага, таму што пагалоскі аб яго жыцці яшчэ дасюль ходзяць не толькі ў наваколлі Крошына, але і па ўсёй Беларусі. На свяце паэзіі, прысвечаным адкрыццю музея і арганізаваным Саюзам пісьменнікаў рэспублікі, паэтка, зямлячка крошынцаў Ніна Загорская вельмі цудоўна сказала: «Жыццё Паўлюка Багрыма — гэта песня ў радку і ў метале».

— Я думаю пра тое, што мы вельмі багагыя, — гаворыць прадстаўніца Гродзеншчыны, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы Данута Бічэль-Загнетава, — у нас ёсць такія волаты-паэты, як Багушэвіч, Багдановіч, Цётка, Купала... І якія мы ўсё ж нешчаслівыя: мы страцілі ўсю паэзію Паўлюка Багрыма. Застаўся, цудам ацалеў усяго адзін яго верш. Усіх ён крануў. Нікога не пакідае абыякавым. І праз стагоддзе дух Багрыма-змагара жыве ў яго балючых страфах.

Паэт Багрым быў кавалём. Дый яшчэ якім! Гледзячы на яго жырандоль у калгасным музеі, неўпрыкмет для сябе параўноўваеш яе з яго вершам-шэдэўрам «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» Якому твору — паэтычнаму альбо кавальс-

каму — аддаць перавагу? І, ведаеце, не хапае адвагі гэта зрабіць, так па-майстэрску, дасканала яны выкаканы. Калі наконт аўтарства багрымаўскіх агароджаў у кагосьці могуць узнікнуць сумненні, дык жырандоль мае надпіс лацінкай, што яна кавана Паўлюком Багрымам з Крошына.

Вядучы свята паэзіі пісьменнік і літаратуразнаўца Уладзімір Калеснік як ніхто ведае вартасць паэтычнага слова славутага паэта, але і ён не мог стрымацца, каб не выказаць сваё захапленне Багрымам-кавалём:

— Паўлюк Багрым быў мастаком кавадла, бо кавадла — гэта чарадзейная прылада ў народным разуменні. Каваль — гэта не толькі той, хто ўмеў каваць, выплаўляць метал, ён быў чарадзеем. Лічылася, што каваль можа выкаваць долю.

Мы дзівімся, гледзячы на гэтую цудоўную жырандоль, упрыгожаную жаўранкамі, якія вяшчуюць вясну. А вясна радавала селяніна ў часы Багрыма асабліва, бо тады селянін залежаў ад прыроды. Яму чым хутчэй хацелася вылезці з курнай, халоднай хаты, паглядзець на гэтую вясну, на свет белы.

Жырандоль знаходзіцца ў калгасным музеі. З-за сваіх памераў яна не змагла памесціцца ў невялічкай школьнай зале музея народных мастацтваў і рамёстваў, аб якім наш роспавед. Нарэшце сімвалічная стужка перарэзана, сказана многа шчырых, усхваляваных слоў на адкрыццё, і мы разам з ініцыятарам стварэння музея мастаком Сымонам Свістуновічам правядзём першую выправу, якая пачынаецца партрэтам Паўлюка Багрыма, створаным Сымонам Свістуновічам: светлае, чыстае аблічча маладога Багрыма. Тонкія рысы твару, за якімі адчуваецца пяшчотная, даверлівая натура, але, у той жа час, гатовая да выпрабаванняў будучага жыцця, у якое скіраваны скрозь гады пільны позірк паэта.

— Фотаздымка ці малюнка Паўлюка Багрыма не захавалася, — апавядае Сымон Свістуновіч. — Але, як вядома, бюст

яго зрабіў Заір Азгур, жывапісную карціну стварыў Пётра Сергіевіч. Кіраваліся яны чыста ўяўленнем. Я пайшоў па іншым шляху, хаця і ў мяне інтуіцыя адыграла не апошнюю ролю. У Крошыне ёсць вельмі стары чалавек — Собка Міхал Станіслававіч, 1898 года нараджэння. З яго роспаведаў, бацька быў маўклівым чалавекам, а маці, Сандзюк Клямен-ція Вікторыеўна часта распавядала пра Багрыма. Пра жы-рандоль. Брат маці Язэп нейкі час працаваў памагатым у Багрыма. Сам жа Міхал Станіслававіч добра памятае сыноў паэта, яго кузню і касцёл, які разабралі ў першую вайну. Ста-рэйшы сын Багрыма быў высокага росту. Малодшы — ся-рэдняга. Абодва светлавалосыя. Насы прамыя... Такім чы-нам успаміны чалавека родам з мінулага стагоддзя ляглі ў аснову гэтага партрэта.

А вось фотакопія верша Багрыма з арыгінала. Напісаны ён быў лацінкай. Хаця Паўлюк Багрым вядомы ўсяго адным вершам, тым не менш яму прысвечаны дзесяткі паэтычных твораў і літаратуразнаўчых прац. Язэп Дыла напісаў драму «Юнак з Крошына». Уладзімір Караткевіч адным з першых і неаднойчы звяртаўся да вобраза Паўлюка Багрыма, пачаў-шы з балады «Матчына душа».

А гэта веснічкі, выкаваныя Багрымам, ад агароджы з мо-гілкаў, дзе пахаваны сам паэт. Каля адной з яго агароджаў спілаваны два дрэвы. Па гадавых кольцах няцяжка было вы-значыць, што пасадка гэтых дрэў трапляе якраз на жыццё нашага знакамітага земляка. Акрамя чатырох у Крошыне, такія ж агароджы я знайшоў у Юшкавічах і пад Баранаві-чамі. Відавочна нават неспецыялісту, што іх рабіў адзін май-стра.

Але музей, створаны Сымонам Свістуновічам, мае на мэце знаёміць наведвальнікаў не толькі з жыццём Паўлюка Баг-рыма, а і з тымі часінамі, у якія яму патрапіла жыць. Тут мы можам убачыць збор прадметаў беларускага кавальства: бу-

сак, адметны сваімі неверагодна вялікімі памерамі, сякеры, бязмен, нажніцы, склюд — прылада для абчэсвання бярвенняў па тыпу сякеры, але ў разы тры-чатыры большая. Тут і пляценне, і ўласцівая гэтай мясцовасці серабрыстая кераміка. Ручнік, які можа служыць эталонам беларускага даматканага ручніка. У адрозненне ад пазнейшых, вышытых шоўкам альбо бавоўнай, гэты вышыты льнянымі ніткамі. Вельмі цікавая набіванка XIX стагоддзя і збор вышыванак таго ж часу. Майстры больш чым сто гадоў назад ведалі сакрэты прыгатавання тканінавых фарбаў. Гэтыя фарбы ні ў чым не саступаюць сучасным, калі не пераўзыходзяць іх па ўстойлівасці: тканіны захавалі і сіні, і карычневы, і серабрысты колеры.

За немалым выключэннем вось пакуль што і ўся экспазіцыя. Аднак гэта толькі пачатак. У яго стваральнікаў яшчэ многа задумак і нават мар. Напрыклад, аформіць стэнды, прысвечаныя знакамітым людзям, жыццёвы шлях якіх пралёг праз Баранавіччыну і лёс Багрыма: Адаму Міцкевічу, Яну Чачоту... Ёсць звесткі, што з паэтам сустракаўся Ігнат Дамейка. Было б выдатна, калі б музей знайшоў сталае месца. Напрыклад, у Крошынскім касцёле, гэтым помніку гісторыі і архітэктуры, які ўжо колькі гадоў служыць мясцоваму калгасу як сховішча.

Як і ўсякі музей, Крошынскі заканчваецца кнігай водгукаў. Хочацца прывесці некаторыя запісы з яе. Вось словы Уладзіміра Калесніка:

«Выдатны майстра беларускага габелена Сымон Свістуновіч выступіў у новай якасці — арганізатара музея. І я б сказаў, гэта яму ўдалося зрабіць не толькі на даволі высокім прафесійным узроўні, але і на самым высокім узроўні чалавечай душы. Так з густам расстаўлены яшчэ нешматлікія экспанаты музея! Яны не «б'юцца» паміж сабой, не канкуруюць... Няхай служыць гэта экспазіцыя справе выхавання

ў моладзі павагі да спадчыны, якую прыдбалі землякі выдатнага каваля і паэта Паўлюка Багрыма».

А вось што піша Васіль Вітка:

«Словы ўдзячнасці мастаку Сымону Свістуновічу, энтузіясту справы, якую мы вельмі высока цэнім і, можа быць, яшчэ не ведаем цаны таму, што зроблена. Пра гэта скажуць нашы нашчадкі, новыя пакаленні людзей. Свет трымаецца на добрых душах. Вялікая ўдзячнасць і вялікая пашана наша да людзей-падзвіжнікаў, захавальнікаў роднай спадчыны, якіх у нас пакуль што нямнога, але яны ўсё часцей і часцей з'яўляюцца. Слава, добрая пагудка ў народзе пра такіх людзей ідзе, і яна будзе ісці і шырыцца!»

*1986*

## РАДЗІМА ПАЎЛЮКА БАГРЫМА Ў МІНУЛАСЦІ

Постаць Паўлюка Багрыма настолькі таямнічая ў гісторыі беларускай літаратуры, і хіба толькі Сяргей Палуян, якому ў год смерці таленавітага папярэдніка было ўсяго некалькі месяцаў ад нараджэння, пайшоў з гэтага свету ўвенчаны арэолам таямнічасці, таксама пакінуўшы пасля сябе легенды. І ўсё ж Паўлюк з Крошына — самы легендарны і загадкавы паэт. Да сёння ў людзей ягонай зямлі ён у памяці. Нават самы маленькі факт з падзеяў, што адбываліся вакол яго, можа стаць нітачкай, з якой можна будзе пачаць разблытваць клубок ягонага лёсу. Вывучыўшы амаль усе даступныя публікацыі па Паўлюку Багрыму, асабліва матэрыялы двух следстваў: пра хваляванні крошынскіх сялянаў на пачатку лета 1828 года і адносна плябанскай школкі — я заўсёды пра іх памятаў, калі меў справу з гістарычнай літаратурай.

Па сутнасці, вядомыя падзеі ў Крошыне пачаліся з таго, што новы гаспадар крошынскага фальварка Юрага захацеў запрыгоніць тутэйшых жыхароў. Яны ж заявілі яму пра сябе як пра людзей вольных і што, маўляў, у іх — нашчадкаў панцырных баяраў — ёсць прывілея, «якая пацвярджае іх права на зямлю і незалежнасць... Гэты старадаўні дакумент уяўляе з сябе паперу, напісаную залатымі літарамі і засведчаную пячаткай і подпісам караля» (Жыгімонта II Аўгуста) (ЛіМ, 25 студзеня 1941 г.). Але «аднойчы раніцой да ахоўніка дакументу прыйшоў аканом і лісліва сказаў:

— Пан Грыгаровіч, ці не дасцё вы мне да вечару прывілей? Вельмі цікавіць мяне гэтая старына.

— А чаму не даць! — даверліва адказаў Грыгаровіч. — Калі ласка, пане Саматыя, але толькі да вечару.

Больш крошынцы гэты прывілей не бачылі. Дарэмна хадзілі яны скардзіцца і ў павятовы Наваградак, і ў губернскі Мінск, і ў сталічны Пецярбург. Ніхто там на хадакоў ад панцырных лапцюжнікаў не звяртаў аніякай увагі». (ЛіМ, 25 студзеня 1941 г.) Гэта адна з легендаў, якая з'явілася ў 30-я гады і вандруе з даследвання ў даследванне пра Багрыма — ажно да апошніх публікацый 1986 года, з нагоды адкрыцця ў Крошыне музея народных мастацтваў і рамёстваў імя П. Багрыма.

Наколькі праўдзівая гэтая легенда? Ці мелі крошынцы рацыю, адстойваючы свае правы? Ці існаваў насампраўдзе прывілей? Ці жылі ў Крошыне панцырныя баяры? Вельмі верагодна. Да прыкладу, «у 1763 годзе невялікай групе панцырных і путных баяраў Полацкага ваяводства было дадзена каралеўскае пацверджанне выдадзенай яшчэ Жыгімонтам II Аўгустам прывілеі на іх маёнткі Непаратовічы і Ішчэ. Згодна з прывілеяй, за імі і іх нашчадкамі прызнавалася права валодаць гэтымі землямі». (Гісторыя Беларускай ССР, т. 1, с. 372).

Думалася, што хоць крыху гэтыя пытанні прасветляць Акты Вялікага Княства Літоўскага, выдадзеныя Віленскай археаграфічнай камісіяй. Гісторыя не магла абысці Крошын, які пэўна ўжо існаваў у XV стагоддзі і даволі часта пазначаўся на мапах наступных стагоддзяў. Па ўсім відаць — цераз Крошын ішлі важныя шляхі, як водныя (Шчара тады была суднаходнай), так і сухаземныя. Цераз Крошын, да прыкладу, у 1678 годзе ехаў заходнееўрапейскі вандроўца Б. Танер. Кавальня, у якой працавалі бацька і сын Багрымы, напэўна, стаяла яшчэ ў XV стагоддзі, як, дарэчы, вадзяны млын і корчмы, і нават «торгі» бывалі, што пацвярджае ліст караля Жыгімонта II ад 18 жніўня 1521 года, які дазволіў татарыну князю Малікбашу аднавіць у памесці Крошын корчмы: «Жыкгимонт Божю милостю корол Полский, велики кияз Литовский, Руский, княжа Пруское, Жомоитский и иных.

Бил нам чолом княз Маликбаша о том, што есмо дали ему двор наш Крошыно, совсим с тым как ся тот двор здавна в собе мел, на вечность и он поведил перед нами, иж там у Крошыне ест торг и корчмы бывали и бил нам чолом обыхмо и тыми разы дозволили ему там у Крошыне корчмы мети, как же и посол велики брата нашого Маетме Кирея цря Перекопского (цар Перакопскі Махмет Гірэй — родны князя Малікбашы. — *А. С.*) Овлияр Мурьза о том нас за ним ждал, а поведал нам его собе братом, ино мы на жедане того великого посла Овлияр Мурзы и к тому на его чоломбите то вчинили, дозволили есмо ему там у Крошыне корчмы мети, нехай он там корчмы у своем торгу маеть потому як иншы по торгам свои корчмы мают. Писан у Кракове...» (Акты Віленскай Камісіі, т. XXXI. Акты пра літоўскіх татараў. Вільна. 1906 г.). Гэта акт № 1 з 322 (апошні ад 3 красавіка 1784 г.), прысвечаных літоўскім татарам. А менавіта крошынскім татарам прысвечана 28 актаў: № 1—26 (апошні ад 17 верасня 1572 г.), № 35 (30 чэрвеня 1585 г.) і № 145 (6 сакавіка 1595 г.). Назва-

ныя акты, паколькі яны могуць расказаць пра радзіму Паўлюка Багрыма ў XVI стагоддзі, мы і разгледзім, тым больш, што яны, хоць і аддалена (маюцца на ўвазе звесткі ў Актах пра крошынскіх панцырных баяраў), дачыняюцца да падзеяў 1828 года ў Крошыне.

Трэба заўважыць, што да 1521 года Крошын згадваецца яшчэ ў адной крыніцы — «Спісе навучэнцаў Кракаўскага універсітэта». У другім томе сярод студэнтаў, якія паступілі ва універсітэт на пачатку XVI стагоддзя, запісаны і беларусы. Вось яны паводле выпісаў Сцяпана Хусейнавіча Александровіча: з Полацка паступалі хлапцы ў 1501, 1502, 1504 (Францішак Скарына), 1506, 1509 гадах, з Гародні — у 1504, 1507, 1549 гадах, з Ашмянаў — у 1504, 1511, 1528 гадах, з Ваўкавыска — у 1504, 1535 гадах, з Віцебска — у 1517 годзе браты Мацей і Станіслаў, сыны Пятра, са Слоніма — у 1521 годзе, з Ліды — у 1548 годзе, з Дрысвятаў — у 1528 годзе, з Васілішак — у 1527 годзе, са Свіры — у 1508 годзе, з Мінска — у 1534 годзе. Трапляюцца людзі не толькі з гарадоў, а нават і з вёсак, у тым ліку і з мястэчка Крошын у 1512 годзе. (Сцяпан Александровіч. «Кнігі і людзі». Мн., 1976 г., с. 16).

Год 1512, відаць, і трэба пакуль лічыць годам першага ўпамінання Крошына. Хаця відавочна, што ён існаваў намнога раней і мясціны яго акаляючыя з дахрысціянскіх часоў, магчыма, былі абжытыя людзьмі, аб чым сведчыць наступная выцінка з дакумента аб межах памесцяў Крошын і Стайкі: «...тою рекою Черниховкою уверх до Своятичское дороги до кургана, который стоит над болотом Любчом...» (№ 24—20 студзеня 1571 г.). Як бачым, акт № 24 загадаў загадку археолагам і мясцовым краязнаўцам. Дзе ж гэты курган над балотам Любчам (Любчом)? Хто жыў на гэтай зямлі ў больш старажытныя часы?

А да Малікбашоў двор Крошынскі належаў ваяводу Кіеўскаму князю Дзмітрыю Юр'евічу Пуцяцічу. Пачынаючы ад

самага першага Пуцяты на Старажытнай Русі — тысяцкага Кіеўскага пры князю Уладзіміру Святым — потым Пуцяцічаў, Пуцятаў, Пуцяціных было вельмі шмат, у тым ліку і на мяжы XV і XVI стагоддзяў. Хто з іх Пуцяціч, які нас цікавіць, і ад каго са старажытнарускіх часоў ідзе ягоны радавод? Магчыма, ад радаводнай галінкі князёў Друцкіх (Ф. А. Бракгауз, І. А. Эфрон. Энцыклапедычны слоўнік. С.-П., 1898, т. 25ª, с. 818). Продак іхні, князь Іван Сямёнавіч Друцкі, празваны Пуцята, у 1422 годзе падпісаў трактат Літвы (Вялікага Княства Літоўскага) з крыжакамі; ён быў прыхільнікам Свідрыгайлы. Ягоны сын Дзмітрый, магчыма, і ёсць уладальнік Крошына, бо ён сапраўды быў ваяводам Кіеўскім і памёр у 1505 годзе, а ў прывілеі караля Жыгімонта І, якую далі сынам князя Малікбашы на памесце Крошын, запісана: «Били нам чолом татарове нашы сынове князя Маликбашыны княз Мартуза, а княз Авсеин и положыли перед нами лист наш што, есмо перво сего дали отцу их князю Маликбашы двор наш у Новгородском повете на имя Крошыно на вечност, з людми служебными и тяглыми и челядю неволнью и со всим с тым как тот двор наш воевода Киевский, небожчык князь Дмитр Путятич держал…» (№ 3—17 ліпеня 1523 г.).

Аднак пара, напэўна, распавесці, адкуль узяліся татары ў Крошыне, гэта значыць і ў Вялікім Княстве Літоўскім. Спецыяльнага даследвання пра беларускіх татараў наша навука пакуль не мае. Упершыню гэтую тэму даволі дасведчана асвятліў Флавіян Мікалаевіч Дабранскі ў прадмове да «Актаў пра літоўскіх татараў». Ягонае даследванне і сягоння не згубіла сваёй каштоўнасці, таму і нам варта з ім пазнаёміцца.

Вялікае Княства Літоўскае ў параўнанні з усходнімі, паўднёвымі і нават заходнімі суседзямі найменш паддалося набегам татараў, як ардынскіх, так і крымскіх. Жыхары Княства ніколі не плацілі ім даніны ў адрозненне ад рускіх князёў і люду. Але былі паходы татараў на Літву ўдалыя і няўда-

лыя, у якіясьці часы частыя, а ў якіясьці — не. Гэта залежала ад перамір'яў і пагадненняў усялякага роду паміж князямі ВКЛ і татарскімі ханамі. Вядома, багата шкоды прыносілі татары нашым паўднёвым тэрыторыям. Вялікі князь Гедымін (1316 — 1341: гады княжання) да сваіх земляў прыяднаў Валынь далёка на поўдні ВКЛ і, такім чынам, амаль лоб у лоб сутыкнуўся з татарскімі плямёнамі ў «старажытнарускіх стэпах» (Дабранскі). Але Гедымін быў палітыкам і, галоўнае, памятаў пра апусташальнае нашэсце татараў на суседнюю Русь у пачатку XIII стагоддзя. І таму ўжо ў 1319 годзе татары даволі моцным войскам удзельнічаюць у бойні з Тэўтонскім ордэнам. «Вельмі магчыма, — піша Флавіян Дабранскі, — што татары, якія служылі ў войсках Гедыміна, па сканчэнні вайны засталіся ў ягонай дзяржаве і як узнагароду атрымалі ва ўладанне землі». Тым больш, што Вялікае Княства займала значныя тэрыторыі і іх трэба было абжываць. Менавіта гэтыя татары аднымі з першых, напэўна, у Княстве заснавалі свае паселішчы. Іх сыны і ўнукі ў войску Альгерда (1345 — 1377) у якасці дапаможнай харугвы ў 1350 годзе ідуць паходам супраць польскага караля Казіміра Вялікага. У 1362 Альгерд захацеў, каб ягоныя землі распасціраліся ад Балтыйскага да Чорнага мора і дамогся гэтага ў бойні на Сініх Водах, перамогшы татарскіх князеў Кутлубуга, Хачэбоя і Дзмітрыя — васалаў Залатой Арды. Гедымінавы татары асобнай харугвай (ва ўсе часы за Вялікае Княства Літоўскае і Рэч Паспалітую яны хадзілі сваімі харугвамі) ваявалі супраць сваіх супляменнікаў не менш мужна, чымсьці ліцвіны. І надалей кожны наступны літоўскі князь вёў баявыя дзеянні поплеч з татарамі. І кожны раз былі палонныя. Да прыкладу, дакладна вядома, што пры Вітаўце яны з'явіліся ў Навагрудскім павеце. Так што не выключана: крошынскія татары маглі асталявацца тут у 1397 годзе.

Вось як пра падзеі, якія здарыліся ў гэтым годзе, распавядаюць Карамзін паводле Троіцкага летапісу, які не дайшоў

да нас, і Дабранскі ў сваёй прадмове: на працягу другой паловы XIV стагоддзя ў Залатой Ардзе быў вялікі разброд на глебе барацьбы за ўладу. Унук Цімур-Кутлук пазбавіў пасаду Тахтамыша і абвясціў сябе вялікім ханам. Тахтамыш са сваёю дружынаю падаўся ў Літву да Вітаўта, які прыняў яго з пашанай, пасяліў у Лідзе (1394 год) і даў абяцанне дапамагчы ў ягоных стараннях вярнуць свой пасад. Вітаўту вельмі хацелася пасадзіць у Сараі Тахтамыша, з той надзеяй, што абавязаны яму Тахтамыш дапаможа завалодаць Масквою. З гэтай мэтаю ён заключае пагадненне з Тахтамышам на такіх варунках: «аз тя посажу в Орде на царстве, а ты мя посадишь на княжени на Великом на Москве» (Карамзін. Гісторыя Дзяржавы Расійскай. 1842, т. V, заўвага 177).

А ў 1397 годзе Вітаўт разам з Тахтамышам пайшоў да Азова, разбіў татараў, прагнаў іх да Волгі, узяў багатую здабычу і некалькі ўлусаў (паводле Даля ў батыеўскіх татараў улус — гэта паселішча, аул) і прывёў у Літву. Адную частку палоннікаў адправіў у Польшчу Ягайлу, дзе іх без прамаруджання ксцілі, а другую частку, набагата большую, пасяліў на сучасных Валыні, Берасцейшчыне, Гародзеншчыне, у Наваградскім павеце.

Каб скончыць гісторыю Вітаўта з Тахтамышам, давайце зноў звернемся да Карамзіна: счакаўшы два гады, Вітаўт у чарговы раз сабраўся на татараў, жадаючы вярнуць пасад Тахтамышу. Але на гэты раз шчасце пакінула вялікага князя, і ён на берагах Ворсклы 12 жніўня 1399 года быў ушчэнт разбіты, так што ледзь сам выратаваўся. Але і пасля гэтай няўдачы не пераставаў умешвацца ў справы і спрэчкі татараў, падтрымліваючы дзяцей і ўнукаў Тахтамыша, якія жылі ў Літве са сваімі шматлікімі дружынамі. У 1420 годзе ён у Віленскім замку абвясціў кіпчакскімі ханамі татарскіх князёў Батсабулу і Герэмфердзена і ўсклаў на іхнія галовы княскія кароны і багатыя княскія футры (Карамзін, т. V, с. 120).

Трэба заўважыць, што татары — верныя саюзнікі, мужны і няздрадлівы ў сваёй масе народ. Гэта яны даказалі на справе, служачы князям ВКЛ і каралям Рэчы Паспалітай. За малым выключэннем за гэта іх надзялілі землямі, раўнялі ў правах з князямі і шляхтаю. Такім чынам татары мелі свае палкі і сваіх ваеначальнікаў, і ў выпадку ваенных дзеянняў кожны заможны татарын прыводзіў за сабою вершнікаў (магчыма, не абавязкова татараў). Пра тое, што ў крошынскіх татарскіх князёў былі свае невялікія харугвачкі панцырных баяраў, сведчаць некаторыя акты. Князь Усейн Малікбашыч скардзіцца, што «для послуг господских (дзяржаўных) военных набрал долгов не мало» (№ 5). Ён жа заяўляе, што «бываючы (са сваімі панцырнымі баярамі.— А. С.) мне на частых послугах господских и в лихолетия для незрожаю збожа в немалые долги попал» (№ 7). Пра асабісты атрад, які заўсёды існаваў пры князях Малікбашычах, сведчыць і такі факт: у 1566 годзе ў Вільні, «на палацу королевском», разглядалася справа двараніна Бенедыкта Юрагі з Усейнам Малікбашычам «о наеханье кгвалтовное з многими татары, помочниками его, под часом военным» на памесці Юрагі Юшкавіча і Макашы і «о учиненный там разбой».

Наогул жа ў разглядаемых актах крошынскія панцырныя баяры ўпершыню згадваюцца як «панцырныя» ў 1570 годзе ў прадажным лісце жонкі Асана Малікбашыча і сына яе на частку памесця Крошын (№ 18). Аднак у гэтым жа лісце сказана, што да іхняга бацькі, гэта значыць да Асана Малікбашыча, памесце Крошын і «дворец» Стайкі перайшлі з панцырнымі баярамі: «Борис Угрим кон, Севрук Танцыревич кон, Богдан Тартим кон, Гринец и Васил Ячникович кон...» Далей пералічваюцца путныя баяры і людзі цяглыя са сваімі сем'ямі. Варта падаць у арыгінале гэты пералік імёнаў і прозвішчаў. Магчыма, сённяшнія крошынцы знойдуць сярод гэтых людзей сваіх продкаў: «путныя бояре Степан а Иванец

прихожые, Стасюк, Петрок, Иванец Пацкевичы а люди тяглые Янчык, Неклюд, Волентей, Матфеец, Гришко Якгинтовичы служба, Степан а Митрош Кгиневичы служба, Белец, Хатенец, Опанас, Величко Заневичы служба, Мартин, Хотен, Степан, Микита Протасовичы служба, Лукян, Мойсей, Бобр, Еремей, Иван, Мацко, Радюк, Ходар, Бутько, Гомза, Мацко Олисеевичы служба, Иванец, Богдан Филистовичы служба, Демид, Микула, Овдеец, Радюк, Яковец, Трохим, Дмитрок Тушевичы служба, Михал, Радюк, Мелюк, Ходычычы служба, Олешко, Иванец, Петрушец, Нестюк, Гринец Хромцевичы служба, Гринец Миникович (Мельникович), Занец Мельникович огородник, Павлюк прихожый огородник».

У сяле Торшычы ў 1559 годзе жылі Цішка Заневіч з двума сынамі. Асан Малікбашыч, не маючы чым аддаць сем коп і дваццаць грошай «літоўскае лічбы» «дзяржаўнаму шляхціцу» пану Андрэю Голубу, аддаў на нейкі час сыноў Заневічаў (№ 4). У 1562 годзе ў Крошыне жылі: Іванец, Занец, Змайла, Радзюк і Несцер Берасцевічы — служба баярская; Мацей Дзмітровіч — напаўслужбы баярскае; Сянец Лізун і Сянец Кгайлена — служба баярская; людзі цяглыя: Ждан і Васюк Петуховічы Саленікі — служба; Сцяпан, Давыд, Мялешка Гляцэвічы, Сянец Бабіцэвіч і Голуб, Якаў Сазон і Мазук — служба, Мішко Трахім, Астошка і Багдан Шчэрбачэвічы — служба, Іван, два Ігнаты і Ціт Руткевічы — служба, Хвядзец Гвоздзікаў — палова службы, Цімошка Кузьміч, Клімец, Васілец і Якавец, Санец Страміла, Антон Аношка, пракурат (гэтае слова Насовіч тлумачыць, як прайдоха, хітрэц) Аношка з сынам Паўлюком — людзі невядомых заняткаў (№ 5). У 1567 годзе Ягіша і Яска Мартузічы агаворваюць, што прадаюць Астафію Валовічу частку памесця Крошын і Стайкі з людзьмі: Хведарам Шарэвічам — служба конная, Андрэем Санцом Барысцом — конная, Амяльянам — путная служба, Ганусам Паскевічам — путная, Януком Білкевічам, Жданам

Кгейдзевічам — цяглая служба, Алешкам Макаловічам — палова службы, Васюком Міхайловічам, Мікулам Бараковічам, Жданам Кгейсцевічам з братам, Сідарцом Дойлідам, Міхалкам Чыжэвічам, Санцом Марковічам, Санцом Кгейдзевічам — цяглая служба (№ 11).

Як відаць з пераліку жыхароў Крошына, не ўсе былі панцырнымі баярамі, а значыць, далёка не ўсе належалі да шляхецкага стану. Панцырныя баяры ў параўнанні хаця б з путнымі (путныя баяры служылі ў князёў лістаносцамі, ганцамі і г. д., акрамя гэтага яны абкладваліся падаткамі) мелі абавязкі толькі перад дзяржавай: хадзілі самі на вайну і выстаўлялі каня ці коней у залежнасці ад колькасці валокаў зямлі ім належачых, плацілі серабшчызну — дань на войска. Кожны панцырны баярын жадаў пісьмова засведчыць за сабой і сям'ёю шляхецтва, а таксама права на зямлю. У такім выпадку імя новага баярына заносілася ў адміністрацыйныя «рэестры», а яму самому выдаваліся прывілейныя дакументы. Каля сотні дакументаў такога роду змешчана ў асобным тамовіку «Актаў Віленскай Камісіі», прысвечанага баярам. У ім ёсць дакументы аб прызнанні шляхецкіх правоў баяраў нават некалькіх сёлаў.

Не выключана, што і крошынскія баяры мелі агульны прывілей, які, па сведчанні Сцяпана Александровіча, у іх выкралі ў 1828 годзе. Часта такія дакументы захоўваліся ў касцёле або ў царкве. У 1564 годзе 18 красавіка прывілейны ліст аб прызнанні шляхецкіх правоў баяраў некаторых сёлаў Айракгольскай воласці быў выдадзены ксяндзу Андрэю Лалушу Петрашэвічу, плябану Чакіскаму (Акты пра баяраў, т. XIV, № 164). А ці не захоўваўся прывілей крошынскіх панцырных баяраў у мясцовай плябані? А ці не прапаў ён пад час напалеонаўскага нашэсця? І, магчыма, таму ў расследаваннях 1828 года крошынцы ні разу не сцвердзілі, што маюць якісьці прывілей, а проста казалі, што запісаныя ў «казках вольных людзей».

Цікава, што на ўсім працягу існавання стану панцырных баяраў з боку вышэйшага шляхецкага стану — князёў — былі шматлікія спробы іх заняволення. Жыгімонт І піша 13 траўня 1507 года свайму дворнаму маршалку Юрыю Іванавічу Ілінічу, што пінскія баяры Грынь Прасаловіч і Васіль Сачковіч білі яму чалом «и поведали перед нами, иж князь Юрый Семеновича Пинский предков их почал был вернути в тяглы, службы и датки, ино деды их били о том чолом славное памяти отцу нашому Казимиру — королю его милости, и отец наш с тых служб тяглых и дочок их вызволил, и казал его милость службою боярскою служити и лист свой на то им дал...» (Акты пра баяраў, № 11.) Ва ўсіх прыведзеных выцінках з актаў Вялікага Княства Літоўскага пагана захавалася арыгінальная старабеларуская мова з-за граматычнай неахайнасці перапісчыкаў і складальнікаў «Актаў Віленскай Камісіі»).

Гэта адбылося ў 1507 годзе, ці не ў лепшыя часы для панцырных баяраў. «Але аб Літоўскім баярстве наогул неабходна сказаць заключнае і даволі сумнае слова, што з 1800 годам хутка памірае і само ягонае гістарычнае імя; гэтае стагоддзе ўжо рэдка згадвае ў сваіх актах старажытнае рускае імя, якое праславіла яго Літоўскую дзяржаву; імя гэтае знікае і патанае ў адным агульным моры — шляхецкага дваранства і простага сялянства». (Прадмова да «Актаў пра баяраў». Іван Якаўлевіч Спрогіс. Вільна. 1897 год). Натуральна, калі паручнік царскага войска з жонкай Антанінай Радзівіл захацелі запрыгоніць крошынцаў, дык для іх і размовы не магло быць, што хтосьці калісьці быў запісаны ў «казках вольных людзей».

Невядома пакуль, з якога часу Крошынам сталі ўладаць Радзівілы, але акт пра літоўскіх татараў пад № 145 паведамляе, што «ясне вельможны Крыштоф Радивил кияжа на Олыце и Несвижу, воевода Троцки, кграбя на Миру» пажадаў

атрымаць з канцылярый Жыгімонта III копію прывілеі караля Жыгімонта I ад 1523 года на памесце Крошын сынам князя Малікбашы. З якімі мэтамі Крыштоф Радзівіл гэта рабіў, цяжка сказаць, аднак нам вядома, што ўрэшце радзіма Паўлюка Багрыма перайшла ў рукі Радзівілаў.

Цяжка сказаць, як крошынцам зажылося пасля падаўлення іхняга бунту. Пакуль звестак пра гэта няма. Увосень 1986 года з археолагам-аспірантам Генадзем Сагановічам, які займаецца даследаваннем кавальства на Беларусі, мы прыехалі ў Крошын з мэтай адшукаць месца, дзе стаяла кавальня бацькі і сына Багрымаў. З дапамогай мясцовых старажылаў за метраў сто ад Шчары мы яго вызначылі, але якраз там зараз паабапал насыпной дарогі стаяць дамы. Ды ўсё ж з пустымі рукамі ў Мінск мы не вярнуліся. У закінутай, амаль разбуранай хаце пашчасціла знайсці невялічкую бібліятэку, вельмі стракатую па падборы кніжак: падручнікі па польскай гісторыі і літаратуры канца XIX і пачатку нашага стагоддзя. Да прыкладу, двухтамовік «Гісторыі літаратуры польскай» Пятра Хмялёўскага. Гэты двухтамовік ахоплівае літаратурны працэс у Польшчы пачынаючы з XVII стагоддзя і канчаючы пачаткам XIX стагоддзя. Менавіта з гэтай кніжкі я даведаўся, што багата якія польскія пісьменнікі гэтага перыяду нарадзіліся або падоўгу жылі і пісалі на Беларусі: Сарбеўскі Мацей (1595 — 1640), Багамолец Францішак (1720 — 1784), Нарушэвіч Адам (1733 — 1796), Карпінскі Францішак (1741 — 1825) і шмат хто іншы. Беларускіх выданняў аказалася толькі два: часопіс «Беларусь», № 4 за 1946 год, і падручнік, выдадзены ў Вільні ў дваццатых гадах на беларускай мове па гісторыі свету пачынаючы ад старажытных часоў. Але самай цікавай знаходкай з'явілася зробленая на гербавай паперы ў 1864 годзе з кнігі Наваградскага павятовага суда копія «Акту даравальнага дакумента ад паноў Юрагаў панам Яну і Мікалаю Рачкоўскім выданага году 1836 ме-

сяца ліпеня 2 дня». Варта прывесці асноўную частку гэтага дакумента, бо ён хоць крыху характарызуе мястэчка Крошын пасля бунту 1828 года і саміх паноў Юрагаў. Відавочна, што дакумент пісаў беларус — на рускай і польскай мовах, якія ён пагана ведаў. У ягонай польскай мове сустракаюцца беларусізмы, скажоныя польскія словы і выразы на мясцовы манер. Кавалкі польскага тэксту прыводжу ў беларускім перакладзе: «В книге Новогрудскаго Уезднаго Суда для явки документов за 1836 год на страницах 49, 50, 51, 52 под № 127 значит:

Акт Даравальнага дакументу ад паноў Юрагаў панам Яну і Мікалаю Рачкоўскім выданага году 1836 месяца ліпеня 2 дня. По поданном на Высочайшее имя в Новогрудский Уездный Суд дворянином Бранским Ральцевичем Прошению и состоявшейся на оное в сем числе постановлению принято для записи в сию книгу Временно-Либертационного документа Помещиками Станиславом и Антониною с Князей Радзивиллов Юрагами супругами Ивану и Михаилу Рачковским выданного писаннаго на Три рублевой гербовой бумаге от коего на основании тома 5 устава о пошлинах ст. 396 следет казне пошлин... (неразборліва. — *А.С.*) десять рублей ассигнациями, коего содержание следуюищее: Станіслаў і Антаніна з Князёў Радзівілаў сужэнства Юрагі ніжэй уласнаручна падпісаныя і дзейнічаюць ад свайго імя: публічна абвяшчаем гэтым нашым пажыццёва даравальным дакументам Яну сыну Мацея, а таксама Мікалаю сыну Рачкоўскім абкладзеным падаткам манаршым жыхарам мястэчка Крошына, а цяпер абдораных воляй і ўсім прамым нашчадкам толькі мужчынскай плоці да згасання роду выдадзеным на тое: што мы шануючы заслугі сына і бацькі Рачкоўскіх верна выкананыя ў нашым доме абдорваем іх лібертацыяй (вызваленнем. — *А. С.*), а звыш таго надаем пажыццёва сядзібу ў мястэчку Крошын, гэта значыць, пляц пад збудаванне, які

разам з агародам знаходзіцца паміж плябанскім шліталем і сядзібай Парфіновічаў, дзе была і ранейшая маёмасць Рачкоўскіх і зямля з сенажацямі ў межах такой колькасці, якую кожны жыхар мястэчка Крошына паводле новадапоўненага памеру і падзелу прыватных земляў з усім абмежаваннем гэтага ўчастка паводле Каморніцкага інвентару ўзгодненага з мапай, а таксама з вольным выпасам жывёлы на агульнай пашы мястэчка Крошын. Таму вольныя і правамоцныя Рачкоўскія і іх прамыя нашчадкі мужчынскага полу на гэтай зямлі жыць, ёю распараджацца і ўсялякую карысць ад яе атрымоўваць без ніякай павіннасці, прывязанай да зямлі і чыншавай аплаты ў двор, а таксама без ніякай з боку гэтага двара перашкоды, але з умовай, што з падушных манаршых падаткаў належных у тэрмін вылічэння з падушнага абкладання ў Крошынскі двор аплочваць не будуць. Пасля згасання іх роду па прамой лініі мужчынскага полу гэтая сядзіба нададзеная Рачкоўскім ленным з усім яе рыштункам натуральным правам вернецца ва ўласнасць Крошына, у чым мы і выдалі гэты пажыццёва даравальны дакумент Яну бацьку Мацея і Мікалаю сыну Рачкоўскім, які пры запрошаных сведках мы ўласнаручна падпісваем. Адбылося ў Крошыне 1836 года месяца чэрвеня трыццатага дня. На тым даравальным дакуменце подпісы і пячатку паставілі наступныя: Станіслаў Гедройц Юрага, былы паручнік Расійскага войска, Антаніна з князёў Радзівілаў Юрагавая вусна і на ўласныя вочы запрошаныя... Падпісваюся: Міхал Бранскі Ральцэвіч, вусна і на ўласныя вочы запрошаны сведкам для падпісання гэтага пажыццёва даравальнага дакументу... і Элеўтэры Міхайлоўскі сведчыць... Пра аўтэнтычны подпіс пана Міхала Рачкоўскага сведчу. Суддзя Верашчака.

Верно. Надсмотрщик Вызга.

1864 года Декабря 22 дня По Указу Его Императарскаго Величества Новогрудский Уездный Суд, в следствие состо-

явшагося сего числа журнального постановления, подлежащим подписом с приложением казенной печати удостоверяет, что настоящая копия выписана с книги верно и выдана дворянину Матвею Иванову Рачковскому.

Заседатель С. Керновский (?).

Надсмотрщик Вызга».

Паны Юрагі абдорваюць зямлёй і вызваленнем ад службы пры двары Яна і Мікалая Рачкоўскіх. Копію гэтага дакумента ў 1864 годзе ў Наваградскім павятовым судзе бярэ, напэўна, сын Яна Рачкоўскага. Не многім у тыя часы давалася такое вызваленне — па ўсёй Беларусі каля 500 сялянам. А давалася яно зыходзячы з указу Аляксандра I «О вольных хлебопашцах» 1803 года. Як бачым, сярод гэтых 500 ёсць вызваленыя і панамі Юрагамі. Як вынікае з «Акта», у Юрагаў у 1836 годзе ўжо быў новы «Каморніцкі інвентар, узгоднены з мапай». І напэўна ж новы абмер сваіх земляў і ўліку ўсяго, што на іх знаходзілася, яны зрабілі пасля падаўлення бунту. Мабыць, мясцовыя сяляне ўсё ж часткова былі запрыгонены. У гэтым дакуменце фігуруе яшчэ адзін чалавек, вядомы нам па падзеях 1828 года — суддзя Верашчака. Ці не родзіч ён Марыі Верашчака, каханкі Адама Міцкевіча?

Доўга яшчэ жылі ў Крошыне традыцыі бунтарства супраць прыгнятальнікаў. За антыпамешчыцкую агітацыю ў 1907 годзе паліцыя прыцягнула да адказнасці сялянаў С. Турко і С. Грыгаровіча (ЦДАКР СССР, ф. 12, 1907 г., воп. 12, спр. 8 570, арк. 4), якія напэўна ведалі і памяталі дзеда Багрыма і, магчыма, ад яго, як сведкі, чулі пра бунт летам 1828 года. Пасля Другой сусветнай вайны ўнукі Турко і Грыгаровіча ўспаміналі, як іх дзядоў забілі кіямі.

А вось яшчэ прыклады, прыведзеныя ў «ЛіМе» за 25 студзеня 1941 года, якія гавораць пра тое, што крошынцы ва ўсе гады мелі гонар, ненавідзелі ворага. «У 1921 годзе праз Крошын павінен быў прайсці на фронт, супроць наступаю-

чай Чырвонай Арміі, белапольскі браняпоезд «Гэй жа на Масква!». Камандаванне белапольскай арміі ўскладвала на гэты браняпоезд вялікія надзеі, але ён, дайшоўшы да Крошына, нечакана, спыніўся. Рэйкі перад ім на значнай адлегласці аказаліся разабранымі. Гэта зрабіў чыгуначны слёсар Станіслаў Лукашэвіч. Белапалякі абвалілі на ягоную хату агонь усяго браняпоезда. Хату адразу ахапіла полымем, і з яе выпаўз цяжка паранены слёсар. Да яго падбеглі санітары «Чырвонага крыжа» пры браняпоездзе і, сказаўшы сваякам: «мы яго вылечым у адзін момант», — панеслі з сабою. А праз некалькі дзён пад Баранавічамі, каля насыпу чыгункі, было знойдзена знявечанае подлымі гадамі цела героя-слёсара».

«Калі ў пятнаццацігадовага Пашкевіча памерла матка, і ён пайшоў да ксяндза Шышкі, той запрасіў за пахаванне 100 злотых. Найбольшай каштоўнасцю ў асірацелай гаспадарцы была карова, але і яна каштавала не больш 60 злотых. Кастусь рашыў пахаваць матку без ксяндза і разам з сястрой і суседзямі пайшоў капаць магілу. Неўзабаве на могілкі прыбег Шышка і, пагражаючы панам Богам і панам паліцыянтам, прымусіў дарослых суседзяў адысці. Ля магілы засталіся толькі сіраты. Яны выкідвалі зямлю наверх, а ксёндз нагой скідваў яе назад — ім на галовы. Першая не вытрымала трынаццацігадовая сястра Пашкевіча. Дзяўчынка заплакала і рванула ксяндза за палу сутаны. Абнаглелы ксёндз ударыў яе нагой у твар. І тады больш не вытрымаў Пашкевіч. Раззлаваны Кастусь выскачыў з магілы і што толькі ёсць сілы тройчы агрэў ксяндза лапатай па спіне. Польскі суд за такую знявагу мярзотніка ў сутане прысудзіў юнака да пяці гадоў турмы».

На заканчэнне роспаведу пра радзіму Паўлюка Багрыма да і пасля 1828 года хацелася б выказаць адну здагадку пра яго самога, а дакладней — пра ягонае паходжанне. Магчыма, «беларускі Шаўчэнка» (Максім Гарэцкі) паходзіў з тата-

раў. Па-першае — у Крошыне, як мы ведаем, жыло шмат крымскіх татараў, па-другое — кавальства было развіта асабліва сярод тых жа татараў, па-трэцяе — у 10 — 20-х гадах нашага стагоддзя прозвішча паэта гучала і пісалася *Бахрым*. І, нарэшце, як паказвае этымалагічны слоўнік беларускай мовы, прозвішча *Бахрым* альбо *Багрым* магло ўтварыцца хутчэй за ўсё ад старажытнаіранскага імя *Бахрам* (пераможны, які праганяе злога духа Урытру), ці ад цюркізму *бахрама* крымска-татарскае *тахтата* (вэлюм для жанчын), ці ад *багра* (пурпуровая фарба). У заходнеславянскіх мовах гэтага слова няма, і паходжанне ягонае няяснае, мовазнаўцы ж Менгес, Трубачоў стаяць за цюркскую крыніцу.

Але тое, што Паўлюк Багрым быў сваім паходжаннем з крымскіх татараў, — толькі здагадка. Наперадзе новыя росшукі, якія, магчыма, высветляць ягоную постаць з далёкіх гадоў мінуласці.

*1988*

## «МЯНЕ ЗРАБІЎ СЛУЦАК»

Як ні дзіўна, а «цвяток радзімы васілька» ткалі мужчыны. Вельмі мала імёнаў майстроў-чаляднікаў дайшло да нас: Тамаш Хаецкі, Язэп Барсук, Міхал Баранцэвіч, Янка Гадоўскі, Кананові́ч, Сянькевіч, Лойка. Тканне пояса было даволі працаёмкім, марудным працэсам. Адзін майстра за год мог выткаць 8 паясоў. Па прыблізных падліках, за 100 гадоў існавання слуцкай майстэрні іх было выткана каля 10 000.

На адным з канцоў слуцкага пояса ткалася залатой альбо срэбнай ніткай метка па-латыні «me fecit Sluciac» — мяне

зрабіў Слуцак, але не ўсе ведаюць, напэўна, што сёння ў самім Слуцку няма ніводнага пояса, ды і на тэрыторыі БССР іх нягуста.

Асноўная ж іх частка — «некалькі сотняў» — знаходзіцца ў запасніках маскоўскіх музеяў: Дзяржаўнага гістарычнага музея, Дзяржаўнага музея этнаграфіі народаў СССР, Рускага музея, значная колькасць у Эрмітажы. Захоўваюцца нашы паясы ў Чарнігаве, Львове, Кіеве, Вільнюсе... Мець сапраўдны слуцкі пояс нават музей самага высокага рангу лічыць за вялікі гонар. У многіх заходнееўрапейскіх музеях ім аддадзены самыя відныя месцы. Нават за акіян — у ЗША — у нацыянальны музей і прыватныя калекцыі трапілі слуцкія паясы. (Гэткім жа чынам, як і крыж Ефрасінні Полацкай, зроблены Лазарам Богшам у 1161 годзе ў Полацку. Дарэчы, Геназдзь Каханоўскі выявіў у Пятра Кепена, даследчыка расійскай гісторыі, звесткі, што радзіма Богшы — Случчына.)

А цікавасць да слуцкіх паясоў узнікла яшчэ ў другой палове XVIII ст., як звычайна, спачатку ў прыватных калекцыянераў. Першымі іх вартасць змаглі вызначыць князі Радзівілы, заснавальнікі музея старажытнасцяў у Нясвіжскім замку. Гэтаму ў многім загадкаваму музею пачатак быў пакладзены яшчэ ў першай палове XVI стагоддзя Мікалаем Радзівілам (1515—1565). Калекцыя старажытнасцяў Радзівілаў адлюстроўвала гісторыю Вялікага Княства Літоўскага. Захаванне гісторыі Бацькаўшчыны было адной з галоўнейшых ідэй стварэння «скарбцу». У канцы XVIII ст., калі ў яго трапілі слуцкія паясы, там ужо былі лепшыя ўзоры персідскіх — са сваімі нерухомымі арнаментамі.

Мясцовыя паясы пераўзыходзілі сваёй прыгажосцю і тонкасцю работы не толькі персідскія. Як падкрэслівалі многія, з імі не маглі зраўняцца ні лівонскія, ні кракаўскія, ні варшаўскія, ні валынскія «пасы», ані маскоўскія кушакі, якія на расійскіх кірмашах абдорваліся залатымі медалямі. На

агульнаеўрапейскім рынку дамінаваў слуцкі пояс. Ён быў эталонам і ў той жа час недасяжным узорам для ўсіх мануфактураў, у тым ліку і беларускіх у Жмігрудах (каля Горліц, у Радзівілаў), на Падляшшы (у князя Міхала Агінскага), у Карэлічах, Гародніцы і Ласосне (пад Гародняй) і г. д. Маскоўскія купцы часта выдавалі свае кушакі за замежныя, каб даражэй прадаць, але выдаваць іх за слуцкія, кошт якіх часам пераўзыходзіў 100 залатых рублёў, ніхто не адважваўся — такі вялікі аўтарытэт быў у іх. Тэхнічная і, у першую чаргу, мастацкая дасканаласць — вось асноўныя рысы слуцкага пояса. Такая дасканаласць узнікла на глебе высокаразвітага народнага мастацкага ткацтва. У слуцкіх паясах сабрана ўсё лепшае, што выпрацавана нашым народам у гэтым рамястве са старажытных часоў, нават з паганскіх, што засведчана археалагічнымі знаходкамі.

Калі ўжо гаворка зайшла пра традыцыі ткання слуцкіх паясоў, дык трэба заўважыць і нават аспрэчыць адну акалічнасць, на маю думку, істотную. Яшчэ з першых публікацый мінулага стагоддзя пра слуцкія паясы як творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ад аднаго аўтара да другога вандруе думка, што нібыта сваёй славе слуцкія паясы абавязаны армянам Яну Маджарскаму і яго сыну Лявону. Але гэта зусім не так. Да таго, як Ян Маджарскі на запрашэнне ваяводы Віленскага князя Казіміра Радзівіла прыехаў з украінскага горада Станіслава на Беларусь, майстроўня (яна называлася «персіярня») ужо існавала каля 20 гадоў, калі не больш, у Нясвіжы. Потым, калі памёр малодшы брат Казіміра Геранім Фларыян Радзівіл (1760 г.), уладальнік фабрыкі галуноў, пазументаў і іншых «залатых вырабаў» у Слуцку, нясвіжская персіярня Казіміра Радзівіла неўзабаве аб'ядналася, дакладней, паглынула фабрыку брата-нябожчыка, прымусіла яе працаваць на сябе, гэта значыць, выпускаць паясы. Назва «слуцкія» за імі ў той час яшчэ не замацавала-

ся, наогул — не ўжывалася, хутчэй за ўсё з добрага паўдзесятка гадоў яны па інерцыі ўсё яшчэ называліся «нясвіжскімі».

Ян Маджарскі прыйшоў на прадпрыемства, якое ўжо больш-менш цвёрда стаяла на нагах. Прынамсі, у 1758 годзе, калі ён прыехаў у Беларусь, яно выраблялa паясоў на 2380 злотых за год. Былі свае мясцовыя майстры, былі ўжо збольшага выпрацаваны свае нацыянальныя ўзоры паясоў. Няхай у іх не было столькі залатой ніткі, тэхнічнай якасці, якія прынёс з сабою Маджарскі, што з'яўляецца яго несумненнай заслугай, але яны ўжо былі самабытнай з'явай нават у маштабах еўрапейскага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у іх ужо жыла душа тутэйшага народа.

У Манькоўскага, даследчыка «польскіх пасоў», гэта значыць, паясоў Рэчы Паспалітай, у складзе якой была і Беларусь, ёсць сведчанні аб тым, што яшчэ ў 1743 годзе Міхал Казімір Радзівіл дарыў вырабы сваёй мануфактуры, паясы, паважаным замежным гасцям, чым выказваў ім вялікую пашану. І нават калі госць быў з Францыі, краіны — заканадаўцы модаў, ён, прыехаўшы дамоў, апранаў беларускі пояс на самыя пышныя свецкія балі і прыёмы, грэбуючы паясамі айчыннай вытворчасці. Ужо ў 50—60 гады XVIII ст. з нашымі паясамі (а кошт кожнага асобна ў залежнасці ад прыгажосці і якасці быў ад 50 да 100 залатых рублёў, альбо 300—600 злотых, альбо 20—40 дукатаў) не маглі канкураваць нават персідскія. Наступіла «эра» слуцкага пояса, росквіт якой прыпаў на 70-я — першую палову 90-х гадоў XVIII ст.

Якраз у гэты перыяд росквіту слуцкай мануфактуры яе кіраўніком, а фактычна і гаспадаром (Маджарскія арэндавалі яе ў Радзівілаў) з'яўляецца Лявон Маджарскі, які з маленства жыў і выхоўваўся сярод беларусаў і, у адрозненне ад бацькі, напэўна, лічыў сябе прадстаўніком гэтага народу. Менавіта пры ім слуцкі пояс набыў рысы, уласцівыя бела-

рускаму нацыянальнаму ткацтву і шмат у чым пазбавіўся ўсходніх матываў, якія асабліва праяўляліся ў сярэдніку (сярэдняя частка пояса) у выглядзе ўзору лускі альбо гароху па ўсім полі. Замест гэтага аднастайнага ўзору Лявон Маджарскі распрацоўвае і ўводзіць у сярэднік папярочныя палосы рознай шырыні, колеру і арнаментацыі, да таго ж матывы арнаментацыі — тутэйшыя, нацыянальныя. Лявон Маджарскі заўважыў і тое, што ў беларусаў спрадвечная традыцыя ўпрыгожвання святочнага, і не толькі святочнага, адзення махрамі, кіціцамі (кутасікамі) і г. д. Яны служылі не толькі аздабленнем, але выконвалі і абрадавыя функцыі. Нездарма махры і кіціцы перайшлі ў царкоўнае культавае адзенне менавіта з народнага тканага і наогул з ткацтва (паясы, ручнікі, абрусы...). Гэта няцяжка заўважыць, калі прыгледзецца да дрэварытаў святых у беларускіх старадруках (да прыкладу, адзенне Святога Калісты ў Евангеллі (Еўе, 1616 г.) альбо Васіля Вялікага ў Часаслове (Вільня, 1617 г.).

У адной з першых беларускіх друкаваных кніг — «Кнізе Ісуса Сірахава» (Прага, 1517 г.) на аўтапартрэце Францішка Скарыны добра відаць даматканы ручнік з шыкоўнымі махрамі. Ручнік у кампазіцыі аўтапартрэта Скарыны — гэта свядома ўведзены сімвал прыналежнасці Францішка Палачаніна і яго асветніцкай дзейнасці народу. І, пэўна, не выпадкова самае галоўнае для яго ў жыцці — кніга разгорнута на ручніку. Паколькі ж аснова ў залататканых і срэбнатканых слуцкіх паясах была ядвабная, таму ядвабныя махры на такіх паясах выглядалі недарэчна. Па гэтай прычыне іх рабілі, у залежнасці ад колеру пояса, залатымі альбо срэбнымі і ўжо гатовыя прышывалі. Гэта была апошняя аперацыя пры вырабе пояса. Пры Лявоне Маджарскім (1778 — 1807) махры сталі традыцыйнай, абавязковай з'явай у слуцкіх паясах. Пры Маджарскім-бацьку яны насілі нетрадыцыйны характар.

У 1790 годзе Лявон Маджарскі «за развіццё ручнога ткацтва» атрымаў шляхецтва. Напаследак гаворкі пра бацьку і сына Маджарскіх трэба зазначыць цікавы факт: з іх роду выйшаў Станіслаў Манюшка, жыццё і творчасць якога цяжка ўявіць без Беларусі, дзе ён нарадзіўся (фальварак Убель пад Мінскам), правёў юнацкія гады.

Слуцкая персіярня перажыла тры падзелы Рэчы Паспалітай. Першыя два (1772 г., 1793 г.) яе амаль не закранулі. Адзінае, што змянілася, — гэта лацінскую метку «me fecit Sluciae» давялося замяніць на славянскую «въ граде Слуцке», а на другім канцы пояса — «Лео Мажарскій». Але пасля трэцяга падзелу становішча рэзка мяняецца. Слуцк становіцца павятовым горадам Расійскай імперыі. Усялякае імкненне да нацыянальнай самабытнасці з боку мясцовага насельніцтва афіцыёзнымі носьбітамі русіфікатарскай палітыкі разглядалася як польскі нацыяналізм (пра Беларусь і беларусаў як нацыю асабліва пасля 1840 года наогул забаранялася гаварыць). Дайшло да таго, што было забаронена нацыянальнае адзенне. У адрозненне ад расійскага дваранства, якое пад уплывам Заходняй Еўропы адмовілася ад свайго нацыянальнага адзення, беларуская шляхта, асабліва свядомая, упарта не жадала гэтага. І не толькі заможная шляхта, а і ўсякі беларус не мог сябе ўявіць без звычайнага тканага пояса, які быў абавязковым атрыбутам у ягоным адзенні і спадарожнічаў яму ад першых дзён нараджэння. Вось як піша пра гэта Л. І. Якуніна ў альбоме «Слуцкія паясы»: «У беларусаў пояс меў важнае значэнне ў абрадах, звязаных з радзінамі і хрысцінамі. Маці, спавіўшы нованароджанага, перавязвала яго поясам. Такім чынам спавітае немаўля неслі хрысціць. Зараз жа пасля спраўлення абраду хросная маці першы раз апранала немаўля ў кашулю, полкі і пояс. Гэтыя рэчы з'яўляліся падарункамі ад хроснай маці. Пасля частавання ў хаце парадзіхі гаспадыня хаты адорвала кума і куму. Кожнаму да-

валася па кнышы, загорнутым у кавалак новага радна і перавязанага ваўняным поясам».

Нашэнне слуцкіх паясоў было забаронена і нават каралася. Але паясы насілі ўсё адно. Лічылася вялікім геройствам паказацца на людзях у срэбным поясе з выявамі на канцах чырвонай Пагоні. Гэтым самым шляхта падкрэслівала не толькі вернасць нацыянальным традыцыям, але і сваю незалежнасць. Аднак далей дэманстрацыі яна не ішла, хоць слуцкія паясы ўсё ж былі акроплены крывёю: першы раз, у 1812 годзе, крывёю тых, хто спакусіўся на абяцанні Напалеона. Як вядома, Банапарт паабяцаў той частцы беларускай шляхты, якая стане на яго бок, аднаўленне Вялікага Княства Літоўскага. Другі раз кроў пралілася пад час паўстання 1831 года, калі многія камандзіры паўстанцкіх атрадаў, падперазаныя слуцкімі паясамі, вялі ў бой сваіх вояў.

Пасля паўстання Каліноўскага паясы, тады ўжо як экспанаты музеяў, наогул трапілі ў «немилость» і, як многія экспанаты ў прыватных і грамадскіх зборах старажытнасцяў, прызнаваліся «вредными для благополучия Российского государства», канфіскоўваліся і вывозіліся ў Маскву. Такі лёс, да прыкладу, напаткаў зборы Віленскай археалагічнай камісіі. А грамадству гэтыя меры тлумачыліся як вымушаная барацьба з «польской интригой».

У той час, гэта значыць, у другой палове XIX стагоддзя, слуцкія паясы сталі аб'ектам збору як антыкварныя каштоўнасці. 17 красавіка 1856 года быў адчынены Віленскі музей старажытнасцяў. У яго экспазіцыю экспанаты ішлі з усёй Беларусі. Сярод ахвяравальнікаў былі яшчэ зусім малады Францішак Багушэвіч, Уладзіслаў Сыракомля, выдавец Казімір Буйніцкі і шмат хто іншы. Сярод ахвяравальнікаў — і нехта А. Кабылінскі са Случчыны. Магчыма, ён перадаў музею паясы. Крыху раней узніклі прыватныя музеі ў Веліжы Віцебскай губерні, Чарэі, Слуцку, Віцебску, Мінску. У маён-

тку Станькава пад Мінскам заснавалі хатнюю калекцыю графы Чапскія. Вядома, слуцкія паясы займалі самыя ганаровыя месцы ў гэтых зборах. Не маглі яны не трапіць у багатыя калекцыі такіх беларускіх родаў, як Сапегі, Храптовічы. А тыя ж Радзівілы апроч Нясвіжа мелі калекцыі ў Капылі, Карэлічах, Цімкавічах.

Да апошняга падзелу Рэчы Паспалітай наша зямля, культура разрабоўваліся польскімі і рускімі памешчыкамі. Ішла непрыхаваная канкурэнцыя — хто болей ухопіць. Пасля 1795 года манаполія на рабаванне нашай культурнай спадчыны поўнасцю перайшла ў рукі культурна-асветніцкіх і навуковых устаноў Расійскай імперыі і, яшчэ горш, у рукі генералаў, якія, карыстаючыся генеральскім мундзірам, беспакарана бралі з калекцый тое, што ім падабалася. Пра гістарычную каштоўнасць гэтых рэчаў яны не задумваліся. Не хацелі задумвацца. І гэта працягвалася амаль два стагоддзі.

Цяжка знайсці краіну ў свеце, дзе б не было нашых культурных і гістарычных каштоўнасцяў. Зусім нядаўна да нашай рэспублікі дайшла чарговая вестка: на адным з аўкцыёнаў Заходняй Еўропы быў прададзены з малатка слуцкі пояс. І за такую суму, што за яе ў свой час можна было б купіць усю слуцкую персіярню.

Нягледзячы на тое, што нашых славутых паясоў па ўсім свеце раскідана каля трох сотняў, а гэта не так ужо мала, калі ўлічыць усе жахлівыя войны, што прайшлі за гэты час, кожны з іх з'яўляецца сапраўдным творам мастацтва, і не толькі ў маштабах нашай рэспублікі. Таму балюча згадваць пра такія варварскія адносіны да слуцкіх паясоў, як іх разразанне напалам спекулянтамі. «У Беларусі пояс з'яўляўся ахвярнай рэччу, якая прыносілася ў дар па абяцанні. Многа такіх паясоў паступала як «ахвяры» ў цэрквы і касцёлы...» (Л. І. Якуніна, «Слуцкія паясы»), а там іх бязлітасна рэзалі краўцы, кроячы з іх рэчы і адзенне культавага ўжытку. Такім

чынам знішчаліся паясы. Дзесяткі, а магчыма, сотні паясоў (тут цяжка вызначыць дакладную лічбу) назаўсёды пахаваны ў зямлі разам з іх уладальнікамі. А ў 1812 годзе слуцкія паясы не толькі знішчыла вайна, не толькі яны вывозіліся ў Францыю, іншыя краіны Заходняй Еўропы, але і сама слуцкая персіярня была разбурана братам Напалеона Жэромам Банапартам, вестфальскім каралём, пасля чаго пачынаецца яе хуткі заняпад.

І ўсё ж тое, што было зроблена ёю, прынесла сусветную славу Беларусі.

Вось такая гісторыя славы і ганьбы слуцкіх паясоў. Таму і не дзіўна, што сёння іх на тэрыторыі Беларусі вядома столькі, што і ў дзесятак не ўбярэш. Я распавяду пра тыя, якія пашчасціла ўбачыць сваімі вачыма. Адзін у экспазіцыі Музея старажытнага беларускага мастацтва АН БССР. Праўда, ён, невядома з якой прычыны, разрэзаны па даўжыні, а потым зноўку сшыты. Колькі год назад тады яшчэ студэнт БДТМІ, будучы скульптар Генік Лойка на гарышчы сваёй хаты знайшоў шыкоўны залататканы, але, на жаль, пашкоджаны слуцкі пояс. Зараз ён знаходзіцца ў стадыі рэстаўрацыі, а потым зойме пачэснае месца ў Музеі Максіма Багдановіча.

А яшчэ два слуцкія паясы, амаль невядомыя шырокаму колу аматараў гісторыі і мастацтва Беларусі, ужо каля дваццаці гадоў знаходзяцца ў Маладзечанскім абласным краязнаўчым музеі. Вось што расказаў пра гісторыю іх паступлення ў музей былы яго супрацоўнік Генадзь Кахсаноўскі, кнігам якога я вельмі ўдзячны за некаторыя звесткі, скарыстаныя ў артыкуле.

— Гэтыя два паясы прыкладна ў адзін час паступілі ў музей. У 1968 годзе дырэктарам Дзяржаўнага гістарычнага музея ў Маскве быў Васіль Гаўрылавіч Вяржбіцкі. Я ведаў, што ён беларус і, нават нягледзячы на маскоўскае жыхар-

ства, застаўся патрыётам Бацькаўшчыны. У гэтым я ўпэўніўся, калі ўзяў простую даматканую, але прыгожую пасцілку з нашых фондаў і паехаў да яго, каб абмяняць на сапраўдны слуцкі пояс. Васіль Гаўрылавіч з разуменнем справы, шчыра прыняў мяне. Мы дамовіліся, што ў вышэйшыя інстанцыі ён дасць дакумент-згоду на просты пояс, а калі там падпішуць, ахвяруе сапраўдны залататканы, літы. Вось такім чынам вярнуўся на Радзіму пакуль першы слуцкі пояс. Сорам сказаць каму: у нас няма музея вырабаў слуцкай мануфактуры. Другі пояс гадоў васемнаццаць назад прывезлі ў Маладзечна з Нясвіжа. Мы, некалькі супрацоўнікаў нашага музея, разам з касцёльнікамі перабіралі інвентар у Нясвіжскім фарным касцёле, там і адшукалі яго. Дакладней, адпаролі ад арнату каталіцкага святара.

Слушную думку выказаў кандыдат філалагічных навук Генадзь Каханоўскі аб стварэнні музея ткацкіх вырабаў слуцкай мануфактуры. Але для гэтага напачатку іх трэба вярнуць на Радзіму. Вось адзін са шляхоў. Як вядома, Беларускі дзяржаўны мастацкі музей мае адзін з самых багатых збораў рускага жывапісу, як у экспазіцыі, так і ў фондах. Думаецца, маскоўскія музеі і ленінградскі Эрмітаж пойдуць на разумны культурны абмен, карысны як для беларускай культуры, так і для рускай. І першае слова ў гэтай справе за нашым Дзяржаўным музеем і Міністэрствам культуры БССР.

*1988*

## ПРЫГОННЫ ПАЭТ*

Паўлюк Багрым з'явіўся пачынальнікам новай беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Хіба, можа, Ян Баршчэўскі яго крыху апярэдзіў сваёй «Размовай хлопаў», якую Паўлюк ведаў на памяць. Багрымазнаўства, як і літаратура гэтага стагоддзя, — гэта люстэрка, у якое мы глядзімся і цьмяна бачым нашых папярэднікаў, а таму і сябе.

П. Багрым — самы загадкавы паэт ва усёй нашай паэзіі. Не адзін літаратуразнаўца намагаўся знайсці пра яго хоць якія-небудзь згадкі ў архівах Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі. Амаль што марна. Ён — паэт аднаго верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...», напісанага ў 15-гадовым узросце падчас бунту сялян мястэчка Крошын паблізу Баранавіч у 1828 годзе супраць запрыгоньвання мясцовым панам Юрагам. Кажуць, быццам бы ў яго тады адабралі сшытак з вершамі, а самога адправілі ў рэкруты на 25 гадоў. Можа, і праўда, і гэтыя вершы дагэтуль пыляцца дзе-небудзь у архівах царскай ахранкі?

Пасля 1828 года наступныя звесткі пра Паўлюка з'яўляюцца толькі ў 1864 годзе, пасля паўстання Каліноўскага, калі ён, 52-гадовы, бярэцца шлюбам з 28-гадовай удавой Карне-

---

* Гэты і наступныя артыкулы напісаныя А. Сысам для анталогіі беларускай паэзіі, якую ён вёў у газеце «Звязда» ў 1998 годзе. У кожным выпуску даваўся адзін верш прадстаўленага паэта. Падамо тут назвы выбраных А. Сысам вершаў: П. Багрым — «Зайграй, зайграй, хлопча малы...», Я. Янішчыц — «Ля ложка хворай маці», У. Караткевіч — «Нявесце Каліноўскага», У. Дубоўка — «Ты руку сваю забінтавала», М. Стральцоў — «Згасаеш? Ну згасай!..», Д. Бічэль-Загнетава — «На жыццё», К. Тураўскі — урывак са «Слова ў нядзелю св. Фамы», Пімен Панчанка — «Сінія касачы», М. Купрэеў — «Ён і Яна», М. Гусоўскі урывак з «Песні пра зубра», В. Маракоў — «Жыццё — як мора-акіян...»

ліяй Шышлоўскай. Дзе ён быў усе гэтыя гады — мы пакуль не ведаем. Аніхто не ведае таксама, якімі шляхамі пайшла б нашая літаратура, калі б Багрым пісаў, развіваў свой талент. А я перакананы ў тым, што ён пісаў, бо калі чалавеку дадзена, дык значыць — на ўсё жыццё.

Талент быў несумненны. Нездарма яшчэ Максім Гарэцкі ў сваёй першай хрэстаматыі параўноўваў П. Багрыма з Шаўчэнкам. Нездарма ж ягонымі сябрамі і гасцямі ў Крошыне былі Дамейка, Тамаш Зан ды іншыя. Талент узрос не на пустым месцы, бо традыцыі адукаванага Крошына былі даўнія. Яшчэ на пачатку XVII стагоддзя хлопцы з мястэчка навучаліся ў Ягелонскім універсітэце.

Магчыма, «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» — аўтабіяграфічна-трагічны верш, але і па тых звестках, якія мы маем, дык і сабе хочацца пажадаць такога жыцця, якое пражыў «прыгонны паэт».

Дзякуючы ксяндзу Каралю Жураўскаму, які служыў у Крошынскім касцёле, мы толькі ў апошнія гады даведаліся дакладную дату Багрымавага нараджэння: 2 лістапада 1812 года. Памёр жа ён, а дакладней, як сцвярджае паваенны эмігрант-літаратар Юрка Віцьбіч, у 1891 годзе, забіты раз'юшаным быком. А яшчэ «прыгонны паэт» пазычаў уладальніку Крошына Святаполку Завадскаму вельмі вялікія грошы, а яшчэ Карнелія нарадзіла Багрыму дзяцей, якія ўцяклі ад першай імперыялістычнай вайны, і след іхні згубіўся, можа, дзе ў Расіі.

Паўлюк Багрым быў адмысловым кавалём. Жырандоля, выкаваная ім, дагэтуль упрыгожвае Крошынскі касцёл, з'яўляецца творам мастацтва еўрапейскага значэння. Пасля вайны з яе былі згубленыя пяць алавяных жаўрукоў, і я шчаслівы, што знайшоў іх на адным з гарышчаў мястэчка. Перапісваўся з цяпер ужо з нябожчыкам ксяндзом Каралем Жураўскім, ён мне даслаў шмат каштоўных матэрыялаў па гісторыі Крошына, яго людзей у мінулым.

На жаль, аніводнага партрэта альбо здымка паэта не захавалася, ёсць толькі фантазіі ягонага аблічча сучасных мастакоў. А па ўспамінах сучаснікаў Багрым быў вельмі мажным, імпазантным дзецюком.

*1998*

## «Я ПАВІННА АХОЎВАЦЬ КАРЭННІ ДРЭВА СВАЙГО»

Люблю Жэню Янішчыц і, як мне здаецца, у нас любоў была ўзаемнай з першай нашай сустрэчы. Прысвяціў ёй два вершы, адзін з іх пакуль нідзе не надрукаваны. Пасля выхаду маёй першай кніжкі, якую яна рэдагавала разам з Анатолем Грачанікавым, за тыдзень да яе трагічнай смерці ці не дзве гадзіны з ёю размаўлялі. Якая яна была шчаслівая, як свяцілася, як прыгожа распавядала пра сына, пра новую кватэру над Свіслаччу, пра задумы ў паэзіі, пра мары на наступнае жыццё.

Жэня, Жэнечка Янішчыц... Самая шчымлівая, трапяткая наша паэтка. Тады, пры апошняй нашай сустрэчы, падарыла мне выбранае са сваёй паэзіі за 20 гадоў. Можна было б амаль кожны пяты яе верш даваць у анталогію, а мне лёг на душу самы ранні — «Ля ложка хворай маці». Сёння ўначы зноў плакаў над ім і нават не таму, што ў мяне таксама маці, як зязюля, хворая-хворая, сядзіць адна ў хаце. Калі «дзіцяці Палесся» задалі пытанне: «Самае моцнае ўражанне жыцця, якое пакінула след у вашай паэзіі?», дык Жэня адказала так, як, мабыць, думае кожны з нас:

«Жыццё маёй маці. Я заўсёды здзіўляюся яе ашаламляльнай энергіі ў зграбнай, прыгожай ды спрацаванай постаці... Яе лёс мог бы скласціся зусім іначай, каб не было вайны. Сем класаў польскай школы, скончаных на «выдатна»! Адукава-

ны і любімы муж, якога фашысты расстралялі ў 44-м годзе за сувязь з партызанамі. Цудам ацалелая, з грудным дзіцем на руках. Нечаканая смерць затраўленага бацькі — майго дзеда. Бескарыслівае служэнне сваім малодшым сёстрам: вывучыліся, дзякуй. Усё жыццё — праца, карпатлівая і чэсная праца...»

Жэні ўжо няма, а маці Марыя Андрэеўна жывая, сын расце. Дай Бог ім здароўя. Паназывалі яе імем вуліцы і ў Пінску, і ў вёсцы, стварылі сябры музеі, а Жэні ўсё адно няма. Толькі памяць, толькі вершы. Добрая памяць, душэўныя, зямныя вершы, хоць сама заўсёды лунала ў нябёсах.

*1998*

## УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ

22 сакавіка — прыкры, сумны дзень у нашай гісторыі. У гэты дзень прынародна на Лукішкаўскім пляцы ў Вільні быў павешаны адзін з кіраўнікоў паўстання 1863 г. супраць царскага панавання ў Беларусі, Літве і Польшчы Кастусь Каліноўскі. Быў загублены не толькі рэвалюцыянер, але і паэт. У апошнія хвіліны свайго кароткага жыцця ён загаварыў са сваімі суайчыннікамі паэтычным словам, пакінуўшы пасля сябе адзіны вершаваны твор «Марыська чарнаброва, галубка мая!..» — бадай, самы яркі ўзор грамадзянскай лірыкі ў нашай паэзіі мінулага стагоддзя. Так, была рэальная Марыська — Марыя Грэгатовіч, дачка гаспадыні адной з кватэр у Вільні, дзе нелегальна жыў Каліноўскі, але гэта імя таксама было метафарай Радзімы.

У кожнага народа ёсць свой нацыянальны герой. Яго памятаюць, яго шануюць. Амаль што ніводны творца ў нашым

мастацтве не абмінуў асобу Кастуся Каліноўскага. Што ж датычыцца паэтычнага слова, дык тут нельга не захапляцца драматычнай паэмай Аркадзя Куляшова «Хамуціус». Але ж яшчэ ніхто так не напісаў, ды, мабыць, і не напіша пра Віта-жэнца (лац. Vita — жыццё; пажэнены з жыццём), як Уладзімір Караткевіч у, на жаль, няскончаным рамане «Каласы пад сярпом тваім». Караткевіч усё сваё свядомае жыццё раўняўся на Каліноўскага. Вышэйшага аўтарытэту для творцы не існавала.

Вобраз дзяўчыны-нявесты, дзяўчыны-Радзімы, атрыманы ў спадчыну ад Кастуся, стаўся ці не галоўным у творчасці нашага сучасніка. Высакародны вобраз, які патрабаваў, патрабуе і будзе патрабаваць самаахвярнасці лепшых сыноў Зямлі пад белымі крыламі.

*1998*

## УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА

Гляджу і не магу налюбавацца на гэтага чалавека.

Кожная рысачка ягонага твару — гэта ўвасабленне нашай паэзіі.

Сёння з раніцы сустрэў самага галоўнага архіварыуса гісторыі беларускай літаратуры — Адама Мальдзіса. Балазе, жывём побач. Ён мне распавёў, што жывога Дубоўку бачыў усяго тры разы. Што паэт быў вельмі інтэлігентным, жывым чалавекам, не зважаючы на тое, што праседзеў у сталінскіх канцлагерах больш за 20 гадоў і, дарэчы, нікога не «заклаў». Што Уладзімір Караткевіч яго называў не інакш як Патрыярхам.

Шкада, у анталогіі змяшчаецца толькі адзін верш. А так бы я надрукаваў усяго Дубоўку. «О, Беларусь, мая шыпшына...» — гэта ён напісаў пра сябе і пра нас.

Верш «Ты руку сваю забінтавала» паэт напісаў у 24 гады. Верш трошачкі нязграбны. Гэта па маладосці. Але як шчыра, як шчымліва, як прыгожа! Быццам бы Кроў...

*1998*

## МІХАСЬ СТРАЛЬЦОЎ

Днямі па дарозе са спектакля ў Купалаўскім тэатры ў мяне скралі торбу. Думалі, мабыць, там што каштоўнае альбо смачнае. А самым «смачным» у валізцы былі вершы Міхася Стральцова. Дагнаў я гэтых «зладзюг». Аказаліся звычайнымі падшыванцамі, безнагляднымі падлеткамі. Пачытаў ім паэта. Здаецца, убачыў у іх вачах віну і раскаянне.

Стральцоў сам па жыцці аніколі анічога не краў, тым болей у паэзіі. Наадварот, у 70-я гады ў яго скралі самае галоўнае — радасць жыцця, калі заперлі ў мазырскую лячэбна-папраўчую калонію. Зрабілі ізгоем. Мажліва, з-за гэтага ён і згас...

Кніжкі я вярнуў у бібліятэку. Вазьміце і вы пачытайце. Асабліва апошні ягоны прыжыццёвы зборнік «Мой свеце ясны». Не трэба прыхарошваць паэта — гэта пра «мемуарыстаў». МіхасьСтральцоў — нармалёвы беларускі паэт. Гэта на мой густ, на мой «чунь і лапаць». Але ён і сам ведаў сабе цану. У лісце да маскоўскай перакладчыцы ягонай прозы Валянціны Шчадрыной 17 красавіка 1982 года пісаў: «...Так веселим себя и так утешаемся. А Вы вспоминайте там меня, пожалуйста, при пасхальных куличах, верьте в воскресение души

человеческой и в благодать от содеянного добра. Сим победиши, и сим опять же утешимся! Благо Вам!».

*1998*

## ДАНУТА БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА

Увогуле, паэзія — гэта мужчынская справа. Але, як і паўсюль у жыцці, бываюць выключэнні. Спачатку, яшчэ ў студэнцкія 80-я гады, Данута Бічэль-Загнетава мяне здзівіла сваімі вершамі, і я паехаў да яе ў Гародню пабачыць жывую. Вельмі прыемна ўразіла і жывая. Век не забудуся, як мы разбудзілі гадзіны ў дзве ночы ключніцу Каложскай царквы. Бабулька, ведаючы і паважаючы Дануту, пусціла нас у святыню. Што я тады адчуваў — словамі не перадаць... А сама паэтка з'яўляецца захавальніцай яшчэ адной гарадзенскай святыні — Дома-музея Максіма Багдановіча.

Колькі Данута Янаўна за свае гады перажыла шчасця ды гора — адна яна ведае ды, можа, яшчэ блізкія сябры. Жыццё і паэзія для яе — сінонімы, і шчырэй пра гэта не скажаш, як яна ў сваёй «Споведзі». Гэта толькі невялічкія выцінкі прадчування вершаў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы Дануты Бічэль-Загнетавай:

«Да мяне прыходзіць натхненне, калі не магу стрымаць болю. Боль перапаўняе істоту — і ўжо няма трывання, аддаю па расінцы больш маўклівым словам, адзіным верным сябрам сваім у такім выпадку».

«За кожны верш плата — жыццё: спаленыя нервы, бяссонныя ночы, слёзы і цярпенне. З-за вершаў даводзіцца адмаўляцца ад многіх жыццёвых асалод. Ці варты яны таго?..»

«Для мяне шчасце не спрыяе творчасці, яно ўзнімае душу на сёмае неба, дзе доўга не гасцююць, а зваліўшыся ўніз, можна моцна пабіцца — (і такім чынам) шчасце канчаецца болем, які спрыяе натхненню. Паэзія не забяспечвае роўнай дарогі, спакою. У паэтаў сцяжыны крутыя, зыбучыя, цёмныя, з калдобінамі, асветленыя толькі месяцам і зоркамі...».

*1998*

## КІРЫЛ ТУРАЎСКІ

Кірыл Тураўскі! Златавуст раніцы беларускай паэзіі. Калі чую гэтае імя — мне ўяўляецца мудрая залатая славянская пчала.

Яшчэ юнаком Кірыл пастрыгся ў манахі. Так і адышоў з гэтага свету манахам роднага слова, адлюднікам дзеля людзей.

Сапраўднага, свецкага імя Тураўскага мы не ведаем, а манаскае імя — Кірыл — ён узяў сабе сам, і тлумачыцца яно з грэцкай мовы як «валадар». У гэтым ёсць знак, сімвал — з нараджэння юнак ведаў сваю абранасць. А можа, і праўда ён напісаў «Слова пра паход Ігаравы»? Прынамсі, Кірыл Тураўскі верагодны паэт, якому па сілах было гэта зрабіць у цікавым XII стагоддзі. Да нас дайшло восем «Слоў», або казанняў, тры прытчы, каля трыццаці малітваў і некалькі канонаў святара.

Ён кананізаваны праваслаўнай царквой. Памяць аб Кірыле Тураўскім адзначаецца 28 красавіка.

Ягоныя «залатыя вусны» самыя першыя пацалавалі нашую паэзію, дабраславілі і нас — наступнікаў роднага сло-

ва. З Вялікаднем вас, дарагія суайчыннікі! Мір і свята ў вашыя хаты!

*1998*

## ПІМЕН ПАНЧАНКА

Пімен Емяльянавіч Панчанка з'явіўся на свет 23 жніўня 1917 года ў Эстоніі, у горадзе Таліне. Ягоныя бацькі — бедныя беларускія сяляне — Емяльян Арцёмавіч і Дар'я Факееўна — ураджэнцы вёскі Гедэйкі Ашмянскага павета, нарадзілі «багатага» сына. Багатага на паэтычны дар. Не будзем пералічваць усе ўзнагароды ды званні Пімена. Так яго звалі і старэйшыя, і маладзейшыя сябры па пяры. Узгадаем толькі адно званне — народны, любімы народам паэт — і ніхто яго не аспрэчыць.

На фотаздымках крыху прыжмураныя, з сялянскай усмешлівай хітрынкай мудрыя беларускія вочы. Іх я запомніў яшчэ са школьных хрэстаматый. Іх такімі я ўбачыў і пры першай нашай сустрэчы. Але маленькая перадгісторыя.

У 1989 годзе Пімен Панчанка ў газеце «Літаратура і мастацтва» змясціў верш «Развітанне», які ўскалыхнуў сваёю адкрытасцю ці, можа, нават асуджанасцю нашу інтэлігенцыю, а некага і абурыў. Мяне, здаецца, таксама. Быў я тады маладым, толькі ўваходзіў у літаратуру. А «Развітанне» панчанкаўскае было з Радзімаю, з моваю: «Родны Янка Купала, Вы пісалі: / «Я веру — настане...» / Дарагі мой Іван Дамінікавіч, / Не, не настане! / Гэта ўжо не світанне, / Гэта наша настала змяркканне, / Гэта з мовай маёй, / Гэта з песняй маёй / Развітанне».

Не ўстрымаўся нават, каб не паўшчуваць сябрука, Васіль Быкаў. Якая палеміка ўсчалася на старонках друку ды і ў простых беларускіх хатах! Маўляў, калі ўжо «народны» выракаецца, дык што тады рабіць нам, звычайным смяротным?

Мудрыя вочы, мудрыя радкі зрабілі сваю справу. Да праблемы заняпаду мовы, культуры была прыцягнута, як ніколі, увага грамадскасці, урада...

Паўшчуваў па-сыноўску і я паэта вершам у адказ.

А неўзабаве Пімен Емяльянавіч у чарговы раз злёг у бальніцу. Справы былі сур'ёзныя. Я ўвесь час адчуваў і сваю віну за ягоную хваробу. Хацелася пабачыцца, павініцца. Сабраліся мы з кветкамі чалавек пяць з Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» і прыйшлі да майстра. Аніякай крыўды, аніякай прыкрасці ні ў словах, ні ў паводзінах Пімена і блізка не было. Толькі радасць і замілаванне маладою зменаю. Шкада, што не было ў нас з сабою дыктафона. Можа, гадзіны тры Пімен Емяльянавіч апавядаў нам пра жыццё. Асабліва пра свой ваенны паход да самага Берліна. Было гэта вясною, напярэдадні 9 Мая. Мабыць, таму яму ўспамінаўся больш за ўсё ваенны час, сябры па зброі і пяры. Чытаў нам шмат вершаў. І на памяць усімі любімыя «Сінія касачы».

*1998*

## МІКОЛА КУПРЭЕЎ

Ці лёгка жыць усё жыццё з паэзіяй у галаве? Усё жыццё, таму што сам так захацеў, таму што так здарылася. Мікола Купрэеў — самы міфічны з жывых беларускіх паэтаў. Калі б не хворыя ногі, ён бы і зараз бадзяўся па Беларусі. Губляў бы

ў невялікіх палескіх мястэчках рукапісы новых кніжак. Дзянёк пагараваў бы ды і зноўку выношваў новыя вершы.

Першую паэтычную кніжку «Непазбежнасць» у 30-гадовым узросце ён выдаў у 1967 годзе. А тады — маўчанне больш чым 20 гадоў. Быў паэт — і раптам знік. А ўвайшоў у літаратуру непадобна ні на кога, свежым перадпавальнічным ветрам.

І толькі ў 1995 годзе на свет з'яўляецца другая кніжка Міколы Купрэева — «Правінцыйныя фантазіі». Хітры назоў. Назоў — падсмейванне з сябе і з калег-паэтаў. Такую «правінцыйную» паэзію далёка не ў кожнай сталіцы сустрэнеш! Неспрактыкаванаму чытачу яна здасца па першым прачытанні наіўнаю, вельмі ўжо адкрытаю. Але за лёсам творцы, за гэтым «наівам» стаяць сапраўдная інтэлектуальнасць, інтэлігентнасць. Нездарма зачытанымі ды паважанымі ў Купрэева з'яўляюцца Юліян Тувім, Рокуэл Кент, Гарсія Лорка, Пітэр Брэйгель (Мужыцкі). А міфалагічнасць і метафарычнасць Міколы Купрэева, заснаваныя на народнай паэтыцы, мабыць, самыя адмысловыя ў нашай сённяшняй паэзіі.

Магчыма, гэта мае суб'ектыўнае меркаванне, але ў жыцці і ў творчасці Караткевіч і Купрэеў — аднаго поля ягады. Здаецца, журавіны. З гэтага ж поля народныя вандроўныя мастакі Язэп Драздовіч і Алена Кіш. І невядома яшчэ: яны, гэтыя людзі з цыганскімі душамі, выбралі Шлях, або Шлях выбраў іх. Былі ў паэта і каханкі, якіх ён памяняў на паэзію, але і дасюль усё адно ім прысвячае вершы.

*1998*

## МІКОЛА ГУСОЎСКІ

Нікому невядома, колькі яшчэ твораў нашай літаратуры схавана пад пылам вякоў. Балазе, пашчасціла «Песні пра зубра» славутага нашага суайчынніка Міколы Гусоўскага, ці Міколы з Гусава, як ён сам сябе называў (нарадзіўся каля 1480 г. — памёр пасля 1533 г.). Біяграфічных звестак аб ім амаль няма. Толькі прыходзіцца здагадвацца пра ягонае жыццё з паэм, панегірычных вершаў, эпісталярных пасланняў. Сам паэт, усведамляючы вартасць свайго твору, называе «Песню пра зубра» не інакш, як «найяснейшай Палярнай зоркай першай велічыні». А напісаў ён паэму прыблізна ў 1522 годзе ў Рыме і надрукаваў у Кракаве ў 1523 годзе малым накладам (усяго сто асобнікаў) на заказ каралеўскага дыпламата ў Ватыкане, былога полацкага епіскапа Эразма Цялка-Віталіуса. Нагодай жа стала карыда — бой быкоў, якую дыпламаты разам з папам рымскім Львом X Медычы глядзелі ў цырку. Хтосьці з членаў каралеўскай місіі сказаў пры гэтым, што бой быкоў нагадаў яму адважныя схваткі ліцвінаў з зубрамі ў сябе на радзіме. Паэт таксама прысутнічаў там.

Вядома, «Песня пра зубра» была напісана на лацінскай мове. Гэтага вымагаў агульнаеўрапейскі Рэнесанс — класічная латынь была мовай мастацтва.

Не толькі апошнія радкі паэмы, выбраныя для анталогіі, але і ўся «Песня...» прасякнута дыханнем паэта-гуманіста. Праз 500 гадоў тыя ж праблемы вайны і міру перагукаюцца з сённяшнім днём. І ў гэтым адна з вартасцяў «паэмы жыцця» Міколы Гусоўскага.

*1998*

## ВАЛЕРЫ МАРАКОЎ

Кожнаму аматару беларускай літаратуры вядома, як расквітнела нашая паэзія ў 20—30-я гады і як яна была знішчана амаль пад самы корань. Але сёння мала хто ведае, што адным з самых яркіх яе прадстаўнікоў з'яўляўся Валеры Маракоў, улюбёнец Янкі Купалы, кумір тагачаснай моладзі. Ужо першы ягоны зборнік «Пялёсткі», напісаны ў 14—16-гадовым узросце, зрабіў сапраўдны фурор як сярод творчай інтэлігенцыі, так і сярод звычайных чытачоў. І можна толькі сабе ўявіць, у якога б паэта Маракоў вырас, калі б так рана не абарвалася яго жыццё. Валеры Маракоў — адзін з нямногіх, хто да самага расстрэлу не прызнаў сваёй віны, не паклёпнічаў на таварышаў па літаратуры.

З напісаных ім сямі кніжак свет пабачылі толькі чатыры. Дзе астатнія — невядома. А падчас арышту з ягонай хаты вывезлі цэлую гару рукапісаў.

У 1989 годзе выйшла кніжка выбраных твораў паэта «Вяршыні жаданняў», але гэта ўжо іншы Маракоў — парэзаны, пакалечаны. І толькі мінулым летам з публікацыі ў ЛіМе (14 жніўня 1998 г.) радыёінжынера па прафесіі Леаніда Маракова (пляменніка паэта) мы больш поўна даведаліся, якім жа быў малады паэт у сапраўднасці ў жыцці і творчасці, без купюраў і домыслаў.

Яго любілі ўсе, акрамя зайздроснікаў. За статнасць, славянскае аблічча, за бесшабашнасць і працаздольнасць. Ён дзяліўся не толькі сваёй паэзіяй, але і ганарарамі з бяднейшымі сябрамі. Я размаўляў з людзьмі, якія яго памятаюць, і чуў толькі словы захаплення назаўсёды маладым Мараковым. А не пісаць ён не мог. Такім нарадзіўся, такім і загінуў.

Перад расстрэлам паэту прыбілі на ноч руку да сцяны камеры-«амерыканкі», каб не пісаў вершы. Ці не страшны гэта сімвал нашай літаратуры 20—30-х гадоў?

*1998*

# ТЭАТР АДНАГО ПАЭТА

*Сяргей Трусевіч, «Чырвоная змена»*

Яшчэ пэўны час назад яго прозвішча ведалі толькі нешматлікія аматары беларускай паэзіі і члены нефармальных суполак. Не з-за таго, што ён нібыта не з'яўляецца творчай асобай. Проста так склаліся абставіны. Дакладней — іх «склалі» тыя перастрахоўшчыкі, людзі «ў футляры», якія і сёння баяцца: каб чаго не выйшла... За гэты час яго вершы былі надрукаваны ў «Литературной газете», многіх рэспубліканскіх часопісах і газетах. У гэтым годзе рыхтуецца да друку яго першы паэтычны зборнік «Пан Лес». Адзін з арганізатараў і сяброў «Тутэйшых» (Таварыства маладых літаратараў пры СП БССР), на сёння ён — найбольш яскравы прадстаўнік той новай хвалі, якая імкнецца зрушыць з мёртвай кропкі, змяніць занядбанае становішча беларускай літаратуры. Змяніць адносіны да яе. І ўвогуле — да сваёй мовы, культуры, гісторыі... Такім чынам, наш сённяшні субяседнік — паэт Анатоль Сыс.

*С.Т.: Калі ласка, Анатоль, накідай эскізна сваю біяграфію на пачатак знаёмства чытачоў з табой.*

А.С.: Нарадзіўся ў вёсцы Гарошкаў, што ў Рэчыцкім раёне. Да трэцяга класа вучыўся ў беларускай школе, потым яе

закрылі. З чацвёртага класа вучыўся ў суседняй Бронненскай школе з рускай мовай навучання. Першы верш напісаў у 10 гадоў, па-беларуску. З таго часу быў упэўнены, што жыццё будзе звязана з літаратурай. Закончыў аддзяленне рускай і беларускай мовы і літаратуры Гомельскага універсітэта. Служба ў войску. Пасля — карэспандэнт сельгасаддзела Веткаўскай раённай газеты (для пісьменніка работа ў газеце — загубленыя гады). Потым бадзянне ў пошуках працы. Зараз працую старшым тэхнікам на Беларускім тэлебачанні. 28 гадоў.

*С.Т.: У часопісе «Крыніца», дзе ў студзені была надрукавана падборка тваіх вершаў, цябе ахарактарызавалі як «эпатажнага, кіношнага, тэатральнага». Калі б ты сам сябе прадстаўляў, як бы ты гэта зрабіў?*

А.С.: Часопіс у нейкай меры меў рацыю. Калі ў 1977 годзе я трымаў іспыты ў Тэатральны інстытут, дык бачыў сябе ў Купалаўскім тэатры. Шкада, што мяне тады не разгледзелі. Мой вельмі беларускі акцэнт прыёмнай камісіяй быў прыняты за дэфект маўлення. А магчыма, я і пераацэньваю свае магчымасці. Аднак у жыцці я цалкам рэалізаваў тое, што не ўдалося ў тэатры. Часта наязджаю у сваю вёску Гарошкаў. Асабліва падабаецца гуляць на святах, вяселлях. У нас вельмі моцная і своеасаблівая традыцыя мясцовага гарошкаўскага жарту. Часам вельмі з'едлівага. Але ніхто не крыўдуе. Мы, гарошкаўцы, можам па некалькі гадзін смяяцца да ўпаду адзін з аднаго, а людзі нават з суседніх вёсак будуць паглядаць на нас, як на вар'ятаў.

Асабліва ў маладыя гады я любіў тэсціраваць людзей — шакіраваць свайго сумоўцу (у большасці выпадкаў без злосці), а потым назіраць, як ён выходзіць з гэтай сітуацыі. Але не падабаецца, калі такія эксперыменты праводзяць са

мной, хаця не падаю выгляду і стараюся не паддавацца на правакацыю. Часта нават родны брат пытаецца, калі я сапраўдны, а калі не. Хаця і яму пальца ў рот не кладзі. Ніколі не шкадую пра тое, што рабіў раней. А рабіў шмат лішняга, змарнаваў шмат энергіі на пустое. Але, мабыць, пустога не бывае. Заўсёды дазваляю сабе ўсё і фізічна, і духоўна — бо жыву адзін раз — адсюль маё імкненне да незалежнасці і ў жыцці, і ў паэзіі.

Перад вечарынай рэспубліканскай грамадска-літаратурнай суполкі «Тутэйшыя» ў Доме літаратара мне было сказана, што ад таго, як я правяду вечарыну (мелася на ўвазе спяванне «гімну маладых» «Пагоня»), залежыць мая будучыня. Манаполія на маю будучыню належыць выключна мне. Іншая справа — не толькі ад мяне залежыць мой дабрабыт. Мне распавядалі, што пасля вечарыны «Тутэйшых» у Янкі Брыля запыталі: «Ну, як?» На што Янка Антонавіч адказаў адным словам: «Тэатр!». Магчыма, наш паважаны пісьменнік меў рацыю. Прынамсі, я шмат у чым — тэатр аднаго паэта. Але часам мне здаецца, што і маё пакаленне тыя справы, што яно робіць, успрымае, сапраўды, як гульню. Дык што, тэатр аднаго пакалення? Калі гэта так, дык нам проста неабходна ўзняцца на вышэйшую прыступку ўсведамлення сябе ў дачыненні да грамадства, а потым і да літаратуры.

*С.Т.: Гавораць, што паэт ці пісьменнік — гэта той чалавек, які не можа не пісаць. Ці можаш ты не пісаць вершаў? Як бы ты вызначыў, што ў тваім жыцці значыць паэзія?*

А.С.: «Не нарадзіўся яшчэ той пісьменнік, які ў адзін цудоўны дзень не адчуў бы пякучай нянавісці да слова. Напачатку яму пішацца крыху з лянотай, потым лянота пераходзіць у непрыязнасць, варожасць, пакуту, нарэшце, ва ўсвядомленую і непрымірымую нянавісць. Гэта значыць, што

пісьменнік пасталеў і ўпэўнены ў сабе. Словы непрыгожыя. Мова непрыгожая. Не існуе прыгожай гліны. Гліна — гэта гразь. Яна брудная. Гэтак і слова. Слова спараджае «літаратараў» — псеўдалюдзей, антыпаэтаў, самую недарэчную з людскіх парод, вядомую чалавецтву. Баюся, Італія (трэба разумець, і Беларусь. — А. С.) напладзіла іх больш, чым якая іншая нацыя. Спадзяёмся, на гэтым яна спыніцца. Сёння ж не адзін дзесятак нашых літаратараў дарэмна топча гэтую зямлю». Гэта словы італьянскага пісьменніка Масіма Бантэмпелі. Яны абсалютна адносяцца і да мяне, і да ўсёй нашай літаратуры.

Мне сапраўды абрыдла пісаць вершы, чаго амаль і не раблю за апошні год — год існавання «Тутэйшых». Я ператварыўся ў адміністратара, штурхалу, нават у звадніка (маю на ўвазе высвятленне адносін «Тутэйшых» з СП БССР) і г. д. І хочаш таго ці не, а прыходзіцца задумацца, што выбіраць: ці паэзію, ці дробязныя амбіцыі, а паэзія для мяне — палова жыцця.

*С.Т.: Акрамя таго, што ты пішаш, што ты яшчэ можаш рабіць?*

А.С.: Гуляць у футбол, араць, касіць, вяршыць стагі, выкладаць у школе родную мову і літаратуру.

*С.Т.: Ці бывае так, што ты садзішся перад чыстым аркушам паперы і прымушаеш сябе пісаць?*

А.С.: Рэдка.

*С.Т.: Паэт — што для цябе гэта: прафесія, форма існавання, магчымасць «зрабіць імя» ці нешта іншае?*

А.С.: Форма існавання і магчымасць зрабіць імя беларускай літаратуры.

*С.Т.: Кнігі якіх пяці аўтараў нашай літаратуры хацеў бы мець «пад рукой», калі б лёс закінуў цябе на бязлюдны востраў?*

А.С.: Калі я ішоў у войска, прадчуваў, што прыйдзецца служыць далёка. І сапраўды, трапіў у Польшчу. Тамовік Цёткі і «Шлях 360» Алеся Разанава павандравалі са мною па ўсёй Польшчы. Мы былі на Легніцкім полі, дзе палякі з дапамогай беларусаў разбілі татараў, у зямлянцы на Одры пад час пантанёрскіх вучэнняў, каля Балтыкі. Па-мойму, да спасціжэння сапраўднай паэзіі, як і чалавека, магчыма прыблізіцца толькі ў экстрэмальнай сітуацыі ці блізкай да яе. Я маю на ўвазе слодыч пакут і радасці ад паэзіі Алеся Разанава. «Шлях 360» я прайшоў тысячу і адзін раз, і шмат у чым мой шлях пачаўся ад яго.

Ну, а калі б сёння мне прыйшлося выпраўляцца туды, дзе няма беларускіх кніжак, дык узяў бы я ўсё, што напісалі Купала, Ластоўскі, Гарэцкі, Караткевіч, Разанаў, ну, і дазволь захапіць усе трыццаць тамоў нашага фальклору.

*С.Т.: Вызначы, на свой погляд, тры найбольш прыкметныя з'явы ў нашай літаратуры і мастацтве за апошнія гады?*

А.С.: Фільм Рыбарава «Чужая Бацькаўшчына» паводле рамана Вячаслава Адамчыка. Вяршыня ў творчасці Васіля Быкава — раман «Знак бяды» (цікава, ці адбыўся б такі раман, калі б Быкаў застаўся ў Гародні?). І рок-музыка на беларускай мове, самы яркі прадстаўнік якой — «Мроя» — набліжаецца да стварэння нацыянальнага рока. Свой напрамак яна вызначае як стод-рок.

*С.Т.: Як ты лічыш, на сённяшні дзень ці ёсць у нашай літаратуры асобы, здольныя рэальна ўплываць на працэс перабудовы?*

А.С.: Ёсць. Увесь Саюз пісьменнікаў. Толькі адны ўплываюць станоўча, другія — адмоўна, а трэція — дафіністы — таксама ўплываюць на перабудову сваёй абыякавасцю.

*С.Т.: Наша ўсеагульная бяда — амаль масавае няведанне роднай мовы, амаль поўны адрыў ад сваіх каранёў. Калі б усё залежала ад цябе, якія першыя крокі па выпраўленні становішча ты б зрабіў?*

А.С.: Шмат значыць асабісты прыклад. Асабліва, калі цябе паважаюць або ты маеш высокую дзяржаўную пасаду. Дык я з трыбуны, з падначаленымі, проста ў жыцці размаўляў бы на прыгожай, цудоўнай, сакавітай, мілагучнай беларускай мове... А ўспомніць яе няцяжка, калі ты беларус... Трэба рабіць рашучыя канкрэтныя крокі да адраджэння мовы. На першы час трэба ўвесці ва ўсіх ВНУ іспыты па беларускай мове і літаратуры (сачыненне). Затым — навучанне беларускай мове з дзіцячага сада і яе выкладанне з першага класа. На ўсіх дзяржаўных, прафсаюзных і камсамольскіх форумах рабочай мовай павінна быць беларуская. Амаль усе газеты (абласныя, раённыя і шматтыражкі) перавесці на мову... Тут, зразумела, павінна быць сістэма.

*С.Т.: Добра. Дзе ж у гэтым выпадку (на сённяшні дзень) узяць столькі кваліфікаваных кадраў?*

А.С.: Я размаўляў з выкладчыкамі-гуманітарыямі ў Тэатральна-мастацкім інстытуце, БДУ, БПІ, БІМСГ. Многія сказалі, што яны здолелі б праз пэўны час выкладаць на мове.

Праз месяц, два, напрыклад. Дарэчы, у 20-х гадах, каб дапамагчы беларусам у станаўленні новай сацыялістычнай навукі, з Масквы прыехалі прафесары Пічэта, Барычэўскі, Вазнясенскі, Піятуховіч выкладаць у Мінскі універсітэт. А паколькі ў тыя далёкія часы выкладанне ўсіх дысцыплін ва ўсіх ВНУ Беларусі вялося на нацыянальнай мове, дык яны, небеларусы па нацыянальнасці, амаль цераз месяц ужо выкладалі па-беларуску. І гэта не адзінкавыя прыклады.

*С.Т.: Існуе так званы «закон трох пакаленняў», які сцвярджае, што за тры пакаленні нацыя з самай адсталай можа пры жаданні выйсці на вышэйшы ўзровень духоўнага і эканамічнага развіцця. Але пры адсутнасці такога жадання, пры адсутнасці імкнення да развіцця нацыя за тры пакаленні можа самавынішчыцца. Дык вось, калі гаварыць пра занядбаны стан беларускай мовы ў сучаснасці, то «зыходным пунктам» трэба лічыць канец 20-х — 30-я гады нашага стагоддзя. Адсюль тваё і маё пакаленне — трэцяе ў гэтым ланцужку самаахвяравання мовай невядома каму і невядома дзеля чаго...*

А.С.: Ад Купалы нашы пакаленні вядуць адлік набыткаў і стратаў, але першых болей. Агонь-птушка гіне і ўваскрасае з попелу, таму што яна вечная. А попел наш і ў першай, і ў другой сусветных войнах, і ў рэвалюцыі, і ў грамадзянскай, і ў 30-х гадах. Досыць. Няхай Чарнобыль будзе апошнім катаклізмам на нашай зямлі! Мы ведаем цану жыцця і смерці нават простага аратага. Аднак у той жа час мы не навучыліся шанаваць і аберагаць пракракаў, асабліва пры жыцці, як гэта было з Уладзімірам Караткевічам. Наша пакаленне, вядома, не ігнаруючы папярэднікаў, вырасла з ягоных твораў. Па меры ўзрастання моцы і нацыянальнай свядомасці народа ўзрастае верагоднасць нараджэння новага, больш ма-

гутнага Генія. Не, мы не прайграем «трэцяга перыяду»... Камусьці такія разважанні здадуцца рамантыкай ці нават утопіяй, але ўспомніце гісторыю...

*С.Т.: Скажы, калі ласка, як з'яўляюцца твае вершы?*

А.С.: Паэзія — гэта інтуіцыя, калі хочаш, імправізацыя па матывах душы. Раптам я кідаю ўсё на свеце. У гэты момант мяне лепш не чапаць. Я сам, як шаравая маланка. Ёсць тысячы прычын, якія могуць знішчыць яе, і я ўцякаю ад іх, як наркаман прагну вечнасці гэтага стану. Вядома, не заўсёды прыходзяць такія прасвятленні, але большую палову вершаў я напісаў з павышанай тэмпературай.

*С.Т.: Што перш-наперш, на тваю думку, трэба зрабіць у жыцці?*

А.С.: Стаць чалавекам. Я так лічу, бо самому бракуе шмат якіх сапраўдных чалавечых якасцяў.

*С.Т.: Твая мара?*

А.С.: Весці літаратурную спадчыну ці аддзел паэзіі ў адным з нашых часопісаў — гэта на бліжэйшы час. Ну, а ўвогуле — поўны духоўны росквіт нашага народа. Тады і «Чырвонка» выходзіла б тыражом у 25 000 разоў большым, чым зараз.

*30 ліпеня 1988 г.*

## «У ПАЭЗІІ МЫ ВЫЙШЛІ Ў КОСМАС...»

*Міхал Талочка, «Звязда»*

У вершы «Паэт», ахвяраваным Алегу Бембелю, Анатоль Сыс напісаў:

«Хто пакрыўдзіў цябе, паэце? Хто прымусіў цябе блудзіць — бог ці дэман у гэтым свеце? Што ты хочаш душы здабыць? » Той — колішні — верш цалкам адпавядае Сысу сённяшняму. У сярэдзіне 80-х ён прыехаў у Мінск і скалануў яго: сваёй дзіўнай творчасцю, сваім рэвалюцыйным тэмпераментам і неўтаймаванай натурай. Без яго не абыходзіліся ніводная адраджэнская вечарына, мітынг. Ён быў кумірам. Знаёмствам з ім ганарыліся чыноўнікі, на дзень нараджэння прыязджалі віншаваць (сам сведка) міністры. Выйшлі зборнікі «Агмень» і «Пан Лес». Ды вершаў з'яўлялася меней і меней... Заставалася ж неўтаймаваная натура, далёка не далікатная. І тыя, хто ўчора яго багатварыў, пачалі адварочвацца, абмінаць. Маладзейшы калега, даведаўшыся, што я падрыхтаваў да друку інтэрв'ю з ім, здзівіўся: «Навошта? Ягоны час даўно прайшоў». Не, праходзіць час графаманаў, а сапраўдны паэт застаецца, калі напісаў хоць адзін моцны радок. А такіх радкоў у Анатоля Сыса шмат.

*М.Т.: Анатоль, чаму так здарылася? Выдатныя вершы, поспех, стварэнне літаб'яднання «Тутэйшыя» — усё ў мінулым. Я таксама тваіх вершаў не бачу, а толькі чую пра новыя не зусім прыгожыя гісторыі, якія ты аматар ствараць сабе і іншым.*

А.С.: Што казаць — звычайная для літаратурнага асяроддзя банальная гісторыя. Выйшлі два мае зборнікі. Атрымаў ганарар. А плацілі прыстойна: я б за тыя грошы цяпер мог

купіць двухпакаёўку ў цэнтры Мінска і легкавушку. Усе хочуць са мною сустрэцца, паслухаць вершы. Грошы ёсць, з усімі гуляю. Патрапіў правінцыйны хлопчык у сталічную багему. Водзяць па кватэрах, усе хваляць. Эйфарыя. Мне гэта падабаецца, і ўжо не хапае часу пісаць вершы... Так і закруціўся...

*М.Т.: Я прыгадваю «Тутэйшых». Тады мы называлі старэйшых пісьменнікаў «прыкарытнымі». Прайшоў час, а па вялікім рахунку колішнія спадзяванні не спраўдзіліся.*

А.С.: Я не люблю размаўляць на тэарэтычна-літаратурныя тэмы. Тлумачэнняў можна знайсці безліч. Па-мойму, няхай гэта і падасца некаму спрошчаным, тады неяк над Беларуссю шчасліва сышліся планеты. Пасля разышліся. Прыйдзе час, і ўсё паўторыцца. Я, напрыклад, без штучнага пафасу веру ў шчаслівую будучыню беларускай літаратуры. Што ж датычыць пісьменнікаў старэйшага пакалення, то і я ў іх трошачкі вучыўся, хоць яны былі розныя. Увогуле мяне многія лічаць рэзкім, нястрыманым. Ды і сам падтрымліваю такі імідж. А на самой справе я чалавек талерантны. У беларускай літаратуры павінна быць усё: і Караткевіч, і Пісарык, і Сыс, і Шкраба, і фальсіфікатары, і кар'ерысты, і графаманы. Як у кожнай нармальнай літаратуры. Мы ўвогуле даволі прыстойных творцаў маем, а калі ўзяць паэзію, то яшчэ трэба паглядзець, у каго яна мацнейшая. У паэзіі мы выйшлі ў космас, хоць ідзём ад зямлі. Тая ж Амерыка на нас павінна глядзець, а не мы на іхнія выкрутасы. Але пісаць трэба толькі па-беларуску. Наш час патрабуе вялікай прынцыповасці.

*М.Т.: Думаю, за сваю папулярнасць ты найперш павінен быць удзячны патрыятычным вершам. Я й цяпер памятаю тую сваю ўзнёсласць, якую выклікалі радкі:*

У гэтай краіне не маю я дому,
вось воблака — сяду і ў свет палячу
над гэтай гаморай, над гэтым садомам,
ні грошай, ні славы — я волі хачу,
бо ў гэтай краіне не маю я волі...

А.С.: Так, ніводнае пасяджэнне «Талакі», «Тутэйшых» без мяне не абыходзілася. Быў трыбунам. Але паэт павінен быць усялякім. Я зараз не люблю пісаць патрыятычныя вершы. А хачу чалавека паказаць у прыродзе, сам-насам з Сусветам. Сказаць ёсць што. У прынцыпе, я ў гэтым свеце ўсяго пабачыў. Мяне часта параўноўваюць з Маякоўскім, Ясеніным, Рубцовым, але я — Сыс. Беларускі Сыс. Ды й тады было шмат лірычных вершаў.

*М.Т.: А мо параўноўваюць з-за агульнай трагічнай бесшабашнасці?*

А.С.: Не, гэта звязана з тым, што трошачкі пісаць умею і выдатна разумею: належу не сабе, Беларусі. А «Беларусь» і «паэзія» для мяне сінонімы. Разумею, павінен пісаць вершы. І буду гэта рабіць, у мяне ўсе наперадзе. Я ж зусім малады чалавек — усяго 37 гадоў. Яшчэ напішу... Усё будзе нармалёва...

*М.Т.: Прабач, мне здаецца, многія ад цябе ўжо нічога не чакаюць. Не вераць.*

А.С.: Нядаўна Кася Камоцкая запрашала на канцэрт свайго гурта і кажа: «Ты ж толькі моцна не шумі. А то як пачнеш абдымацца, дык усіх маіх фанатаў распалохаеш». Але і ў мяне ёсць свае фанаты, фанаты паэзіі. Кожны чацвер каля помніка Янку Купалу Генадзь Бураўкін ладзіць літаратурныя

чытанні. Выступаў нядаўна. Людзі падыходзілі, абдымалі, плакалі: «Сыс, мы цябе просім: пішы вершы!». Значыць, нешта я значу ў гэтым жыцці. І не трэба мяне шугацца. Знешнія паводзіны — насланнё. Падыдзіце да мяне, скажыце ласкавае слова, пасядзіце са мною. Падзяліцеся, чым маеце. І я аддам, што маю. Зрэшты, так і жыву. Праўда, здараецца, што пераігрываю. Я ж некалі паступаў у Тэатральна-мастацкі інстытут на акцёрскае аддзяленне. Браварская сказала, што не возьмуць, бо ў мяне дэфект вымаўлення. Трэба было парасейску чытаць маналогі, а я ж прыехаў з палескай вёскі, якая там расейшчына. Тое, што не рэалізаваў у тэатры, рэалізоўваю па жыцці. Мне й цяпер галоўныя рэжысёры беларускіх тэатраў прапаноўваюць ролі ў сваіх спектаклях. Упэўнены: выдатна справіўся б.

*М.Т.: Прыродны артыстызм выклікае і адпаведныя выбрыкі. Мне расказвалі, як ты на нейкім пасяджэнні Саюза пісьменнікаў Максіма Танка частаваў бульбаю...*

А.С.: Баршчом, смачным баршчом. Адбывалася пасяджэнне беларускай дыяспары ў канферэнц-зале Дома літаратара. І Максіма Танка пасадзілі. Як ідала. Маўляў, бачыце: нас уважыў. Я ўзяў каструлю з баршчом і падсеў. Кажу: «Максім, пад'еш, можа, галодны сядзіш». Ён адказвае: «Я б і рады пад'есці, але ўжо стары, няма апетыту. Ды й настрою няма». Пытаюся: «Можна я за цябе піва вып'ю?». «Пі, Толічак, на здароўе. Пакуль малады, бяры ад жыцця ўсё!». Вэрхал падняўся. А неяк прыходжу ў Дом літаратара, і мне перадаюць пакет. У ім — творы Танка з подпісам. Сапраўдны чалавек і паэт быў. Калі памёр, для мяне гэта была трагедыя.

*М.Т.: З Танкам на «ты» размаўляў?!*

А.С.: Як і з усімі літаратарамі. І з Танкам, і з Панчанкам так размаўляў, і з Шамякіным. Паэт з паэтам павінен гаварыць на «ты». Калі разумны чалавек, не пакрыўдзіцца. Наогул, такі зварот у беларускіх традыцыях.

*М.Т.: Напэўна, і з міліцыяй канфлікты былі?*

А.С.: Мноства. Але пачытаю ім вершы, яны й кажуць: «Выпішам табе штраф па мінімуму, толькі ідзі праменька дахаты». І адпускаюць.

*М.Т.: Мне здаецца, у тваёй знешняй бравадзе болей суму, чым весялосці...*

А.С.: Сумна, бо пасля сябе не бачу нікога. Я прыйшоў пасля Караткевіча, пасля мяне — ніхто. З'явіцца такі творца, я яму ў тазіку ногі памыю і ваду вып'ю. Усё зраблю, каб мой шлях не паўтараў. Сум знікае, калі ёсць піва і навокал сябры. А як адзін, дык... Каб не сябры, то й не выжыў бы. Мяне голад з хаты гоніць. За што жыць? Без працы з 91-га года. Уяўляеш? Але лепш папрашу ў цябе на кавалак хлеба, чым красці пайду.

*М.Т.: Чаму ж не працуеш?*

А.С.: Не бяруць. Імідж у Сыса кепскі... Я павінен пісаць вершы. Касіць сена і без мяне багата хто ўмее, з вось так пісаць — не. Толькі хай за работу заплацяць. Дарэчы, у мяне бацька такі ж быў. Я ў бацьку ўдаўся. Пра яго легенды да сённяшняга дня па ўсім Рэчыцкім раёне ходзяць. І брат старэйшы — весялун.

*М.Т.: Ведаю, ты часта бываеш у роднай вёсцы. Ці моцна за гэтыя гады Гарошкаў змяніўся?*

А.С.: Палову года праводжу ў Мінску, палову — у Гарошкаве. Прыехаў сярод лета ў сталіцу, бо трэба здаць рукапісы дзвюх кніг: адна павінна выйсці ў «Мастацкай літаратуры». Называецца «Лён». Другая — «Ягамосць» — у Беластоку.

Здараецца, сядзім у Гарошкаве з хлопцамі, п'ём піва і разважаем: коней стала шмат, як да рэвалюцыі. Падлічылі — болей за шэсцьдзесят. Ды ўсе прыватныя. А ў калгасе пакралі. Цыганы, бамжы, іншыя аферысты. Каб выпіць было за што. Вёска спілася, асабліва моладзь. Ад безвыходнасці. Ходзяць беспрацоўнымі. Маткі крычаць: чаму не робіш?! А куды ён пойдзе: у калгас за 200 тысяч? У Гарошкаве чакаюць маёй кніжкі. Маці раней пасмейвалася з творчасці: «Бачыш, паэт знайшоўся...». А цяпер сама сказала: «Едзь, мы без цябе і ссянуем, і бульбу выкапаем. Толькі без кніжкі не прыязджай». Так атрымалася, што Рэчыца за ўсю гісторыю не нарадзіла ніводнага паэта. А ў нашым калгасе некалькі: Віктар Ярац, Віктар Стрыжак, я, мой аднафамілец Сяргей. Праз рэчку — Нэлі Тулупава. А навокал хоць венікам мяці. Мусіць, зноў планеты сышліся...

*М.Т.: Можа, і праўда табе жаніцца, наладзіўся б быт, з'явілася б лагоднасць. Хаця, мусіць, такіх вершаў не было б...*

А.С.: Калі я стану іншы, вершы будуць, толькі не такія шчырыя і адкрытыя. Што да жаніцьбы, то ёсць жанчыны, якія мяне разумеюць. Але я для сябе аднойчы вырашыў: мая жонка — паэзія. І гэта да канца жыцця. Хаця хто яго ведае...

*М.Т.: А хто з паэтаў, так бы мовіць, бліжэй да сэрца?*

А.С.: Янка Купала. У яго не было сыноў, дык вось нарадзілася дзіцятка. А брат — Максім Багдановіч. Здараецца бываць у незнаёмых кампаніях, дзе не ведаюць мяне як паэта. Бачу: прыемныя людзі, тады кажу, а вы ведаеце, што я сын Янкі Купалы і брат Максіма Багдановіча? Хочаце, вершы пачытаю.

Смяюцца: які ты паэт! Паслухаюць — здзіўляюцца.

*М.Т.: Што ж, Анатоль, будзем чакаць тваіх вершаў. Удачы.*

А.С.: Паэты — моцныя індывідуалісты, інтымісты (ад слова інтым), эгаісты. Гэта ўсё ўва мне сышлося. Увогуле, выдам новыя кніжкі, супакоюся, і трэба нешта прыдумаць. Зрэшты, яно само павінна прыйсці.

*30 жніўня 1997 г.*

*P. S.* Перад гутаркаю перачытваў Анатолевы зборнікі. Знайшоў радкі: «Ніхто не мае права біць Паэта, / ён нават сам не вольны над сабой, / магчыма, ён адзіны на паўсвета, / а вы за ім, нібыта за гарой.» Гэтыя радкі — да нас, ягоных чытачоў і знаёмых. Традыцыйна мы пры жыцці паэта на гэта забываем. Не варта. Паэзія мае ўласцівасць рабіць нас лепшымі, больш людскімі. Дык давайце імі быць. У тым ліку, у адносінах да яе стваральнікаў.

# «ЯК ПОЙДУЦЬ ВОСЕНЬСКІЯ ДАЖДЖЫ — ПАЧНУ ПІСАЦЬ...»

*Ганна Соусь, «Народная воля»*

«У паэзіі ў кожнага свой слуп», — пісаў у адным са сваіх вершаў Анатоль Сыс. І сапраўды, у беларускай паэзіі сваё месца займаюць вершы беларускага таленавітага «паэта-хулігана» Анатоля Сыса. Яго творчасцю захапляюцца многія, але і многія ж не разумеюць ягоных паводзін. Сам жа Сыс даволі часта ганарліва называе сябе сынам Янкі Купалы і братам Максіма Багдановіча...

*Г.С.: Чым адрозніваецца Анатоль Сыс сярэдзіны васьмідзесятых — вядомы таленавіты малады паэт, і Анатоль Сыс сярэдзіны дзевяностых — вядомы сталы паэт-скандаліст?*

А.С.: Анічым. Як кажуць, гарбатага магіла выправіць. Хіба што стаў менш рэзкім у жыцці і паэзіі.

*Г.С.: Патлумачыць можна?*

А.С.: Можна. Менш рэзкім у жыцці — гэта значыць, стараюся не кранаць боскае стварэнне ні пальцам, ні словам. Баюся, а лепш сказаць, не магу ўдарыць чалавека. Лепш сам пад вока атрымаю. Ну, вядома, акрамя тых сітуацый, калі могуць сесці на галаву. А ў вершах усё больш і больш цягне на лірыку, на звычайны зямны роздум. Роўна дзесяць гадоў, як я не даваў нікому інтэрв'ю. А вось зараз падняў свае архівы, і ўсё, што я казаў і думаў раней, абсалютна кладзецца на сённяшні дзень. Хіба што шкадую пра адно. Вакол мяне было столькі прыгожых дзяўчат, мае ж сябры іх і разабралі. І жы-

вуць шчасліва. Чаму, дурань, не выбраў сабе? Так бы зараз каля мяне блытаўся маленькі Сысік — і ўсё шчасце. Па прыродзе я — бацька.

*Г.С.: Сапраўды. У цябе зараз даволі крытычны для паэта ўзрост — трыццаць сем гадоў. Ты гэта адчуваеш?*

А.С.: Яшчэ як. Справа нават не ў гадах, а ў адзіноце ці, як сказаў бы мой старэйшы таварыш па няшчасці Алег Бембель (Зніч), цяжка быць паэтам у самоце. Ён, здаецца, знайшоў выхад, падаўся ў манахі ў Жыровіцкі манастыр. Але я чамусьці ўпэўнены, што ён яшчэ вернецца. Хаця, Бог яму суддзя. Вось збіраюся яго адведаць з бутэлечкай чырвонага віна, хто ведае, можа, і сам там застануся… Жартую, канечне… Люблю пажаліцца, маўляў, заблудзіўся я трошачкі ў жыцці… Ды ніколі і анідзе не заблудзіўся. Усё вельмі проста: была б маці жывая, быў бы кавалак хлеба, былі б каля мяне сябры і сяброўкі — тады і вершы будуць. А! Забыўся, яшчэ каб вайны не было…

*Г.С.: Дарэчы, калі ты ўжо сам перакінуўся на палітыку, дык успомні непрыгожы эпізод з азаронкаўскай «агіткі» «Ненависть. Дети лжи», дзе цябе паказалі ў вясёлым стане. Табе не крыўдна, што з-за цябе быў кінуты цень на БНФ?*

А.С.: Вядома, крыўдна. Адкуль я ведаў, што «Віцязь» у шакалавай скуры, ды яшчэ з камерай, ды яшчэ з-за вугла здымае мяне, дый не толькі мяне?! А потым так гэта зманціруе… Наслухаўся я папрокаў і ад сяброў, і ад аднавяскоўцаў, і ад зусім незнаёмых мне людзей, хаця сам гэтай «агіткі» ў вочы не бачыў. Як і ў спорце, у любым мастацтве, хаця гэтае кіно і блізка не цягне на мастацтва, ёсць забароненыя прыёмы. Азаронак жа «по велению души» і па загадзе сваіх трэнераў

толькі тым і займаўся, што біў «детям лжи» выключна ніжэй пояса — рэжысёр аднаго прыёму. Вядома, крыўдна, што з-за мяне быў кінуты цень на БНФ. Хаця я ніколі не ўваходзіў ні ў якую партыю, у тым ліку і ў БНФ. Разумею, што па маіх выхадках часта мяркуюць пра беларуса-адраджэнца, свядомага беларуса. Але ж трэба ўлічваць натуру паэтычную, а значыць, непрадказальную. I наогул, паэту няма чаго лезці ў вялікую палітыку. Так, спачуваць можна, на мітынгу патрыятычным вершыкам рысануцца, з людзьмі «Чарнобыльскім шляхам» прайсціся...

Не верыце, дык спытайце ў Анатоля Вярцінскага, колькі кніжак у яго адабрала ягонае дэпутацтва. А ў выніку — ні вершаў Вярцінскага, ні людскага парламента. Не ведаю, можа, Яндарбіеў, які разам з Лявонам Галубовічам вучыўся ў Маскве ў Літінстытуце, перакладаў Лявона на чачэнскую мову, і змог сумясціць вайну і паэзію. Аднак што тут раўняць вайну і палітычную валтузню. Памятаеце, з нашай Айчыннай выйшлі якія паэты! Твардоўскі, Дудзін, Гудзенка, Сурначоў, Панчанка. Гэта табе, Славік Адамовіч, не рот зашываць прадэзінфіцыраванай іголкай на мітынгу. Часовая папулярнасць можа з'явіцца, а ці таленту прыбудзе? Сумняваюся. Ва ўсякім разе, для мяне — гэта пройдзены этап.

*Г.С.: А як жа разумець твой верш «Дзікі мёд»: «Адкапаю пайду кулямёт, каб хадзіць смела ў бацькавай пушчы».*

А.С.: Я ведаю, на нашай зямлі болей ніколі не будзе вайны. А трэба будзе, пайду і адкапаю, калі хто палезе. Тым больш што ў нашых лясах зброі на цэлую армію хопіць. Ты лепш запытайся, адкуль у мяне свядомасць.

*Г.С.: Адкуль?*

А.С.: Нарадзіўся я і вырас у вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна. Мая хата стаіць на гарадзішчы Зарубянецкай і Мілаградскай культур. Гэта III—IV стагоддзі да нашай эры. Яшчэ мая маці і бацька ў 50-ых гадах удзельнічалі ў раскопках пад кіраўніцтвам прафесара Мельнікоўскай. Бацька на самазвале адвозіў скрыні са знаходкамі ў Рэчыцу на цягнік, а адтуль іх адпраўлялі ў Маскву, Ленінград. Гэта мае аднагодкі хадзілі па лясах, снарады капалі, а я з дзяцінства саматугам капаў чарапкі, маністы, крамянёвыя наканечнікі стрэлаў ды насіў у мясцовы краязнаўчы музей. Я, дарэчы, часта жартую, што сталіца Беларусі — Гарошкаў, бо першага глінянага каня знайшлі на маім гародзе, як бульбу капалі. Ён зараз — ва ўсіх энцыклапедыях. Вось адкуль узялася Пагоня!

*Г.С.: Ты памятаеш свае першыя радкі, свой першы надрукаваны верш?*

А.С.: Свой першы верш я напісаў на роднай мове ў дзевяць гадоў і гэтым ганаруся. Не хвалюся, але ўжо тады я быў упэўнены, што надыдзе час, і мяне будуць вывучаць у школе. Так і адбылося.

*Г.С.: А памятаеш свае апошнія радкі, апошні надрукаваны верш?*

А.С.: Памятаю, што апошні надрукаваны верш называецца «Вечны жыд», здаецца, у адным з веснавых нумароў «Крыніцы». А вось напамяць свае вершы ніколі не памятаю. Апошнія ж радкі выбітыя на помніку майго сябра Цыбульскага Валодзі з маёй вёскі. Ён скончыў факультэт фізічнага выхавання Магілёўскага педінстытута і памёр. Свядомы быў чалавек. Гэта, мабыць, адзіная эпітафія на беларускай мове ў Гомельскай вобласці.

Я чую з неба сум ваш на зямлі,
вы не судзіце свайго сына строга,
мяне анёлы за руку ўзялі
і, як дзіця, вядуць да Пана Бога.

Таму па мне не плачце, мама, многа,
бо да Хрыста, нібы дамоў, дарога...

*Г.С.: На твой погляд, бываюць таленавітыя паэты абсалютнымі цвярознікамі, ціхонямі, нейкімі бязгрэшнымі, ідэальнымі бесцялеснымі фігурамі?*

А.С.: Ганна, на мой капыл, не бываюць. Прынамсі, я такіх не сустракаў і не ведаю ў літаратуры. Хтосьці скажа: а Багдановіч? О, гэта яшчэ тая «мятущаяся душа»! А ў прынцыпе, бедны, памёр, так і не паспеўшы зграшыць. Мабыць, зараз дзесьці ў раі.

*Г.С.: Ты быў адным са стваральнікаў літаратурнага аб'яднання «Тутэйшыя». Раскажы, калі ласка, падрабязней аб гэтым перыядзе.*

А.С.: Ну добра, расказаў жа табе, адкуль узялася «Пагоня», тады раскажу, адкуль узяўся Беларускі народны фронт. БНФ, па вялікім рахунку, узяўся з «Талакі» і Тутэйшых». Але гэтая размова не на адно інтэрв'ю. Я, дарэчы, знайшоў добрага журналіста, які быў і ў «Талацэ», і ў «Тутэйшых». Гэта ж такая гісторыя, цэлы раман. З працягам...

*Г.С.: Аб чым марыць сёння Анатоль Сыс?*

А.С.: Здаецца, пра ўсе свае мары я ўжо сказаў. Паўтаруся: каб не было вайны, каб мы адзін аднаго не баяліся, пава-

жалі, каб міліцыя ў мяне не зрывала бел-чырвона-белы значок з грудзей. Няхай яны носяць свой чырвона-зялёны. Я ж ім не забараняю. Ведаю, што кожны, хто нарадзіўся на гэтай зямлі, любіць яе па-свойму, але любіць шчыра, і нічога паганага ёй і яе людзям не жадае. Іншая справа — «час такі і век такі». Усё вернецца на «кругі свая».

*Г.С.: Калі чытачы змогуць пазнаёміцца з тваімі новымі вершамі?*

А.С.: Калі прыйдзе непагадзь. Абяцаю, як пойдуць восеньскія дажджы — пачну пісаць. Чаго і вам жадаю! Да сустрэчы!

*4 кастрычніка 1997 г.*

## «МАЛАДЫЯ ІДУЦЬ ДА МЯНЕ, ЯК ДА ГУРУ...»

*Ганна Кісліцына, «Крыніца»*

*Г.К.: Гавораць — усё, Сыса няма, кінуў пісаць. І раптам навіна: выходзіць кніга. Калі ласка, раскажы пра яе.*

А.С.: Гэта будзе збор твораў. Усё, што напісаў, — пад адной вокладкай. «Агмень», «Пан Лес», «Ягамосць» — тая кніжка, што Глобус абяцаў выдаць. Называцца будзе «Лён». Мне падабаецца слова, услухайся, як гучыць. Да таго ж, лён цяжка браць, цяжка расціць. Цяжкая мазалёвая праца. Я ведаю, бо, калі быў малы, нашай сям'і давалі сорак сотак у калгасе. Вершы мне зараз даюцца трудна. У год сама болей пяць вершаў, гэта максімум. Затое верш напішу — радуюся, як дзіцятка

нарадзілася. Не разумею, калі даюць устаноўку: «Я паэт, я павінен пісаць». Калі ў Алешы было «ні дня без радка», дык сёння ў нашых некаторых паэтаў — ні дня без пяці вершаў. Глядзіш на даты пад творамі і дзівішся, як у адзін дзень столькі можна было нарабіць. Ёсць паэты, якія пап'юць, паядуць — і садзяцца за стол вершы пісаць, адпрацоўваць...

Табе здаецца, што назва занадта простая? А я не ўмею філасофстваваць — я не Глобус, не Галубовіч, не Разанаў. Магу напісаць верш, але не прааналізаваць. Я ў паэзіі нескладаны — у мяне «выпендрывання» няма. Хіба што ў паэме «Алаіза» — я яе пад уплывам Разанава пісаў.

*Г.К.: А як ты лічыш, у паэзіі складанасць патрэбная?*

А.С.: Некалі я пісаў дыпломную працу пра вершаскладанне... А зараз мяркую, як ні выпендрывайся, усё адно прыйдзеш да самага простага — чатырох вершаваных радкоў, якія толькі і ёсць у паэзіі. Калі пішу сам, дык вымяраю рытм, але хутчэй па ўзроўні адчування. Мне здаецца, што галоўнае не форма, а змест. Хаця, напэўна, як ёсць гармонія душы і цела, так ёсць гармонія зместу і формы. Мне здаецца, што калі паэту дадзена, дык ён і ў рыфму напіша, і вольным вершам. Увогуле я не люблю пра сваю паэзію гаварыць. Заўсёды кажу, што ў маёй хаце забароненыя тэмы — літаратура і палітыка. Хаця сам ад тэлевізара не адыходжу, гляджу ўсе інфармацыйныя праграмы.

*Г.К.: У цябе ў кватэры шмат карцін, прыгожых рэчаў. Ведаю, што яны па большасці падараваныя табе сябрамі. А як ты ставішся да іх творчасці, каго чытаеш?*

А.С.: Ведаеш, нягледзячы на ўзрост, я з класікамі на «ты». У мяне зайздрасці няма. Я радуюся чужым добрым вершам,

бо мы ўсе належым Беларусі. Але апошнім часам я мала чытаю. Вось графін стаіць, мне яго Чаропка падарыў на дзень нараджэння. Прыйдзе — пытаецца: «Яшчэ не разбіў?» Я Чаропку прывёў у літаратуру, ён за гэта мяне паважае. Тое, чым ён займаецца ў гісторыі, — гэта патрыятычныя казачкі для дзяцей. Апошніх яго рэчаў я не чытаў. Ведаеш, у мяне ёсць вялікі густ на літаратуру. Да таго ж, у яго на два сказы па пяць граматычных ды стылістычных памылак. У мяне пачынаецца раздражненне. Я люблю, каб усё было на вышэйшым узроўні. Як у мяне, калі слова на вагу золата. Густ — ён ад Бога... І да літаратуры, і да прыроды, і да людзей. Я люблю прыгожых людзей. Сябрую з Федарэнкам. Ён вельмі крыўдлівы. Называе мяне бацькам і крытыку можа чуць толькі з маіх вуснаў. У яго шмат комплексаў. Ён іх хавае, спрабуе нешта даказаць... Але пісьменнік без комплексаў, без шызы — не пісьменнік.

*Г.К.: Твае «шызы» прывялі да таго, што многія адводзяць табе толькі адну-адзіную ролю — блазна. Што ты думаеш пра гэта?*

А.С.: Шэрасць робіць блазна... Мне галоўнае, каб вершы пісаліся. Усе гаворкі вакол мяне — ад жадання дакрануцца да беларускай вечнасці. Хоць за с... ушчыкнуць, але пабыць каля Паэта... Тыя, хто гаворыць, — ведаюць: «Ён ужо застаўся!» Нават дзве мае маленькія кніжкі-брашуркі для іх — класіка. Да таго ж — каб былі тыя легенды праўдзівыя. А то адныя гіпербалы... Пра многае я зараз шкадую. Мае «выпяндрожы» адбіраюць шмат энергіі, якую б варта было пусціць на вершы. Але я такі — не магу змоўчаць...

*Г.К.: Не ад аднаго чалавека чула, што раней ты быў абыякавы да выпіўкі, але сябры дапамаглі — ад зайздрасці да таленту, да славы...*

А.С.: Ніхто мяне не зводзіў. Я пачаў паліць цыгарэты ў дваццаць тры гады ў войску. Восемдзесят другі, восемдзесят трэці. Кайзераўскія казематы, халодна. Там, дарэчы, «Агмень» напісаў. На месяц выдавалі па васемнаццаць пачкаў цыгарэтаў. Усе запаляць, а я — не, сумна. Так і ўцягнуўся. А выпіваць начаў у дваццаць шэсць. Ніхто мяне не спойваў. Бацька мяне такім зрабіў… Добра памятаю: я на каленях маленькі, бацька возьме яечні, нажуе, дасць мне. А на стале — самагонка, пілі яе тады малянкоўскімі шклянкамі…

Грошы мне за першыя кнігі заплацілі вялікія. На той час я кватэру ў цэнтры сталіцы мог бы купіць. Пачалася зоркавая хвароба — малады, прыгожы, ды яшчэ пры грашах. Мы з Міколам Сцепаненкам неяк узялі каньяку, налілі яго поўненькае вядро. Сталі ў каньяк грошы кідаць, а пасля імі — пяцідзесяткамі і соткамі — нішы ў бары абклейваць. Зараз шкадую. Я ў інтэрв'ю, якое даваў для «Чырвонай змены», напісаў, што ніколі ні пра што не шкадую. Шкадую, я б зараз зусім па-іншаму распарадзіўся сваім жыццём… А тады «закайфаваў» — ад славы, ад пахвальбы. Дудараў, Някляеў вадзілі мяне па ўсіх багемных месцах. Яны ж давалі мне рэкамендацыі ў СП, паўсюль са мной хадзілі. А да гэтага я амаль не піў, мне з трох чарак магло блага зрабіцца. Але гэта ўсё легенды, што я п'яніца. Мне выходзіць з гэтага стану не трэба… Што гарэлка, што цыгарэты — калі няма, дык прасіць не буду… Звычайна, прыносяць. Вось маладыя часта ходзяць, «першацветаўцы». Прынясуць і цыгарэты, і варэнне. Ідуць, як да гуру.

*Г.К.: А як ты ставішся да маладых, ці вылучаеш каго?*

А.С.: Я іх зусім не ведаю. Не магу назваць нікога, хто быў бы роўны мне. Я раней сказаў, што памыю ногі таму, хто прыйдзе пасля мяне, будзе пісаць так, як я, ці лепш, і ваду з

тазіка вып'ю. Можа, хто народзіцца, а можа, ужо і ёсць хто, ды я не ведаю... Яны ўсе да мяне ходзяць: «Толік, я правільна пішу ці не?». Адказваю, як некалі Міхась Лынькоў: «Дзярзай, уюнаша!»

*Г.К.: А можа, пісьменнікі проста непатрэбныя? Асабліва паэты...*

А.С.: Паэты заўсёды былі непатрэбныя. Але з'яўляліся, нават у тыя часы. Пра гэта не варта думаць. Выдаў кнігу, паставіў сваю вешку і ідзі далей. Пішы так, каб не было сорамна. Я пад кожнай сваёй літарай магу падпісацца.

*2 лютага 2000 г.*

## «Я ЯШЧЭ НЕ ПОПЕЛ І НЕ ПРЫСАК...»

*Міхась Скобла, Радыё «Свабода»*

Апошнім часам Анатоль Сыс рэдка з'яўляецца на публіцы. Пачуўшы гэта, нехта з палёгкаю ўздыхне, прыгадаўшы яго з каструляй баршчу ў паважаным прэзідыуме ці няўседлівым і абураным у шматлюднай залі. Але найбольшую трывогу выклікала тое, што падобныя дзівацтвы рабіліліся ледзь не адзіным спосабам самавыяўле́ння для таленавітага паэта. А таму выхад у свет яго новай кнігі зацікавіў чытачоў — ну няўжо Сыс не змяніўся, не ўзяўся нарэшце за розум? Калі паэт прыйшоў у менскае бюро радыё «Свабода», наша гутарка пачалася з абмеркавання кнігі, якая і сваёй назвай, і мастацкай аздобай падказала першыя пытанні.

*М.С.: Анатоль з тваім новым зборнікам будуць мець клопат бібліёграфы, рэгіструючы яго ў каталогах. Аўтар — Сыс, назва таксама — «Сыс». Навошта ты й тут стварыў праблему?*

А.С.: Я ў гэтым не вінаваты. Я хацеў назваць кніжку «Лён». Але яе афармляў мастак Аляксей Марачкін, і ён прапанаваў назваць яе «Сыс». А мне што? Кажу — назаві мяне хоць чыгуном, толькі ў печ не стаў. Сказаў гэтак ды й паехаў дамоў, у вёску Гарошкаў Рэчыцкага раёна. Мама мая хварэе моцна, і таму я павінен быць пры ёй. А вярнуўся ў Менск — і мяне паставілі перад фактам: кніжка выйшла й называецца «Сыс». Я быў вельмі шчаслівы, і ўсе мае аднавяскоўцы й сябры.

*М.С.: На вокладцы тваёй кнігі змешчаны фотакалаж — Сыс углядаецца ў Сыса. Што ты бачыш, паглядзеўшы на сябе збоку?*

А.С.: Што я бачу... Сыс — гэта нарцыс, так мяне заўсёды рыфмуюць. Але я не нарцыс. Прайшоў той час, калі я быў маладым і вельмі раўнівым у паэзіі. А цяпер прачытаю чыенебудзь вершы, прыкладам, Віцькі Шніпа, ён сто вершаў за год піша, прачытаю й калі знайду хоць адзін радок прыгожы, дык бегаю, усіх сяброў сваіх клічу й хвалюся: во, як Віцька напісаў! Быццам бы сам напісаў, я крэпка рады. Раўнівасць у мяне прайшла ў паэзіі. Ужо не той узрост. Во, мне 26 кастрычніка споўнілася 44 гады.

А калаж той прыдумаў таксама Марачкін. Ён, мабыць, паленаваўся маляваць. Паклікаў сына Ігара, ён таксама мастак. Той прыйшоў з лічбавай фотакамерай, я распрануўся да пояса, яны мяне фатаграфавалі. А потым далі здымкі на вокладку. А мне й так добра.

*М.С.: Ты цяпер жывеш пераважна ў Гарошкаве. Са сталічнай мітусні — у вясковую заціш. Не сумна?*

А.С.: Не, гарошкаўцы — цікавыя людзі. Гарошкаў стаіць на Дняпры, гэтым летам я крэпка рыбу лавіў. Была нядаўна такая гісторыя. Да нас з Гомельскага універсітэта студэнты прыязджалі народную творчасць запісваць. Знайшлі гарошкаўскага дзеда Грынцю. Дык ён ім тры касеты нагаварыў сваіх вершаў. Яны прыйшлі да мяне пахваліцца. Я кажу — урубіце мне запіс. Паслухаў-паслухаў ды й кажу: «Дурні вы такія. Няўжо вы не ведаеце беларускую літаратуру?» А дзед Грынця начытаў ім з Багушэвіча, з Якуба Коласа... У мінулую вайну ён быў артылерыстам, і яго кантузіла пад Берлінам. Застаўся адзін пры гармаце й адстрэльваўся ад фашыстаў. Ён цяпер глуханямы, але памяць такую мае! Не тое, што я — толькі некалькі ўласных вершаў памятаю. Вось такі ў нас «народны паэт» дзед Грынця. І такіх багата ў Гарошкаве.

Гарошкаўцы сёння няблага жывуць. Наш калгас «Савецкая Беларусь» — адзін з самых багатых. У нас камбайнёры Ярыловічы штогод займаюць прызавыя месцы на ўборцы збожжа. Аўтамабілі ім давалі, матацыклы, лядоўні. Нашыя людзі сапраўды працуюць, хто працаваць хоча. Трактарысты атрымліваюць па дзвесце тысячаў, пастухі — па сто пяцьдзесят тысячаў. Нармалёва, пражыць можна. Але нядаўна да нашага калгаса прыядналі суседні калгас «Свірыдавічы», які разваліўся, дык у нашага старшыні інфаркт быў — чым ім заробак плаціць?

*М.С.: Тваё жыццё ў вёсцы мае сялянскі ўклад, ці вярнуцца да яго ў цябе няма змогі?*

А.С.: У нас ёсць невялікая гаспадарка: карова, певень, пяцёра курэй і чатыры каты. У маці пенсія — семдзесят тыся-

чаў рублёў. Я нідзе не працую, мне за вершы нічога не плацяць. Кніжка выйшла толькі дзякуючы спонсару — маёй сяброўцы Валянціне Якімовіч. Дзяржаўнае выдавецтва ніколі б не выдала.

*М.С.: А хто займаецца гаспадаркай? Карове сена трэба накасіць, ды й падаіць...*

А.С.: Бывае, сястра з Рэчыцы пад'едзе, падоіць, а так — даводзіцца самому, навучыўся. Матцы восемдзесят гадоў споўнілася, яна хворая ляжыць. Няма сілы карову трымаць, будзем прадаваць.

*М.С.: У Менску засталіся твае чытачы. А ў Гарошкаве ці чытаеш ты каму свае вершы, ці маеш з кім пагаварыць пра літаратуру?*

А.С.: Усім здаецца, што простыя людзі далёкія ад літаратуры й увогуле ад культуры. А насамрэч, як толькі сядзем пагаварыць, усе просяць, каб я пачытаў, усім хочацца ўзвышанага ў гэтым свеце. А яны мне за гэта ў якасці ганарара пад'есці дадуць, калі ў мяне няма. Калі ў іх няма пад'есці — я з імі дзялюся, малака ім прынясу. Так мы й жывём, дзелімся, адзін не пражывеш.

*М.С.: Памятаю, як ты гаварыў — вось выйдзе кніжка, і я пачну новае жыццё: кіну блазнаваць, пачну пісаць. Кніжка выйшла, а новае жыццё пачаць не ўдаецца. Ці ты не спрабуеш?*

А.С.: Як Бог дасць. Нядаўна ў мяне быў Алег Бембель — цяпер брат Мікалай — з Жыровіцкага манастыра. Дарэчы, ён асвяціў маю кватэру, хоць пастрыжаныя манахі й не ма-

юць на гэта права. Але я яму ўдзячны за гэта. «Пути Господни неисповедимы», — як кажуць расейцы...

*М.С.: Яны яшчэ кажуць — на Бога надейся, а сам не плошай. А па-беларуску гэта будзе — на Бога спадзявайся, але й сам старайся...*

А.С.: Я згодзен. Усе людзі такія радыя, што ў мяне кніжка выйшла. Усе так у мяне вераць. Я буду пісаць — так адчуваю па сабе, па сваім нутры.

*М.С.: Чытаючы тваю новую кніжку, я лавіў сябе на думцы, што тэксты выпалі з кантэксту часу. Альбо час з іх выпаў — ці не ўсё адно. І толькі верш «Беларускія Ікары» разануў двума радкамі: «Ёсць, Ікары, ёсць і ў вас сталіца. Там тыран накрыў для вас сталы...» Ці тыран у цябе тут — вобраз абагульнены?*

А.С.: Абагульнены. Тыраны былі, ёсць і будуць. І нічога з гэтым не паробіш. Але Л. — не тыран. Ён не тое, што заблудзіўся, у яго — амбіцыі. І няхай ён кіне свае амбіцыі. У нас адная Радзіма, у нас адная зямля і адзін хлеб. На нядаўнім пісьменніцкім з'ездзе я надпісаў і перадаў яму сваю кніжку з гэткім надпісам: «Алесь, любі Беларусь, любі сваю маці. Яна ў цябе старэнькая, як і ў мяне. Дык беражы яе!»

*М.С.. У тваёй менскай аднапакаёўцы — запусценне. Ствараецца ўражанне, што й кніжкі, якія стаяць на паліцах, ты ў рукі не бярэш. Няма патрэбы чытаць, ці няма тых кніжак, чытаць якія ёсць патрэба?*

А.С.: Чаму, я чытаю. Гарошкаўскую бібліятэку я напалову ўжо прачытаў. Праўда, да мастацкай літаратуры апошнім

часам мала звяртаюся, чытаю больш газеты. З матчынай пенсіі выпісаў «Народную волю». У суседа бяру «Советскую Белоруссию». А самае лепшае чытанне — сустрэцца й пагаварыць з нармалёвым, цвярозым чалавекам, сябрам.

*М.С.: Калі выходзілі твае зборнікі «Агмень» і «Пан Лес», усе крытыкі адзначалі ў іх паганскія матывы. Думаю, з такім жа поспехам там можна было адшукаць і матывы хрысціянскія. А якое ў цябе стаўленне да рэлігіі, да Бога?*

А.С.: Калі я вучыўся ў Гомельскім універсітэце, дык збіраў абразы. У мяне іх было каля сямідзесяці! Я з-за іх ледзь вучобу не кінуў, яны мне нават сніліся. А потым я падараваў сваю калекцыю ў Гомельскі краязнаўчы музей — цэлы аўтобус напакавалі. Я сабе пакінуў чатыры ўсяго, ды й то потым сябрам раздарыў. Цяпер у мяне ў менскай кватэры толькі адзін абраз — з вёскі Холмеч Лоеўскага раёна.

*М.С.: А ці ёсць у Гарошкаве царква?*

А.С.: Не, няма, ёсць у суседняй вёсцы. Нядаўна пабудавалі. Дарэчы, Аляксей Марачкін падараваў маёй маці Марыі абраз уласнай работы — «Маці Божая Чарнобыльская». Дык я маму ўгаварыў перадаць яе ў новазбудаваны храм, там жа сцены голыя былі. Абраз той там і цяпер вісіць, недалёка ад алтара.

Я веру ў Бога. Але ў царкву хаджу рэдка, гады ў рады. Калі вельмі-вельмі цяжка на душы. Дык калі прыцісне — я бягу ў царкву. Было такое, што прыбягаю й на калені станаўлюся... Але лягчэй мне ўсё адно не робіцца. Мабыць, я крэпка зграшыў у гэтым жыцці...

*М.С.: «Я яшчэ не попел і не прысак...» — пішаш ты ў сваёй новай кніжцы. Што падтрымлівае твой прыцьмелы творчы агмень сёння, не дае яму перадчасна патухнуць?*

А.С.: Матка мая. Яна сказала: «Толік, я буду жыць, пакуль ты жывеш». І таму, калі выйшла кніжка, я адразу прынёс яе маці. Яна была радая. Мама, для цябе я пачытаю такі верш, можа, ты яго й не чула.

На твары шчаціннe, як пожня жытнёвая,
вочы — прааталіны мутнай вады...
— Мілы сынок мой, пачні жыццё новае,
грэх блазнаваць у Хрыстовы гады.

— Мама, я рады б — як пчолы на ліпень,
музы лятуць на хмяльнога мяне.
Жыць без паэзіі — гэта ж пагібель!
Жыць без віна? Гэта ж смерць удвайне.

Хто ж вінаваты, што аж з нараджэння
з мёдам смакчу я з цябе малако?
Ведаю, сохне пацііху карэнне,
хоць і жывеш над Вялікай Ракой.

Ну і няхай музам колкая пожня,
горкія вусны мае, дык няхай.
Мама, такога народзіць не кожная,
мама,
        не перажывай!

*27 кастрычніка 2002 г.*

## КАРОТКІ ЖЫЦЦЯПІС АНАТОЛЯ СЫСА

**1959** — Анатоль Ціханавіч Сыс нарадзіўся 26 кастрычніка ў вёсцы Гарошкаў Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці. Бацька — Ціхан Цярэнцевіч Сыс (1915—1987) працаваў шафёрам, слесарам-меднікам. Маці — Марыя Іванаўна з Гапоненкаў (1922—2002) — настаўніца, хатняя гаспадыня, у апошнія гады працавала ў калгасе. Апрача Анатоля ў сям'і гадаваліся дзеці: Тамара (нар. 1951), Валянціна (нар. 1953), Віктар (нар. 1955), Людміла (нар. 1957; памерла маючы два месяцы).

**1967** — ідзе ў першы клас Гарошкаўскай пачатковай школы з беларускай мовай навучання.

**1977** — заканчвае Броннеяскую сярэднюю школу з рускай мовай навучання.

**1977—1982** — пасля няўдалай спробы паступіць на акторскае аддзяленне Тэатральна-мастацкага інстытута адразу паступае на гісторыка-філалагічны факультэт (аддзяленне беларускай і рускай мовы і літаратуры) Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, дзе вучыцца разам з Вольгай Куртаніч, Алесем Бяляцкім, Эдуардам Акуліным, Анатолем Казловым.

**1980** — у складзе студэнцкага будатрада «Пунсовыя ветразі» працуе на будоўлі ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна.

**1981** — пачынае друкаваць вершы ў абласной газеце «Гомельская праўда» і рэспубліканскай «Чырвонай змене».

**Снежань** — удзельнічае ў Рэспубліканскім семінары маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах.

**1982** — заканчвае Гомельскі дзяржаўны універсітэт.

**1982—1984** — служыць у Савецкай Арміі (сапёрныя войскі) на тэрыторыі Польскай Народнай Рэспублікі (г. Легніца).

**1984** — працуе карэспандэнтам сельскагаспадарчага аддзела Веткаўскай раённай газеты «Перамога Кастрычніка».

**1985** — пераязджае ў Менск, дзе працуе тэхнікам Беларускага тэлевізінага цэнтра (да 1991 г.) і жыве ў службовым інтэрнаце на вул. Авангарднай, дом 61, корп. 2, пак. 17.

**1986** — у Менску ствараецца рэспубліканскае Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», дзе А. Сыс з'яўляецца адным з лідэраў (старшыня — А. Бяляцкі).

Удзельнічае ў адкрыцці музея Паўлюка Багрыма ў Крошыне Баранавіцкага раёна; выступае ў друку па праблемах багрымазнаўства.

**1987** — бярэ ўдзел у мітынгу, прысвечаным Дню памяці — Дзядам, дзе агучвае спіс рэпрэсаваных у 1930-я гады літаратараў (мітынг адбываўся ў менскім гарадскім скверы імя Янкі Купалы).

**1988** — у бібліятэчцы часопіса «Маладосць» выходзіць першы паэтычны зборнік А. Сыса «Агмень». (Мн., Выдавецтва ЦК КПБ Беларусі, 48 ст., наклад 4 158 асобнікаў; рэдактар — Яўгенія Янішчыц.)

Прыняты ў сябры Саюза пісьменнікаў БССР. Рэкамендацыі далі Уладзімір Някляеў, Аляксей Дудараў, Васіль Жуковіч.

З менскім рок-гуртом «Мроя» выязджае ў Львоў, дзе выступае на паэтычнай імпрэзе ля помніка Івану Франко.

На Дзяды ўдзельнічае ў памінанні продкаў на Усходніх могілках і ў Курапатах (грамадскае шэсце і мітынг былі брутальна разагнаныя сілавымі структурамі).

**1989** — у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выходзіць у свет складзены С. Дубаўцом літаратурны зборнік «Тутэйшыя», дзе разам з творамі сяброў таварыства змешчаны толькі адзін верш А. Сыса «Наступніку Уладзіміра Караткевіча».

Выходзіць другая кніга А. Сыса «Пан Лес». (Мн., Мастацкая літаратура, 112 ст., наклад 5 000 асобнікаў; рэдактар — Рыгор Барадулін.)

26 кастрычніка ў менскім Доме літаратара з аншлагам праходзіць літаратурная вечарына А. Сыса, на якой прысутнічае маці паэта Марыя Іванаўна. На вечарыне выступілі пісьменнікі: Анатоль Вярцінскі, Алесь Разанаў, Леанід Галубовіч, Адам Глобус, Сяржук Сокалаў-Воюш, Міхась Скобла, Алесь Камоцкі і інш.

Удзельнічае ва Усесаюзным семінары маладых пісьменнікаў у Маскве, дзе прадстаўляе Беларусь разам з Алесем Наварычам, Аляксандрам Лукашуком, Галінай Тычкай, Андрэем Федарэнкам.

У выдавецтве «Мастацкая літаратура выходзіць» калектыўны зборнік сатыры і гумару «Асцюкі за каўняром», дзе апублікаваныя пародыі А. Сыса (пад псеўданімам Толік Ганарар).

Кастрычнік — удзельнічае ў Рэспубліканскім семінары маладых літаратараў у Ісачы.

**1992** — выязджае ў Польшчу, дзе бярэ ўдзел у фестывалі беларускай маладзёвай культуры «Басовішча» на Беласточчыне.

У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча (Менск) праходзіць паэтычная вечарына А. Сыса.

**1993** — запрошаны ў журы Першага нацыянальнага фестываля бардаўскай песні, які праходзіў у Менску.

**1995** — знаходзіцца на лекаванні ў гастраэнтэралагічным аддзяленні менскай больніцы № 2.

Па Беларускім тэлебачанні дэманструецца «фільм» рэжысёра Ю. Азаронка «Ненависть. Дети лжи», дзе ў непрывабным святле (дзеля прапагандысцкіх мэтаў) паказаныя дзеячы беларускай культуры і палітыкі, у тым ліку А. Сыс.

**1998** — у газеце «Звязда» вядзе рубрыку «Анталогія беларускай паэзіі»; пабачыла свет дваццаць выпускаў.

У Беластоку выходзіць анталогія новай беларускай паэзіі «Za niebokresem Europy» («За небакраем Еўропы»), дзе змешчана нізка вершаў А. Сыса ў перакладзе Яна Максімюка.

**2002** — пабачыў свет трэці паэтычны зборнік «Сыс». (Мн., Мастацкая літаратура, 160 ст., наклад 200 асобнікаў; аўтарскі назоў — «Лён»; рэдактар — Валянціна Хлебавец.) Кніга выйшла дзякуючы фінансавай дапамозе Валянціны Якімовіч.

**2005** — 4 траўня Анатоль Сыс памірае ў сваёй менскай кватэры (вул. Чарвякова, дом 2, корпус 3, кв. 81).

9 траўня — развітанне з паэтам у сталічным Доме літаратара.

10 траўня — пахаванне на могілках у Гарошкаве.

**2006** — 28 кастрычніка ў Гарошкаве зладжана першае свята паэзіі «Дух — гэта людзі, я!..», прысвечанае Анатолю Сысу, якое мяркуецца праводзіць штогадова.

ЗМЕСТ

Сэрцаграмы Сыса. *Міхась Скобла* ........ 3

**«Агмень», 1988**

«— З чаго пачаць?.. Пачну з Радзімы...» ........ 13
Хворы хлопчык з цацкай ........ 14
Хлопчык з пацеркамі ........ 15
Пастушок ........ 16
«Не выракалася жыта валошкаў...» ........ 17
«Мой дзед спаць укладваў...» ........ 18
Сейбіт ........ 19
«Дарога полем — да маці...» ........ 20
Галодны год ........ 21
Аднойчы паміж Берлінам і Варшаваю ........ 23
Сон ........ 24
Старасць ........ 25
«Гэты свет — для размену манет...» ........ 26
Сто крокаў да світання ........ 27
Сохне трыснёг маёй памяці ........ 28
Жанчына ........ 29
Забойства ў Нью-Ёрку ........ 30
«Аеравыя крылы...» ........ 31

Словы ........ 32
Чалавек, які падтрымлівае агмень ........ 33
«Каб сагрэць каханую...» ........ 34
Вячэра перад купаллем ........ 35
«...І мяне натхняе воля...» ........ 36
Колькі ........ 37
«Якое б жыта ні ўрадзіла...» ........ 39
«Часта пытаюцца: як вершы пішуць...» ........ 40
Каля твайго парога ........ 41
Трыпціх утульнага вогнішча ........ 42
Маналог Зміцера Жылуновіча ........ 44
«Дарога ў жыцці і ў жыцце...» ........ 45
Музыкам фальклорна-этнаграфічнага гурту «Свята» ........ 46
Серабрыстыя збаны ........ 48
«Вочы — суклон...» ........ 50
Продкі, выклікаю вас ........ 51
Алаіза: *Паэма* ........ 52
Агонь-птушка: *Паэма* ........ 67

**«Пан Лес», 1989**

«І словы мае — вярыгі мае...» ........ 79
Неапаленая купіна ........ 80
Пацеркі ........ 82
«Поле поле ў німбах сланечнікаў сланечнікаў ...» ........ 83
«Радзіма пачынаецца з жанчыны...» ........ 84
Дзед перад смерцю ........ 85
Рай ........ 87
«Бацька так і не ссівеў...» ........ 88
«Пад бярозаю косці...» ........ 89

«Мой радавод вёў летапіс свой плугам...» ....... 90
Нізка абаранкаў ....... 91
Блудны сын ....... 93
Брукаванка ....... 95
Браты ....... 96
Мара пра сына ....... 97
«Гэта памятае толькі маці...» ....... 98
Радзіма ....... 99
«Трэснуў лёд, быццам трэснула жыла...» ....... 100
«Як па зорках, па расе...» ....... 101
«Без мяне будуць жаць...» ....... 102
«І ў ручаёх жыве стыхія...» ....... 103
Апакаліпсіс ....... 104
Кола ....... 106
«Я дарэшты ў тваёй уладзе...» ....... 108
У шкляным саркафазе ....... 109
Перад цыганскім дажджом ....... 110
У чароце птушка начавала ....... 111
Натхненне ....... 112
Паэт («На памежжы чужыны з Айчынай...») ....... 113
Суд птушак ....... 115
Воўк ....... 116
Маналог расстрыгі ....... 117
«Пайду туды, адкуль прыйшоў...» ....... 118
«Хто натхніць мяне на смерць?..» ....... 119
Чацвёрты цвік ....... 120
«Спаўзаючы з церня...» ....... 121
О неба ....... 123
«Берасцянае неба, роднае...» ....... 125

Капцы ........ 126
«— Самыя жывыя багі — багі дзядоў...» ........ 128
Смерць ........ 129
Смага ........ 130
«Берасцянымі трубамі ў небе гудуць журавы...» ........ 132
Агонь ........ 133
Бераг ........ 134
«Сівыя пчолы...» ........ 135
Змяіны цар ........ 136
Лес ........ 137
Пан Лес ........ 138
Чырвоны радок ........ 140
Дух ........ 141
Марыя ........ 143
Маналог адступніка ........ 145
«Ён шкадаваў турэмных пацукоў...» ........ 146
Штучная раса ........ 147
«Каб ты каменем стаў!..» ........ 148
Вільня, 1864 год ........ 149
Памяць пра яцвягаў ........ 151
Маналог Сяргея Палуяна ........ 153
Званы ........ 155
Маналог Рамуальда Жакоўскага ........ 157
Маналог Уладзіміра Жылкі ........ 159
«Злачынцы брыдуць на споведзь...» ........ 160
«На скрыжаванні сцяжын...» ........ 161
Крыжавалі крумкача ........ 163
Таптали поле валуны ........ 164
Бажавоўк ........ 165

Маналог Язэпа Драздовіча ........ 167
Данута Бічэль-Загнетава ........ 168
«Калі алені адшукаюць вадапой...» ........ 170
Як жыў я без солі ........ 171
Чорная гадзюка, белая змяя ........ 172
Як я прадаў сябе агню ........ 174
Пошасныя ........ 175
Вяпрук ........ 177
Пра што шэпчуцца мурашы ........ 179
Яблыня ........ 180
Пацір ........ 181
«Ляцелі ў вырай ветракі...» ........ 183
Паэт («Ніхто не мае права жыць з Паэтам...») ........ 185
Адвечным шляхам ........ 186
Вужака ........ 187
Балада пра птаха ........ 188
Маналог Алеся Гаруна ........ 191
Чорная быль ........ 193
Маналог Апанаса Філіповіча ........ 195
Сабака ........ 197
Прачытаўшы верш Пімена Панчанкі «Развітанне» ........ 199
Маналог «Тутэйшага» ........ 201
Урода мая, уродачка ........ 204
«Вятры маю цалуюць галаву...» ........ 206

**З кнігі «Сыс», 2002**

Ружа ........ 209
«Журавы спяваюць паланез...» ........ 210
«Я зжэр бы свой народ...» ........ 211

Вам, на ложку зямным... 212
«Я п'ю адзін чырвонае віно...» 214
«У кніжцы маёй безыменнай...» 215
Песня пра жану 216
Эй, ювелір 218
Ветах 219
«У нябёсах маіх дагараюць вагні...» 220
У Чырвоным касцёле 222
Скарпіён 224
Не хадзіце за мной 225
«Пад вакном журба збірае мяту...» 227
Перад Богам 228
Самотны 230
Беларускія Ікары 233
Песня пра ўваскрашэнне вершніка 235
«Мой Дняпро тры тысячы гадоў...» 236
Ластаўка 238
«...І разышлося неба над студняй...» 239
Маналог Каруся Каганца 240
У Сафіі крыж чырвоны 241
«Беларусь мая, мая магіла...» 242
Замова ад Курапат 243
«Я яшчэ не попел і не прысак...» 244
Рэабілітацыя 245
«Распаўзліся маланкі па лесе нябёсным...» 246
«Мы — чарада самотных птахаў...» 247
Як той сабака 248
Беларусі 249
Наступніку Уладзіміра Караткевіча 251

«Лёс шляхі выбірае...» ........ 252
Дзікі мёд ........ 253
«А я помню, як мяне хрысцілі...» ........ 254
«Загубіла мне паэзія жыццё...» ........ 255
Цнатлівы князь ........ 257
«Тры мазалі ў мяне. Бог тройцу любіць...» ........ 259
«Закалышы дзіця маімі вершамі...» ........ 261
Паэт («Паэт — боская птушка...») ........ 262
Мая хата без сяброў — не хата ........ 263
Песня пра каханне ........ 264
Калі люблю ........ 266
«Паэтам можаш ты не быць...» ........ 267
«На твары шчацінне, як пожня жытнёвая...» ........ 268
Ёсць дзіцятка ........ 269
«Памрэш сыты ці галодны...» ........ 271
«Не існуе распусных кветак...» ........ 272
Будзьма! ........ 273
«Надта хочацца ў вырай...» ........ 275
Сэрца ........ 277
«Калі краты распілаваць...» ........ 281
Пастухі ........ 282
«Як расу баравіковую...» ........ 284
Гліна ........ 285
Песня пра сына ........ 287

**Вершы розных гадоў**

«Зашклёны дзень, як дом зашклёны...» ........ 291
«Восень — калі лось скідае рогі...» ........ 292
Ямб лаўровым вянкам ........ 293

Музыка ........ 294
Гусоўскі вяртаецца на радзіму ........ 295
«Вайна — гэта каскі іржавыя...» ........ 296
«Прыгожыя людзі і спяць прыгожа...» ........ 297
Ліпа ........ 298
«Адпачніце, птушкі, у лясах...» ........ 299
Ручаі няхай мыюць золата ........ 300
Балада сівога бусла ........ 301
«Кажуць мне: не жыві ілюзіяй...» ........ 302
Каханне, выберы мяне ........ 303
На Купалаў фэст ........ 305
«У матулі маёй вочы выцвілі...» ........ 306
Плакала жанчына ........ 307
«Я дару мітусні, небыццю і бясчассю...» ........ 308
Жыццё ........ 309
«Я думаў, пра вайну пісаць не маю права...» ........ 310
Думку думала птушка трохкрылая ........ 311
«Паэзія — як рэлігія...» ........ 312
Я папрасіўся нанач, незнаёмы ........ 313
«Атуляю даланёй, як свечку...» ........ 314
Поўня ........ 315
Я сяброў частаваў стогадовымі вінамі ........ 316
«Быць паэтам — і фарс, і драма...» ........ 317
[Наследаванне N.] ........ 318
Імправізацыя ........ 320
«Так жыццё бяздарна пралятае...» ........ 321
«Дзяўчына з вачыма колеру піва...» ........ 322
«Паэт, бы забойца, начамі не спіць...» ........ 323
«Я ведаю. Я ў карты прагуляны...» ........ 324

Да Жэні Янішчыц ..... 325
«Ну, што ж, мастак, ты заслужыў...» ..... 326
Страцім-Лебедзь ..... 327
«Зорнай ноччу, хай вам верыцца-не верыцца...» ..... 328
Вечны Жыд ..... 329
«Адпусціце мяне, Курапаты...» ..... 330
«Хрысціянскае сэрца Беларусі баліць...» ..... 331
Пчаліная матка ..... 332
Эпітафія сябруку Валодзю Цыбульскаму ..... 333
«Шрыфтам Брайля на калядным снезе...» ..... 334

**Артыкулы, інтэрв'ю**

Дні лятуць... ..... 337
Сабака на эскалатары ..... 341
Жыццё ў радку і ў метале ..... 347
Радзіма Паўлюка Багрыма ў мінуласці ..... 351
«Мяне зрабіў Слуцак» ..... 367
Прыгонны паэт ..... 377
«Я павінна ахоўваць карэнні дрэва свайго» ..... 379
Уладзімір Караткевіч ..... 380
Уладзімір Дубоўка ..... 381
Міхась Стральцоў ..... 382
Данута Бічэль-Загнетава ..... 383
Кірыл Тураўскі ..... 384
Пімен Панчанка ..... 385
Мікола Купрэеў ..... 386
Мікола Гусоўскі ..... 388
Валеры Маракоў ..... 389
Тэатр аднаго паэта ..... 391

«У паэзіі мы выйшлі ў космас...» ........ 399
«Як пойдуць восеньскія дажджы —
пачну пісаць...» ........ 406
«Маладыя ідуць да мяне, як да гуру...» ........ 411
«Я яшчэ не попел і не прысак...» ........ 415

Кароткі жыццяпіс Анатоля Сыса ........ 422

Укладальнік і выдавецтва
выказваюць асаблівую падзяку
Беларускаму таварыству імя Роберта Шумана
і сп. Валянціне Якімовіч.

Выданню кнігі таксама паспрыялі
Культурна-адукацыйная фундацыя Орса Рамана,
Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага,
сябры Беларуска-Амерыканскага З'адзіночання
(Нью-Ёркскі аддзел).

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Сыс Анатоль Ціханавіч

# Лён

*Выбраныя творы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Я. Янушкевіч*
Мастак *У. Вішнеўскі*
Мастацкі рэдактар *А. Глекаў*
Камп'ютэрны набор *М. Скоблы*
Вёрстка *Л. Вайчок*
Карэктар *Л. Вікторка*

Падпісана да друку 24.11.2006 г. Фармат 70x108 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. 19,07 арк. Ул.-выд. 11,15 арк. + 0,64 укл.
Наклад 1500 паас. Зак. 1434.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія ЛВ № 02330/0131712 ад 12.05.06.
220112, Мінск, вул. Я. Лучыны, 38-93.
**Тэл./факс (017) 204-86-97,**
**тэл. (029) 772-19-14.**

Надрукавана з арыгінал-макета заказчыка
Ў друкарні ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9.

